ЛіМ
Літаратура і мастацтва
ISSN 0024-4686
№3 (4649) 20 студзеня 2012 г.

## Калонка рэдактара



# Вы нам пісалі…

**Таццяна СІВЕЦ**

Калі б вы ведалі, колькі лістоў штодня прыходзіць на адрас "ЛіМа"!..

Нехта дасылае вершы, нехта — празаічныя творы, адны просяць асабіста пазнаёміць іх з нейкім беларускім літаратарам, а другія прыгадваюць "жаласлівыя песні" сваёй маладосці… Ёсць і тыя, каму газета не падабаецца. Яны лічаць сваім абавязкам падзяліцца гэтым. За пэўныя заўвагі можна толькі падзякаваць, але часам хочацца спытаць у аўтара: "Калі Вам так не падабаецца тое, што мы робім, навошта чыталі-напружваліся?" У нашай краіне вельмі шмат самых розных выданняў — "ЛіМ" мусіць адрозніваць: глыбінёй матэрыялаў, іх разнастайнасцю, уласным поглядам на культурныя падзеі ў краіне... Зрэшты, дзеля гэтага 80 гадоў таму і стваралася "газета творчай інтэлігенцыі Беларусі" — аб'ядноўваць самых таленавітых, каб разам супрацьстаяць графаманіі ў літаратуры і прафанацыям у самых розных галінах мастацтва.

Сёння за грошы можна надрукаваць сабе кніжку — ці ў адным экземпляры, ці тысячай асобнікаў. І хаця такое выданне вылучаецца вопытным вокам на паліцы кнігарні, як копія "Сланечнікаў" Ван Гога, выкананая вучнем пачатковай школы, побач з арыгіналам, але ж і ўкладання дзяржаўных грошай не патрабуе, ды і аўтару ёсць што сябрам падарыць... Змагацца з гэтымі працэсамі — практычна бессэнсоўна, бо кожны графаман лічыць сябе ні больш ні менш класікам беларускай літаратуры, даводзіць адваротнае — сабе даражэй... А трапіць на старонкі "ЛіМа" насамрэч вельмі проста: даслаць цікавы расповед пра падзею, дзе не будзе шаблоннага "былі-выступілі-адзначылі", прапанаваць арыгінальны позірк на беларускую літаратуру, выказаць крытычную думку (не пераходзячы на асобы і не выкарыстоўваючы артыкул у якасці зброі ў барацьбе з уласнымі літаратурнымі ворагамі)...

"Абавязкова надрукуйце мой твор у бліжэйшым нумары!" — часам просяць нашыя адрасанты, забываючыся пра іншых, натуральна, бо ўласна напісанае падаецца самым важным.

"Вы не апублікавалі мой артыкул — вы забараняеце мне займацца прафесійнай дзейнасцю!.. Я буду скардзіцца на вас…" І скардзяцца ж… І пішуць... На жаль, не новыя творы... Часам вельмі хочацца аддаць у друк некаторых так, як ёсць, без правак і прыхарошванняў, але ж "ЛіМ" — гэта своеасаблівы знак якасці.

А бывае, думаеш: "Раптам гэта я нечага не разумею…" І вось тады надзея толькі на вас, шаноўныя чытачы "ЛіМа"! Вы — нашыя самыя справядлівыя крытыкі, якіх не ўлагодзіш ні імем, ні пасадай, ні званнем. Вы зможаце знайсці прыхаваны сэнс паміж радкоў і даруеце нам выпадковыя памылкі друку... Да таго ж, у хуткім часе мы прадставім на сайце газеты магчымасць прагаласаваць за самыя цікавыя матэрыялы нумара. Але галоўная ваша адзнака — тое, ці дачытаеце вы "ЛіМ" да канца… Спадзяюся, што дачытаеце!

# Ахоўнік душы народа

**Да 120-годдзя з дня нараджэння народнага артыста СССР, Героя Сацыялістычнай Працы, вядомага музычнага дзеяча і фалькларыста Рыгора Шырмы.**

**Вячаслаў РАГОЙША**



У Рыгора Шырмы (8[20].1.1892 — 23.3.1978) быў любімы выраз, які з часам зрабіўся крылатым: "Песня — душа народа". Які глыбокі сэнс у трох гэтых словах! Асабліва калі прыгадаць сказанае ў свой час Францішкам Багушэвічам: родная мова — гэта "адзежа душы" чалавека. Значыць, беларуская народная песня і ёсць сапраўдная душа беларуса!

Тады, восенню ўжо далёкага 1958 года, мы, студэнты-першакурснікі філалагічнага факультэта БДУ, з разуменнем успрынялі гэтую думку, агучаную Рыгорам Раманавічам у часе сустрэчы з намі. Дзіяна Пятроўна Багрова, высокая чарнявая прыгажуня з пявучым, добра пастаўленым голасам, якая чытала нам курс фалькларыстыкі, запрасіла тагачаснага кіраўніка Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы БССР (сёння — Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла Рэспублікі Беларусь імя Р. Шырмы), на сустрэчу з будучымі настаўнікамі-філолагамі. Мы стараліся не прапусціць ніводнага слова маэстра, невысокага, сівавалосага, з чэхаўскай бародкай і своеасаблівай інтанацыяй — надзвычай меладычнай, павольнай, "окаючай" (яе, дарэчы, таленавіта пераймаў студэнт філфака Іван Курбека). А Рыгор Раманавіч гаварыў:

*— Мы, беларусы, валодаем адной з самых багатых у славянскім свеце вусна-паэтычнай народнай творчасцю. Калі б сабраць яе — песні, казкі, легенды, замовы, галашэнні, прыказкі і прымаўкі, іншыя жанры — і выдаць, мабыць, не хапіла б і ста тамоў. Толькі ад адной сваёй цёткі Захвеі Хвораст на маёй роднай Пружаншчыне я ў свой час запісаў больш як 150 народных песень. Чым усё гэта тлумачыцца? Надзвычайнай таленавітасцю нашага народа, які, аднак, у выніку нацыянальнага і сацыяльнага прыгнечання не мог належным чынам выявіць сябе ні ў слоўным мастацтве, ні ў прафесійнай музыцы. Простаму чалавеку "выйсці ў людзі", скончыць вышэйшую навучальную ўстанову, як вам сёння, было амаль немагчыма. З другога боку, беларуская мова і панскімі польскімі, і царскімі расійскімі ўладамі забаранялася, за друкаванне на ёй нават бяскрыўднага вершыка пра каханне можна было трапіць у Сібір. Але талент забараніць нельга. Вось і выяўлялі сябе сотні безыменных геніяў у складанні казак, легенд, слоў і мелодый песень, якія затым шліфаваліся, адточваліся, каб зазіхцець, як той камень-дыямент…*

Словы Рыгора Раманавіча падалі не на камень. Маладыя нашы сэрцы былі акрыленыя рашэннямі XX з'езда КПСС, які выкрыў культ асобы Сталіна, хрушчоўскай грамадскай "адлігай", што тады распачыналася. Гэта надавала нам адвагі, рашучасці і ў захаванні, прапагандзе народнай творчасці, і ў абароне роднага слова. А тое і другое тады (як, зрэшты, і цяпер) вымагала маладых высілкаў. Панаваў пэўны нігілізм у дачыненні да народнага мастацтва, якое ўспрымалася некаторымі толькі як этнаграфічны атрыбут, не больш. Што да беларускай мовы, то яна таксама трапіла ў лік "неперспектыўных"… Зразумела, Рыгору Раманавічу пасля яго выступлення мы пачалі задаваць пытанні, якія нас — і не толькі як філолагаў, але і як грамадзян Беларусі — не маглі не хваляваць. Дзіяна Пятроўна, імкнучыся ахаваць госця ад "непрыемных" пытанняў, некаторыя нашы запіскі не чытала. Тады мы падымалі рукі і пыталіся вусна. Як мне помніцца, не ўсе адказы маэстра нас задавальнялі. Зрэшты, на той час Шырма і не мог адкрыта, не рызыкуючы не толькі ўласнай кар'ерай, але і лёсам харавой капэлы, якая столькі рабіла для прапаганды роднай песні і роднай мовы, выказваць нязгоду з "генеральнай лініяй" партыі ці яе асобных тагачасных кіраўнікоў. Тым больш што, як гэта высветлілася пазней, аднойчы за такую адкрытасць ён адсядзеў на Лубянцы, цудам вырваўся з лап смерці…

Дзіяна Пятроўна мне і маім сябрам-аднакурснікам Міколу Пашкевічу і Леаніду Акаловічу даверыла пасля сустрэчы правесці госця дадому. Па дарозе Рыгор Раманавіч распытаў, хто мы, адкуль, хто нашы бацькі і г. д. Я прыгадаў, як год таму "хор Шырмы" (так у народзе называлі той славуты калектыў) прыязджаў у мой Ракаў, выступаў у перапоўненай актавай зале школы, як мае землякі горача прымалі шырмаўцаў, як усе мы, школьнікі, хацелі пасля канцэрта бліжэй падступіцца да харыстаў, дакрануцца да іх фракаў… Рыгор Шырма цёпла адгукнуўся пра "прыгранічны" Ракаў, вядомы на ўсю Заходнюю Беларусь як нелегальны "калідор" для заходнебеларускай моладзі, што імкнулася ў БССР на вучобу і прыстойную працу. Добрым словам успомніў ён і нашага дырэктара школы Васіля Пятровіча Налецкага, руплівага краязнаўцу і патрыёта Ракаўшчыны, які пасля таго канцэрта наладзіў для харыстаў нечаканы "царскі пачастунак". Рыгор Раманавіч расказаў, як ён і яго сябры праз Таварыства беларускай школы (ТБШ) адстойвалі ў Заходняй Беларусі права беларусаў вучыцца на роднай мове, выказаў спадзяванне, што "перакос" у адносінах да беларускай мовы — часовы… Маэстра запрасіў нас да сябе ў кватэру, накарміў смачнай вячэрай. Паказаў, чым займаецца: якраз тады ён рыхтаваў да выпуску першы том свайго знакамітага чатырохтомнага збору "Беларускіх народных песень". Тэксты песень былі раскладзеныя ў дзясяткі папак, ляжалі стосам на стале. Трэба было іх не толькі сістэматызаваць, адрэдагаваць (і словы, і мелодыі), але і забяспечыць належнымі каментарыямі, а выданні — рознымі паказальнікамі: жанрава-тэматычным, імянным, геаграфічным. Рыгор Раманавіч наракаў на недахоп часу, на нездароўе. Мы тут жа выказалі жаданне яму дапамагчы чым можам, напрыклад, першаснай сістэматызацыяй твораў (якніяк, мы ж вывучалі фальклор!), складаннем паказальнікаў… Ён задумаўся, уважліва паглядзеў на нас, а потым прамовіў: "Што ж, дзякую…"

Некалькі месяцаў мы даволі рэгулярна наведвалі кватэру Рыгора Раманавіча, з радасцю выконвалі розную працу: сістэматызавалі, перапісвалі і вычытвалі рукапісы песенных тэкстаў, пазней — чыталі карэктурныя адбіткі, рабілі розныя паказальнікі. Апрача гэтага правялі і адмысловую "акцыю".

(Заканчэнне на стар. 18)

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў старшыню Вышэйшай атэстацыйнай камісіі Беларусі Анатоля Афанасьева з 70-гадовым юбілеем. "Упэўнены, што Ваш навуковы аўтарытэт і талент кіраўніка будуць і ў далейшым садзейнічаць паспяховай дзейнасці Вышэйшай атэстацыйнай камісіі, назапашванню і эфектыўнай рэалізацыі навуковага патэнцыялу Беларусі", — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Падзяка Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь абвешчана генеральнаму дырэктару Мастацка-вытворчага прадпрыемства Рускай Праваслаўнай Царквы "Софрына" (Расійская Федэрацыя) Яўгену Пархаеву за шматгадовую творчую дзейнасць па захаванні лепшых традыцый царкоўных мастацтваў, вялікі ўнёсак у аднаўленне храмаў і манастыроў, развіццё дзелавых і культурных сувязей з Беларуссю.

✔ Рашэннем Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі, Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта і Свяшчэннага Сінода Беларускай Праваслаўнай Царквы ўстаноўлены ордэн святой праведнай Софіі Слуцкай. У 2012 годзе адзначаецца 400-годдзе з дня смерці княгіні. Таксама плануецца ўсталяванне ў Мінску помніка святой Софіі Слуцкай на тэрыторыі аднайменнага Мінскага прыхода і выпуск памятнай манеты з выявай святой.

✔ Беларускаму пісьменніку Георгію Марчуку прысуджана прэмія Саюза пісьменнікаў Расіі "Імперская культура" імя Эдуарда Валодзіна ў намінацыі "Проза" за кнігу "Салодкія слёзы". Урачыстая цырымонія ўзнагароджання адбылася 19 студзеня ў Канферэнц-зале Саюза пісьменнікаў Расіі ў Маскве.

✔ У сувязі з 20-годдзем устанаўлення дыпламатычных стасункаў паміж Беларуссю і Кітаем дэлегацыя дзеячаў культуры і мастацтва КНР наведала Беларусь. Серыя юбілейных мерапрыемстваў пачалася сустрэчай прадстаўнікоў Цэнтральнага інстытута каліграфіі і жывапісу Музея па вывучэнні культуры і гісторыі КНР з Міністрам культуры Беларусі Паўлам Латушкам у Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета. Адбыліся таксама сустрэчы кітайскіх гасцей у Акадэміі мастацтваў Беларусі, Беларускім саюзе мастакоў і Інстытуце Канфуцыя БДУ.

✔ Беларускі кампазітар і прадзюсар Вадзім Рузаў працуе над нацыянальным цыклам з дзесяці песень "Беларусь — мая Радзіма". Плануецца прымеркаваць выхад песень цыкла да 130-годдзя з дня нараджэння класікаў беларускай літаратуры Якуба Коласа і Янкі Купалы — у кампазіцыях будуць выкарыстоўвацца іх творы.

Падрыхтавала
Ірына АЛЯКСАНДРАВА

## Паважаныя чытачы!

26 студзеня ў краме № 13 "Белсаюздруку" (падземны пераход станцыі метро "Плошча Перамогі") з 17 да 18 гадзін будзе праходзіць прэзентацыя штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва". Падчас прэзентацыі вы зможаце атрымаць аўтограф ці карысную параду ў выбары кніг ад пісьменніцы і спецыяльнага карэспандэнта газеты Раісы Баравіковай.

Запрашаем!

## За падзеяй

# Падарыць часцінку душы

**"Я хацеў бы, каб такіх магазінаў адкрывалася больш і ў гэтых прыемных мерапрыемствах удзельнічалі губернатары гарадоў, кіраўнікі раёнаў", — зазначыў падчас адкрыцця крамы № 13 у падземным пераходзе на станцыі мінскага метро "Плошча Перамогі" міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Алег Праляскоўскі.**

**Ірына ТУЛУПАВА,**
**фота Кастуся Дробава**



*На здымку: міністр інфармацыі Алег Праляскоўскі і дырэктар РУП "Белсаюздрук" Ігар Дудзіч на ўрачыстым адкрыцці крамы № 13.*

Крама прадпрыемства "Белсаюздрук" гасцінна расчыніла свае дзверы крыху раней і да ўрачыстага адкрыцця з пераразаннем чырвонай стужачкі мела ўжо добрыя здабыткі. За дваццаць дзён тут прадалі 1 224 кнігі: прыкладна 61 кніга ў дзень пераходзіла ў рукі заўзятых аматараў чытання. "Асаблівасць крамы і ў тым таксама, што поруч з перыёдыкай і сувенірамі пад кнігі аддадзена не менш як 50 працэнтаў плошчы", — зазначыў Ігар Дудзіч, дырэктар "Белсаюздруку". І для гэтай структуры такі падыход новы. Але — зразумелы і неабходны. Крама знаходзіцца ў цэнтры горада, дзе шчыруе не толькі моладзь, а і замежныя турысты, якія завітваюць на плошчу, каб пакланіцца помніку салдатам і партызанам, ускласці кветкі да Вечнага агню. Тым неабходней побач літаратура пра Беларусь, гісторыю краю, нашы каштоўнасці і традыцыі.

На паліцах утульна размясціліся кнігі вядучых айчынных выдавецтваў — гэта пераважна сацыяльна значная літаратура, выданне якой падтрымлівае дзяржава.

"Ініцыятыва аб'яўлення 2012 года Годам кнігі належыць Прэзідэнту краіны Аляксандру Лукашэнку", — падкрэсліў Алег Праляскоўскі. Ён запэўніў: праграма года ўключае вялікую колькасць мерапрыемстваў, і прапановы ідуць ад дзяржаўных структур, грамадскіх арганізацый і грамадзян.

"Кніга і цяпер працягвае заставацца лепшым падарункам. Для гэтага купляліся выданні ад самых танных да самых дарагіх. Нехта сказаў: кніга — часцінка душы. Дык давайце ж адно аднаму дарыць гэтыя часцінкі", — заклікаў міністр.

Гаварылася на адкрыцці і пра тое, што сусветная тэндэнцыя зніжэння цікавасці да кнігі не вельмі характэрная для Беларусі. Паводле статыстыкі, цяпер у Беларусі выдаюцца ў год 4 — 4,5 кнігі на аднаго чалавека — *для* аднаго чалавека. Прыгожае пісьменства заўсёды было ў радасць, спрыяла асвеце і духоўнаму сталенню. Можа, з-за гэтага мы застаёмся на постсавецкай прасторы і ў Еўропе нацыяй, якая чытае. Але хацелася б, каб маладое пакаленне адносілася да кнігі з такім жа трапяткім пачуццём, як і старэйшае. "Дзяржава дапамагала і будзе надалей падтрымліваць кнігу на ўсіх этапах яе стварэння. Для гэтага прадугледжаны шэраг нарматыўных актаў, якія дзейнічаюць, і тых, што знаходзяцца на стадыі распрацоўкі і прыняцця". Цяпер распрацаваны і ўнесены на разгляд парламента праект закона "Аб выдавецкай справе ў Рэспубліцы Беларусь", распрацоўваецца праект указа аб дзяржаўнай падтрымцы кнігавыдання і распаўсюджвання друку ў нашай краіне.

Установы, што працуюць з кнігай, і самі шукаюць шляхі яе набліжэння да чытача. Да прыкладу, жыхары сталіцы і рэгіёнаў маюць магчымасць заказаць любое выданне ў інтэрнэце і забраць яго ў кіёску "Белсаюздрук", які знаходзіцца непадалёк ад дома. Не так даўно адкрыўся інтэрнэт-магазін www.bspechat.by. Але больш прыемна ўсё-такі зайсці ў краму і пагартаць старонкі толькі што выдадзеных кніг.

Дарэчы, крама № 13 — базавы магазін РВУ "Літаратура і Мастацтва", усе навінкі ўстановы вы знойдзеце на яго паліцах.

Рэальных пляцовак для семінараў, прэзентацый, сустрэч з аўтарамі становіцца больш. І ў краме № 13, якая стала ўжо цэнтрам прыцягнення творчых сіл, плануюцца імпрэзы з удзелам знакамітых пісьменнікаў, пасяджэнні за "круглым сталом", вечарыны.

# Пачатак пакладзены

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,**
**фота Кастуся Дробава**

Сімвалічна, што аб'яўлены Годам кнігі 2012-ы аб'яднаў некалькі знакавых падзей: юбілеі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка. У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы на ўрачыстым адкрыцці юбілейнага года Песняра прысутнічалі міністр культуры Рэспублікі Беларусь Павел Латушка, старшыня Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА Уладзімір Шчасны, старшыня Міжнароднага фонду Янкі Купалы Вячаслаў Рагойша, дзеячы навукі і культуры, Надзвычайныя і Паўнамоцныя Паслы ў Рэспубліцы Беларусь — Славацкай Рэспублікі Мар'ян Сэрватка і Чэшскай Рэспублікі Іржы Карас.

Як адзначыў Павел Латушка, "Янка Купала — выбітная асоба для нашай культуры, гонар нацыі. У кожнага народа ёсць свае песняры, якія сілай паэтычнага таленту вызначылі напрамак развіцця мовы, літаратуры і культуры ў цэлым. Яны прыносяць славу і павагу свайму народу, робяцца яго нацыянальнымі сімваламі. Імя Купалы фактычна стала нашым нацыянальным сімвалам".

Падчас мерапрыемства былі прэзентаваны каталог аўтографаў паэта, створаны пры падтрымцы Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА. Сябра апякунскага савета музея Аляксандр Радаеў ад імя сваёй сям'і падарыў



музею карціну Сямёна Геруса "Партызаны, партызаны, беларускія сыны…". Сучаснае прачытанне Купалавых вершаў прысутныя змаглі ацаніць у выкананні гітарыста Сяргея Антонава і скрыпачкі Юліі Бурай.

*На здымку: міністр культуры Беларусі Павел Латушка.*

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

### Прынятыя ў СПБ



**ФРАЛОВА**
**Іна Мікалаеўна**
*Паэт*

Нарадзілася 6 жніўня 1972 года ў г. Мінску. Скончыла Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка. Працуе намеснікам загадчыка ў дашкольнай установе. Друкавалася ў часопісе "Алеся", газеце "Літаратура і мастацтва", аўтар кнігі паэзіі "Чакаю першы снег" (2011).

## Узнагароды

# Прафесіяналы года

**Таццяна КУЗНЯЧЭНКАВА**

Гродзенская вобласць назвала імёны лаўрэатаў прэміі імя А. І. Дубко абласнога выканаўчага камітэта "За творчыя дасягненні ў галіне культуры і мастацтва".

Са словамі віншаванняў да лепшых дзеячаў культуры, што праслаўляюць не толькі вобласць, але і ўсю Беларусь, звярнуліся намеснік старшыні аблвыканкама Ігар Жук і ўдава Аляксандра Дубко Эма Нікіфараўна. Яны пасля і ўручалі дыпломы лаўрэатам — пераможцам у дванаццаці намінацыях. Лепшым клубным работнікам года названы дырэктар Ваўкавыскага РДК Вадзім Бычак, народным майстрам — дырэктар Навагрудскага раённага цэнтра рамёстваў Наталля Клімко, бібліятэкарам года — дырэктар Іўеўскай ЦБС Святлана Міронычак, лепшым музейным работнікам прызнана старшы навуковы супрацоўнік Гродзенскага дзяржаўнага музея гісторыі рэлігіі Галіна Хамко, Ірына Шатыронак — пісьменніца года. У намінацыі "Выкладчык года" пераможцам стаў выкладчык Гродзенскага дзяржаўнага музычнага каледжа Віктар Гільдзюк, Ларыса Іконнікава, таксама выкладчыца каледжа, — музыкант года, а іх калега з Гожскай дзіцячай школы мастацтваў Гродзенскага раёна Аляксандр Якушаў названы лепшым настаўнікам школы мастацтваў. Актрыса Гродзенскага абласнога тэатра лялек Аляксандра Літвінёнак атрымала дыплом у намінацыі "Артыст года", а галоўны рэжысёр гэтага ж тэатра Алег Жугжда названы рэжысёрам года. Пазаштатны карэспандэнт газеты "Перспектыва" Віктар Саяпін стаў журналістам года, лепшым мастаком прызнаны мастак народнага аматарскага аб'яднання майстроў народнай творчасці і мастакоў "Гарадзенскі каларыт" Валянціна Брысач.

Яшчэ адну ўзнагароду ў гэты дзень атрымала Святлана Міроначык. Грамату РВУ "Літаратура і Мастацтва" за актыўную дзейнасць па прапагандзе айчыннай літаратуры і высокі прафесіяналізм ёй, як надзейнаму сябру і памочніку ў знаёмстве чытачоў з сучаснымі беларускімі аўтарамі і іх творамі, уручыла намеснік дырэктара РВУ "Літаратура і Мастацтва" Ала Корбут.

Урачыстасць завяршылася прыгожым канцэртам у пастаноўцы Алега Жугжды, дзе, дарэчы, непасрэдны ўдзел узялі многія з лаўрэатаў ці іх віншаванцы.

Літабсягі

Мікалай ГЛУШЧАНОК,
фота Кастуся Дробава

# Маладыя галасы

**Прэзентацыя кніг новага літаратурнага праекта Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі — кніжнай серыі "Мінскія маладыя галасы" — прайшла ў сталічнай бібліятэцы № 21. Чытачы, большасцю старшакласнікі, атрымалі магчымасць пазнаёміцца з першымі дзвюма кнігамі гэтага праекта.**



Яркія, прыгожыя кнігі новай серыі проста не могуць не прыцягваць да сябе ўвагі. Калісьці раней малады аўтар і думаць не мог пра тое, каб яго першая кніга выглядала гэтак прывабна. Але сёння ўвага да творчай моладзі ў краіне — вялікая. Бо літаратурны твор, у якім бы ўзросце ён ні быў напісаны аўтарам, патрабуе паважлівага стаўлення.

Пра зборнік вершаў Вольгі Злотнікавай "Зараджэнне гуку" і крыху пра саму аўтарку распавяла прысутным намеснік старшыні Мінскай гарадской пісьменніцкай арганізацыі Наталія Касцючэнка. Яна, між іншым, адзначала: "Вершы гэтай таленавітай маладой паэткі супярэчлівыя як у сэнсавым, так і ў эмацыянальным плане. У іх — то бурныя пачуцці, то ціхая радасць успрымання сусвету".

Яшчэ адну кнігу серыі, "Сувязь жыццяў", прэзентавала сама аўтарка — Яна Явіч. Паэтка чытала вершы, расказвала, як пачынала свой шлях у літаратуру, дзялілася творчымі планамі.

Зацікавіла школьнікаў інфармацыя пра тое, што пры Мінскай пісьменніцкай арганізацыі распачала работу Школа юнага літаратара "Маладзік", дзе прафесійныя пісьменнікі кансультуюць, даюць карысныя парады аўтарам-пачаткоўцам, якія спрабуюць сябе ў жанрах прозы, паэзіі, публіцыстыкі. Для слухачоў Школы арганізоўваюцца заняткі, падчас якіх юныя літаратары атрымліваюць рэальную дапамогу ў рабоце над сваімі творамі.

Наталія Касцючэнка запрасіла моладзь удзельнічаць у творчых конкурсах, актыўней звяртацца ў пісьменніцкую арганізацыю, адна з галоўных задач якой — дапамагаць станаўленню маладых талентаў. Прысутныя даведаліся, што пры Школе плануецца выпуск калектыўнага альманаха "Маладзік", у якім будуць прадстаўлены лепшыя творы юных аўтараў.

***На здымку: Яна Явіч прэзентуе свой дэбютны зборнік вершаў.***

Артлінія

# Варыяцыі на тэму прыгажосці

Анжэла КУДАКОВА,
мастацтвазнаўца галерэі "З'ява"

**Нязменным поспехам у горадзе на Бярэзіне карыстаюцца выстаўкі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Адна з такіх — "И красотою жизнь полна…" — адбылася ў мастацкай галерэі "З'ява" Барысаўскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя І. Х. Каладзеева. Выстаўка сталася своеасаблівым калядным падарункам землякам ад навучэнцаў і настаўнікаў Барысаўскага дзяржаўнага каледжа. Гэтая навучальная ўстанова ўнікальная, бо тут вядуць падрыхтоўку на прафесійна-тэхнічным і сярэдне-спецыяльным узроўнях. Некалькі гадоў таму ў каледжы з'явіўся і педагагічны напрамак. У Барысаве зноў гучна заявілі пра сябе навучэнцы — будучыя настаўнікі і выхавацелі.**

Выстаўка прадставіла плён працы творчай лабараторыі выкладчыкаў педагагічнага аддзялення каледжа: Алега Копаца, Тацяны Рашатняк, Святланы Гзоўскай і Тацяны Семяніды. Гэта самаадданыя і вельмі таленавітыя педагогі — мастакі, якія сваім прыкладам даказваюць, што ніякія жыццёвыя клопаты, эканамічныя катаклізмы не перашкода, калі ёсць унутраная патрэба ў гармоніі і прыгажосці.

Экспазіцыю склалі керамічныя творы, мастацкае шкло, вырабы ў розных тэхніках гафту: крыж, вышыўка і нізанне бісерам, вышыўка стужкамі. Прыцягвалі ўвагу вышытыя абразы, створаныя Святланай Гзоўскай і Таццянай Рашатняк.

Дыхтоўна, з дасканалым валоданнем тэхналогіяй працуюць у скураной пластыцы Таццяна Рашатняк і яе навучэнцы. Цешаць вока фантазіі на тэму кветак, нацюрморты, вазы з цікавым дэкаратыўным аздабленнем — усё гэта зроблена са звычайнай скуры.

Вабяць вока бісерныя кампазіцыі, аўтары якіх імкнуцца перадаць ціхую прыгажосць раслін пры дапамозе гульні шкляных пацерак — творчасць Святланы Гзоўскай і яе выхаванцаў.

Цеплынёй і гармоніяй напаўняецца сэрца, калі разглядаеш керамічную пластыку Алега Копаца. Здзіўляе, з якой пяшчотай і любоўю перададзена кожная галінка, кожны пялёстак, вылеплены рукамі вучняў і майстра. Вылучаюцца і жывапісныя работы Алега Копаца. Яны настолькі выразныя, што так і хочацца басанож прайсціся па роснай густой траве, паблукаць сярод беластвольных бярозак, якія, нібы маладзенькія дзяўчаткі, дзеляцца сваімі таямніцамі на беразе імклівай рачулкі.

Паглядзеўшы выстаўку, пачынаеш разумець, што таленавітыя творцы-педагогі не толькі даюць падлеткам чыста тэхнічныя веды, але найперш закладаюць у сваіх выхаванцаў часцінку ўласнай душы. Такія прыцягальныя работы можна стварыць толькі ў душэўным, эмацыянальным і эстэтычным суладдзі настаўнікаў і вучняў.



***На здымку: работа з выстаўкі.***

Повязі

# Агульначалавечае і нацыянальнае

**У пярэдадзень Старога Новага года, святкаванне якога паводле Юліянскага календара стала адной з прыгожых традыцый на беларускай зямлі, адбылася сустрэча кіраўніцтва Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і вядучых устаноў культуры краіны з прадстаўнікамі пасольстваў замежных краін і кіраўніцтвам акрэдытаваных у Беларусі культурных цэнтраў.**

Ірына ТУЛУПАВА,
фота Юрыя Іванова

Так святочнымі студзеньскімі днямі распачалася традыцыя праводзення штогадовых сустрэч, на якіх поруч з распаведамі пра развіццё культуры Беларусі і ўзаемадзеянне з замежнымі партнёрамі абмяркоўваюцца шляхі супрацоўніцтва ў сферы культуры, пашырэння і ўмацавання культурных абменаў.

Як вядома, культура — найлепшая дыпламатыя, яе мова зразумелая для ўсіх. Знаёмячыся з мастацкімі творамі, звычаямі і спадчынай народа, людзі пачынаюць лепш разумець адно аднаго.

"Нашым прыярытэтам з'яўляецца развіццё і ўмацаванне супрацоўніцтва з усімі зацікаўленымі партнёрамі", — падкрэсліў на сустрэчы міністр культуры Павел Латушка. Згадаўшы яркія падзеі мінулага года, міністр звярнуў увагу на тое, што 2012-ы абвешчаны ў Беларусі Годам кнігі.

Не пройдзе незаўважаным для сусветнай супольнасці святкаванне 130-годдзя з дня нараджэння класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа, 100-годдзя Максіма Танка, 140-годдзя мастака Вітольда Бялыніцкага-Бірулі, 125-годдзя сусветна вядомага выхадца з Беларусі Марка Шагала, 120-годдзя харавога дырыжора, кампазітара Рыгора Шырмы, а таксама 1150-годдзя з часу першага ўпамінання Полацка. На працягу года плануецца адкрыць другую чаргу Жыліцкага палацава-паркавага ансамбля ў Магілёўскай вобласці. Важнейшай падзеяй культурнага жыцця, бясспрэчна, стане адкрыццё пасля рэстаўрацыі ўнікальнага аб'екта, уключанага ў спіс Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА — палацавага комплексу ў Нясвіжы. Гэта толькі некаторыя згадкі пра вехі сучаснага жыцця беларусаў. Будуць у нас таксама працягнутыя праекты, якія сталі добра вядомымі на прасторах СНД і ў краінах Еўропы.

З іншага боку, культурныя акцыі, прэзентацыі, выстаўкі замежных краін, якія праходзяць на нашай зямлі, заўсёды выклікаюць цікавасць беларускай грамадскасці. І намаганні дыпламатычных прадстаўніцтваў па іх правядзенні вартыя пашаны і ўвагі. "Мы ўдзячны пасольствам таксама за спрыянне беларускім артыстам і калектывам у прэзентацыі нацыянальнай культуры за мяжой", — падкрэсліў Павел Латушка. Ён выказаў спадзяванні, што і надалей у развіцці міжнароднага культурнага супрацоўніцтва Міністэрства культуры будзе знаходзіць падтрымку і разуменне з боку дыпламатычных прадстаўніцтваў.



***На здымку: госці сустрэчы знаёмяцца з экспазіцыямі Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі.***

З-пад пяра

Чарговай кнігай папулярнай серыі "Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі" стаў зборнік вядомага беларускага паэта Міхася Пазнякова "Усміхаюцца зоры над хатаю". Сюды ўвайшлі лепшыя творы, напісаныя за апошнюю чвэрць стагоддзя. У іх — грамадзянскі роздум пра час і чалавека, шчырая любоў да бацькоўскай зямлі, услаўленне высокіх духоўных каштоўнасцей, аптымізм і ўпэўненасць у будучыні. Многія мілагучныя вершы Міхася Пазнякова ўжо сталі песнямі, яны таксама ўвайшлі ў зборнік. У кнізе асобнымі раздзеламі пададзены літаратурныя пароды на творы сучасных аўтараў, байкі, гумарыстычныя вершы, эпіграмы, паэтычныя мініяцюры. Змешчаны таксама творы для дзяцей — казкі, вершы, лічылкі, калыханкі.

**Міхась КАВАЛЁЎ**

У Інстытуце тэалогіі імя святых Кірыла і Мяфодзія Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта прайшоў юбілейны, 15-ы, вечар, прысвечаны святу Нараджэння Хрыстова. Удзельнікамі свята сталі прадстаўнікі беларускіх ВНУ, міністэрстваў і ведамстваў, іншаземных пасольстваў, а таксама Праваслаўнай і Каталіцкай цэркваў. Згодна з традыцыяй, на вечары Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт уручыў штогадовую прэмію "Хрысціянскія традыцыі ў культуры і адукацыі". У гэтым годзе яе атрымалі прафесар фізікі і астрафізікі Васіль Стражаў, дырэктар сталічнай СШ № 136 Ірына Асташкевіч і протаіерэй Васіль Літвіненка. У межах свята адбылася прэзентацыя беларуска-расійска-італьянскага выдавецкага праекта — навукова-асветніцкага календара-альбома на 2012 год, прысвечанага візантыйскім помнікам Венецыі.

**Лізавета БАГАДЗЯЖ**

Вучні школ Маскоўскага раёна г. Брэста ўзялі ўдзел у раённым конкурсе выразнага чытання "У вершы можна свет змясціць", які праводзіцца з мэтай падтрымкі таленавітай моладзі і прапаганды твораў літаратараў Берасцейшчыны. Са сцэны гучалі вершы і празаічныя ўрыўкі з кніг Міколы Пракаповіча, Леаніда Дранько-Майсюка, Ніны Мацяш, Яўгеніі Янішчыц, Зінаіды Дудзюк, Георгія Марчука, Валерыя Гапеева. Настаўнікі СШ № 31 падрыхтавалі мультымедыйную прэзентацыю з фотаздымкамі творцаў. Пераможцамі конкурсу сярод вучняў 8 — 9 класаў сталі Аляксей Соўпель, Анастасія Плотка і Дзмітрый Бурчак. Сярод 10 — 11 класаў — Яўген Кавалёў, Таццяна Петух, Дзмітрый Мазоль.

**Ніна ДРЫК**

Літаратурны клуб "Катарсіс" узнік у 1999 годзе. Сёння членамі клуба з'яўляюцца больш як 40 паэтаў і празаікаў з ліку студэнтаў і выкладчыкаў Гродзенскага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта. У 2008 годзе сіламі клуба і пры падтрымцы ўніверсітэцкага кіраўніцтва былі выдадзены зборнік паэзіі і прозы "Гіпакратавы ваганты". У 2010 годзе "Катарсіс" быў узнагароджаны Ганаровым дыпломам Гродзенскага абласнога цэнтра народнай творчасці за плённую літаратурную і выхаваўчую дзейнасць. Неаднаразова члены клуба адзначаліся на літаратурных конкурсах розных узроўняў. Яны часта выступаюць і ў сценах роднага ўніверсітэта, і ў іншых установах і арганізацыях, рыхтуюць літаратурную старонку ва ўніверсітэцкай газеце "Эскулап". І надта мараць наладзіць стасункі з Гродзенскай абласной арганізацыяй Саюза пісьменнікаў Беларусі. Як, дарэчы, і з аднадумцамі з іншых рэгіёнаў. Давайце дбаць пра літаратуру разам!

**Віктар ВАРАНЕЦ**

Таццяна СІВЕЦ

# Навум Гальпяровіч: адказны за зямлю…

**Гэтага чалавека часцей пазнаюць па голасе, чым у твар… Ён — адзін з тых, хто гатовы нават сярод ночы выправіцца ў свой родны горад, які лічыць цэнтрам сусвету… Ён можа арганізаваць любую справу, калі яна на карысць "зямлі, што нам дадзена лёсам"…**

**Навум Гальпяровіч — не толькі пісьменнік, творца, дырэктар радыёстанцыі "Беларусь", ён журналіст і аўтар праектаў, якія слухаюць, каб знайсці ўласнае месца на гэтай зямлі…**

**Не так даўно з г.п. Шуміліна прыйшоў ліст, аўтарка якога скардзілася, што не магла знайсці ў сваім мястэчку кнігу Навума Якаўлевіча. Не варта і казаць, што аўтар набыў уласную кнігу ў мінскай кнігарні і адправіў чытачцы…**

**І такі выпадак — далёка не адзіны… Хаця размова ў нас, канечне, не пра тое…**

**— Навум Якаўлевіч, калі вы ўпершыню адчулі еднасць з роднай зямлёй?**

— Працэсей за ўсё, напэўна, будзе сказаць, што гэта адбылося тады, калі, толькі з'явіўшыся на свет, я пабачыў вежы Сафійскага сабора з вокнаў Полацкага раддома *(смяецца)*. Але гэта толькі частковае, падсвядомае ўражанне… А свядома еднасць з зямлёй і мовай я адчуў у восьмым класе, калі з Гродна, дзе жыла мая цётка, паехаў у Друскінінкай, у тады Літоўскую ССР, — і пачуў, як мае равеснікі размаўляюць па-літоўску, любяць сваю зямлю і родную мову і што нават дзеці ў двары, незалежна ад нацыянальнасці, гавораць па-літоўску. Тады мне захацелася гаварыць на роднай мове, а па вяртанні я стаў больш пільна цікавіцца нашай культурай, літаратурай. Час быў такі, што людзі ў побыце больш карысталіся рускай мовай, але менавіта пасля гэтай паездкі я ўсвядоміў, што ў Беларусі — беларуская мова, якую трэба шанаваць і берагчы. Адгэтуль пачалося ўсведамленне ролі Полацка, Мовы і Літаратуры ў маім лёсе.

**— Ці былі людзі, якія змянілі ваш лёс ці моцна паўплывалі на яго на пэўным адрэзку часу?**

— Кардынальна — не. Але паспрыялі ўмацаванню маіх перакананняў у час, калі я прыйшоў працаваць у полацкую газету, Іван Стадольнік, тады малады пісьменнік, Герман Кірылаў, які працаваў намеснікам галоўнага рэдактара гэтай газеты, — людзі з беларускай душой, якія гаварылі і думалі па-беларуску. Ну і вялікі ўплыў на мяне аказала наваполацкае літаб'яднанне "Крыніцы", адкуль выйшаў ці не тузін вядомых сёння беларускіх літаратараў — мы былі равеснікамі, дапамагалі адно аднаму, адзначалі разам святы, абмяркоўвалі творчыя пытанні, бывала, да гадзіны ночы заседжваліся ў рэдакцыі газеты "Хімік", разважаючы пра літаратуру. Мы спрыялі арганізацыі ў Полацку беларускамоўнага класа, стварылі ўніверсітэт па вывучэнні гісторыі і культуры Беларусі — гэта быў шчаслівы час…

**— Сёння дзякуючы вашаму прыкладу ў штодзённых зносінах беларускай карыстаюцца не толькі вашыя дзеці, але і супрацоўнікі радыё "Беларусь" — Міжнароднага вяшчання Беларускага радыё — людзі, якія ведаюць не адну замежную мову… А што трэба, на вашую думку, каб беларусы больш гаварылі па-беларуску?**

— Ведаеце, калі да мяне прыйшло адчуванне любасці да сваёй зямлі, пачало падавацца фарысействам "з трыбуны" гаварыць адно, а дома — па-іншаму. Таму, як толькі нарадзіліся мае дзеці, я вызначыў для сябе, што з імі заўсёды буду размаўляць пабеларуску, хаця наша бабуля, патомная беларуская сялянка, дзівілася гэтаму, праўда, пасля казала: "Як добра, што ты, Навум, навучыў іх роднай мове". Бо цяпер яны працуюць: адна — журналісткай у Кітаі, другі — галоўны рэдактар "Беларускага гістарычнага часопіса", і веданне беларускай мовы не перашкодзіла ім авалодаць рускай, а таксама англійскай і нямецкай. Дарэчы, Вольга ў Кітаі працуе над стварэннем беларускай старонкі сайта Міжнароднага кітайскага радыё. І я ўпэўнены, што найлепшы прыклад у дадзенай сітуацыі — уласны. Як казаў наш міністр культуры Павел Паўлавіч Латушка, "пачынаць свой дзень трэба са слоў «добрай раніцы» і заканчваць словам «дабранач»". А калі чалавек ужывае родную мову ў побыце, калі наўкола ён чуе родную мову — на вуліцы, у метро, калі ён чытае шыльды, напісаныя па-беларуску, то мова ў яго жыцці будзе прысутнічаць штодня. Гэта не значыць, што трэба ўсіх прымусіць гаварыць толькі па-беларуску. Узгадаем прыклад расійскай інтэлігенцыі, якая свабодна валодала і рускай, і французскай. Але калі чалавек не ведае сваёй роднай мовы, я лічу, гэта чалавек без каранёў. У чым сіла таго ж рускага народа, які перажыў самыя розныя захопніцкія навалы? Я мяркую, што адным з чыннікаў захавання самасці была родная мова.



Фота Кастуся Дробава

**— А хто ж адказны за яе?**

— Думаю, кожны чалавек адказвае за сябе. Але ёсць і тыя, якія штодня нясуць роднае слова. І мы з вамі ў тым ліку, бо калі мы робім перадачы, калі выступаем, мы паказваем прыклад таго, як гучыць, як жыве родная мова. Адказныя пісьменнікі, артысты, музыканты… Калі нейкі спявак кажа, што "на жаль, беларуская песня незапатрабаваная", мне хочацца спытаць: а хто ж павінен яе "патрабаваць", калі сам ён не просіць у кампазітара гэтай песні, калі ён не кажа сваім прыхільнікам: "Паслухайце, як непаўторна яна гучыць!"? І, канечне, гэта настаўнікі беларускай мовы. Ведаеце, усё часцей я са скрухай пераконваюся, што настаўнікі беларускай мовы не паказваюць дзецям прыклад любові да роднага слова. Мой знаёмы настаўнік мне распавядаў, што вучні спецыяльна цікавалі за ім, каб пераканацца, што, выходзячы з класа, ён гаворыць па-беларуску. І ён лічыць сваім абавязкам не расчараваць іх, не падмануць! У мяне самога была настаўніца беларускай мовы Алена Дзмітрыеўна — чалавек, пра якога ўсе ведалі, што яна ніколі не здраджвае роднай мове, яна адпавядала свайму "званню" настаўніка! Калі ж часам беларуская мова выкладаецца "ў перакладзе", то гэткае "настаўніцтва" нічога не дасць.

**— Як старшыня таварыства "Беларусь-Арменія" і дырэктар радыёстанцыі "Беларусь" распавядзіце, калі ласка, якія мы, беларусы, у вачах замежнікаў.**

— Тут можна з аптымізмам сцвярджаць, што прадстаўнікі іншых краін вельмі добра ўспрымаюць Беларусь і беларусаў. Найперш яны заўважаюць мяккасць характару нашага чалавека, гасціннасць нашу. І калі яны чуюць нашу мову, то хочуць яе разумець, а значыць — вучыць! У цывілізаваных людзей не можа ўзнікнуць пытання пра непатрэбнасць роднай мовы, і таму мы з гонарам расказваем пра класікаў нашай літаратуры, пра нашу культуру, прапануем запісы таго ж Мулявіна — рускага чалавека, які прыехаў у Беларусь і, захапіўшыся гукамі нашай мовы, здзейсніў подзвіг — узняў нашу песню на ўзровень еўрапейскі, цікавы і моладзі, і старэйшаму пакаленню. Ён і многім сучасным артыстам паказаў прыклад таго, як трэба ставіцца да спадчыны народа…

**— Чаму ж Беларусь — краіна з непаўторнай прыродай, незвычайнай культурай — часта "губляецца" паміж іншымі турыстычнымі дзяржавамі Еўропы?**

— Па-першае, мы яшчэ не навучыліся паказваць напоўніцу харастство нашых мясцін. Я шмат дзе пабываў — і таму гэта не проста прыгожыя словы! Узгадваю стромкія сосны на Расоншчыне, дзе на два кіламетры наперад бачна ляснае возера — ідзеш, ідзеш, а яно ўсё не набліжаецца… А на Лепельшчыне — вада азёрная гаючая, сярэбраная, яна нават хваробы лечыць!.. А Палессе?! Гэта ж непаўторны кут! У Беларусі, дарэчы, самыя розныя краявіды можна знайсці! Я ведаю масквіча, які неаднойчы прыязджаў да нас, жыў у самай глушы, адпачываў душой, бо нідзе, як сам прызнаваўся, такой прыроды не бачыў! А вазьміце нашыя гістарычныя мясціны! А фрэскі ў Полацкай Спаса-Еўфрасіннеўскай царкве, якая, нібы свечачка на далоні, стаіць там з XII стагоддзя! Гэта ж унікальная каштоўнасць — дарублёўскі жывапіс! Адна балгарская журналістка казала мне: "Да вас людзі з усяго свету павінны ехаць!.." На жаль, у нас яшчэ не так развіта інфраструктура: малавата гатэляў, дарогі добрыя, але бракуе прыдарожнага сэрвісу, рэкламы… Усё гэта, мяркую, будзе, бо Беларусь заслугоўвае таго, каб сюды прыязджалі тысячы і мільёны турыстаў!

**— Дзеля гэтага трэба распавядаць пра нашу краіну — у тым ліку і сродкамі літаратуры. Колькі ж трэба пісьменнікаў, каб зрабіць нашу кнігу папулярнай у свеце ці хаця б данесці яе да самай далёкай вёсачкі?**

— Не так і шмат іх трэба, дарэчы. Каб лічыцца выдатнай літаратурнай краінай, часам хапае і тузіна імёнаў. Гэта не значыць, што трэба некаму забараняць пісаць. Але планку апускаць нельга: у нас ёсць "маякі", волаты-класікі, якія ўславілі нашу краіну, — гэта і Янка Купала, і Якуб Колас, і Іван Мележ, і Уладзімір Караткевіч, і Іван Шамякін — постаці, што ўпрыгожаць любую літаратуру. Але мне здаецца, для пісьменніка найбольш важна быць адказным за свае словы. Часам не ўсё, што напісана, варта друкаваць… У нас крыху разгубілася літаратурная крытыка, мы не вызначаем тыя постаці, якія стаяць крыху вышэй за сярэдні ўзровень літаратуры, не тлумачым, у чым роля і задача пісьменніка. І галоўнае — у наш прагматычны час не забывацца пра асабістую адказнасць за свае Слова і за сваю Зямлю! Звычайны грамадзянін Беларусі не будзе гаварыць пра любоў — ён проста будзе сумленна жыць і працаваць. А вось калі пісьменнік узяўся быць душой народа, настаўнікам яго, дык трэба ўзнімацца над побытам, ахвяраваць будзёнасцю на карысць вялікай задачы. І не трэба тысячы творцаў, хай будзе менш, але каб яны "згаралі", дзеля таго каб уславіць сваю зямлю — "зямлю, што нам дадзена лёсам"!

**— Дарэчы, праграма "Зямля, што нам дадзена лёсам", мае шмат прыхільнікаў. Гэта наогул вельмі рэдкі выпадак на радыё, каб у такога доўгатэрміновага праекта практычна не было ніякіх падобных аналагаў… лічыцца. Чаму, як вам падаецца? Можа, справа тут у асноўнай тэме гаворак. Дарэчы, госці праекта амаль ніколі не адмаўляюцца ад удзелу. Але я ўпэўнена, што падобны праект мог бы існаваць і на тэлебачанні… Як вам здаецца, ці актуальныя сёння падобныя ідэі: літаратурна-мастацкія праекты, нязмушаныя гутаркі пра нашу зямлю?**

— Такія праекты вельмі патрэбныя! Наогул жа, калі праграма толькі стваралася, я думаў, ці знайду на год столькі цікавых суразмоўцаў… Але людзі пачалі тэлефанаваць, пісаць… Чаму? Пэўна, таму, што праграма гэтая пра тое, што знаходзіцца ў душы кожнага чалавека, нават калі ён не задумваецца, забываецца за штодзённай мітуснёй — пра сутнасць нашай ментальнасці, нашай культуры, нашага лёсу… Мы ж пра гэта разважаем ужо не першы год. І цяпер мяне асабліва радуе, што часам самі слухачы падказваюць тэмы праграм. Канечне ж, і на тэлебачанні такі праект патрэбны — беларускамоўны, пра тое, што хвалюе кожнага, пра тое, чым варта даражыць у гэтым жыцці! Спадзяюся, што праект будзе жыць і пасля мяне…

**— Ці плануеце вы што-небудзь змяніць у сваім жыцці і творчасці, каб наблізіцца да ідэалу, калі гэта магчыма наогул?**

— Не змяняць трэба, а, напэўна, удасканальвацца. Бо часам з-за паспешлівасці, жыццёвай мітусні нешта выпускаю з-пад увагі. Да прыкладу, я заўсёды, калі перачытваю напісанае, думаю, што можна было б і лепш. Заўсёды зайздрошчу тым, хто можа сабе дазволіць працаваць доўга, карпатліва, думаючы над кожным словам. Да ідэалу наблізіцца, канечне, хочацца, але, мне здаецца, ён настолькі высока, што ісці да яго можна праз усё жыццё. І не важна, калі не дасягнеш, галоўнае — імкнуцца! Для мяне ідэал — высокае пачуццё, уменне жыць так, каб Слова было падмацавана справаю, каб цябе любілі і на цябе спадзяваліся, каб ты нічым не падвёў блізкіх, родных, каб не здрадзіў Радзіме, каб ніколі не ішоў на кампраміс з сумленнем… Не заўсёды ўдаецца, напэўна, але я імкнуся…

**— І ўсё-ткі, што можа зрабіць вас сёння сапраўды шчаслівым чалавекам?**

— Вы не паверыце, але пасапраўднаму шчаслівым мяне можа зрабіць родная Беларусь. Калі буду знаходзіць разуменне ў людзей, чуць добрае слова, родную песню, буду бачыць, як квітнее краіна… Ну і, канечне, я буду шчаслівы, калі мае дзеці знойдуць сваё асабістае шчасце… І каб новыя пакаленні памяталі і цанілі тое, што рабілі да іх. Я не адмаўляюся ад матэрыяльных выгод, але найперш мне хочацца, каб была шчаслівай мая зямля!

Лада АЛЕЙНІК

# Выхаванне Чалавека

Літаратура ведае нямала прыкладаў таго, як некаторыя пісьменнікі доўга і пакутна шукалі сваю тэму... Бывала, гэты працэс расцягваўся на гады і дзесяцігоддзі. Пра Валерыя Гапеева можна сказаць, што ён з кагорты тых шчаслівчыкаў, каму пашанцавала ўвайсці ў літаратуру з дакладным веданнем тэмы і бачаннем патэнцыяльнай чытацкай аўдыторыі. Каб беспамылкова вызначыць творчы шлях, па-мойму, гэтаксама патрэбны талент. І не толькі... Вера ў сябе патрэбна, спецыфічная чуйнасць, аб'ектыўная ацэнка ўласных здольнасцей і магчымасцей. Праўда, паводле першай кніжкі ("Пастка на рыцара", 2003) яшчэ немагчыма было зрабіць пэўны прагноз — ці будзе пісьменнік далей працягваць працу ў галіне падлеткавай прозы, ці адмовіцца ад выбранага шляху. Бо з той першай кніжкай, думаецца, ён не толькі атрымаў грунтоўны творчы вопыт, але і пераканаўся, што ў гэтай парафіі будзе надзвычай няпроста.

Безумоўна, галоўная адказнасць тут — перад чытачамі. Яны першыя заўважаць, калі пісьменнік дазволіць сабе адхіліцца ад "праўды жыцця", і тут жа скажуць, што ***так*** сучасныя школьнікі не гавораць ці ***гэтак*** не робяць. Яны не пагодзяцца, калі ў літаратурным творы іх узаемаадносіны будуць выглядаць прыхарошана-лакіраванымі альбо проста штучнымі. Яны захочуць паказу рэальных праблем, з якімі сутыкаюцца... Дый нейкай, хаця б мала-мальскай дапамогі ў вырашэнні гэтых праблем гэтаксама захочуць — добрай парады, яркага прыкладу, элементарнай падказкі, у рэшце рэшт. Ну, а пра тое, што кніжка, апроч усяго, павінна быць цікавай, увогуле можна не казаць. І гэта — толькі з аднаго боку.

А з другога — пільныя пурысты, якія тут жа зрэагуюць, калі аўтар дазволіць сабе выкарыстаць моладзевы слэнг ці, тым больш, жаргонную лексіку... Крытыкі, педагогі і бацькі, якія дбайна вартуюць маральную цноту юнага чытача... Паспрабуй, пісьменнік, закрані вострую праблему — і сам тады праблем не абярэшся. Бо на тэмах інтымнага жыцця, заганных звычак і непрыстойных паводзін у нас па-ранейшаму табу, быццам негалосная змова пра іх ігнараванне...

Наколькі мне вядома, Валерыю Гапееву даводзілася сутыкнуцца з рознымі рэакцыямі на свае творы. Вядома, кола ўдзячных чытачоў вельмі вялікае... Але ж знаходзяцца псеўдамаралісты, якія здольны адшукаць крамолу ў самых бяскрыўдных рэчах. І таму кожны новы твор пісьменніка мяне асабіста вельмі радуе. Бо, нягледзячы ні на што, Валерый Гапееў не страчвае творчага імпэту. Бо актуалізуе ў сваіх творах насамрэч важныя праблемы — тыя, якія доўгі час замоўчваліся ў нашай літаратуры. Бо проста добра піша — удумліва, цікава, эмацыйна...

Нядаўна часопіс "Маладосць" (2011, № 10) надрукаваў новую аповесць Валерыя Гапеева — "Трафік для паэта". Гэтая аповесць сталася своеасаблівым працягам трох папярэдніх твораў пісьменніка, якія ўвайшлі ў кнігу "Урокі першага кахання" (2010). Па вялікім рахунку, атрымалася ёмістая тэтралогія, кожная частка якой — абсалютна самастойная паводле сюжэтных перыпетый, праблематыкі і ключавога канфлікту, але ўсе аповесці аб'яднаныя і часам, і прасторай, і коламперсанажаў, большасць з якіх з'яўляюцца аднакласнікамі.

У пачатку аповесці "Трафік для паэта" аўтар змяшчае невялікі слоўнічак, дзе прыводзіць "тлумачэнні некаторых тэрмінаў". Няма сумневу, што гэта цалкам мэтазгодна. Думаецца, далёка не ўсім чытачам вядома лексіка, якой карыстаюцца прафесійныя праграмісты ці проста абазнаныя інтэрнэт-карыстальнікі. "Банер", "адалт", "хостынг", "кіпер", "скрыпт"... Для кагосьці гэтыя словы цалкам зразумелыя, і такі чытач можа іх проста праігнараваць (альбо, наадварот, зацікавіцца, адчуўшы сваю "тэму"), а для іншага, менш дасведчанага, тлумачэнні зробяцца істотнай дапамогай у разуменні пэўных эпізодаў сюжэта.

Дарэчы, гэты "мастацка-метадычны" прыём Валерыя Гапеева ўжо праходзіў своеасаблівую апрабацыю. Аповесць "Лёшкава каханне, або Віртуальнае дрэва рэальнасці" пачыналася таксама слоўнічкам, дзе прыводзіліся тлумачэнні "для бацькоў, настаўнікаў ды іншых дарослых". Паводле водгукаў чытачоў, тлумачэнні аўтара ім вельмі прыдаліся, хаця тым разам у слоўнічку былі прыведзеныя тэрміны больш простыя, ці, дакладней сказаць, больш распаўсюджаныя — "юзар", "смайл", "флэшка", "аператыўка", "спам" і інш. А калі яшчэ дакладней, то распаўсюджанымі і звыклымі яны зрабіліся цяпер. А на той час, калі твор быў упершыню надрукаваны ("Полымя", 2008, № 5), далёка не ўсе чытачы мелі адпаведны досвед. Цалкам натуральна, што ў новай аповесці, дзе і школьнікі пасталелі, і ключавая задача, якую даводзіцца вырашаць галоўнаму герою, ускладнілася, сюжэт запатрабаваў адпаведных тэрміналагічных каментарыяў.

Першы раздзел, які выконвае ў аповесці ролю своеасаблівага пралога, адразу ж акрэслівае ключавую праблему: вучань выпускнога класа Віктар піша вершы і марыць выдаць кніжку. "Кніжка, кніжка... Віктар да дробязяў уяўляў яе: светла-шэрая вокладка, малюнак чорным алоўкам іх школы — такі чарнавы, смелы накід. <...> Уверсе прысвячэнне: «Маім аднакласнікам. Маім настаўнікам. Маёй школе»". Але для рэалізацыі яго мары патрэбны грошы — 600 долараў. Для сям'і Віктара гэта немалыя грошы, яго бацькі не могуць дазволіць сабе такой раскошы... Герою прыходзіцца самастойна рупіцца пра вырашэнне фінансавай праблемы.

Вядома, магчымасці для заробку ў вучня даволі абмежаваныя. "На працу ўладкавацца на лета не атрымаецца — у горадзе і так скарачэнні. Ездзіць некуды ў падсобную гаспадарку на часовыя работы — буракі палоць ці яшчэ якую трасцу — тое не выйсце. Спрабавалі ў мінулым годзе хлопцы. Што зараблялі, тое па вечарах ішло на піва". І вось, выбраўшыся з кампаніяй аднакласнікаў на адпачынак за горад, хлопец не можа стрываць і дзеліцца з імі сваёй праблемай. І нечакана атрымлівае добрую параду ад сябра — таго самага Лёшкі, які знаёмы чытачам па аповесці "Лёшкава каханне...". Гэты герой, добра абазнаны ў інтэрнэт-рэсурсах, тлумачыць Віктару, якім чынам можна зарабляць грошы ў Сеціве.

Даходлівая і скрупулёзна пісьменнік дэманструе, як Віктар адкрывае для сябе фактычна новы свет — спасцігае і засвойвае інфармацыю пра стварэнне сайта, разбіраецца ў незнаёмай тэрміналогіі, робіць першыя спробы практычнага ўвасаблення ведаў. Старонкі, дзе адлюстраваны працэс спасціжэння героем "інтэрнэт-граматы", пераконваюць у праўдзівасці матэрыялу, у добрым веданні аўтарам тэхналогій, пра якія ідзе гаворка. Дарэчы, менавіта гэтыя старонкі, насычаныя спецыяльнымі тэрмінамі, змусяць шмат каго з чытачоў вярнуцца да памянёнага вышэй "тлумачальнага слоўнічка". Так, Валерый Гапееў тут вельмі дэталёва і падрабязна адлюстроўвае "тэхнічны" бок працэсу. Але пачуццё меры мастака не падводзіць. Захоўваючы кампазіцыйную паслядоўнасць, аўтар пазбягае залішняй замаруджанасці дзеяння і не толькі не губляецца ў другарадным матэрыяле, але нават выкладае яго з метадычным досціпам. На мой погляд, інфармацыя, якую ўтрымлівае мастацкі твор, здольна прынесці чытачам практычную карысць, пашырыць веды адносна пэўных камп'ютарных магчымасцей.



Натуральна і дакладна аўтар адлюстроўвае, з якімі праблемамі сутыкаецца юны герой, які намысліў зарабляць грошы ў Інтэрнэце. Справа не толькі ў грунтоўным досведзе. Патрэбная "ідэя", сутнасць якой Лёшка абмалёўвае яму наступным чынам: "...Каб зарабіць сваім сайтам у Інтэрнэце, трэба праца. І грошы. <...> Ці — неверагодная ідэя. Новая! Смелая! <...> Ідэя, якая не рэалізаваная. Вось, напрыклад, ідэя «Аднакласнікаў». Самы папулярны рэсурс, як і «Ў кантакце». Сацыяльныя сеткі. Іх не было — яны з'явіліся і маюць грошы. <...> Карацей, нешта трэба такое, чаго няма. Крэатыў".

Эўрыстычнае азарэнне, як гэта найчасцей і бывае ў жыцці, прыходзіць да Віктара зусім выпадкова — калі з балкона ўласнай кватэры ён фатаграфаваў праз тэлескоп зорнае неба. Ненаўмысна пераве́ўшы аб'ектыў на акно суседняга дома, хлопец заўважае маладую сямейную пару: "Віктар адарваўся ад акуляра. Было крыху сорамна. Ён падглядваў за чужым шчасцем. Там, далёка, было сапраўднае шчасце — вось, сям'я пабудавала кватэру, цяпер яны самі, з такім задавальненнем, такія радасныя, у такім сугуччы душ клеяць выбраныя імі самімі шпалеры… І не ведаюць, што за іх шчасцем толькі што назіраў нехта збоку. Такі кароткі эпізод — вось гэтыя колькі хвілін — і іншы паглядзеў бы з цікавасцю…" Віктара працінае імгненная думка: "Гэта ж цікава! Гэта ж ідэя!" Рашэнне знойдзена — на сайце ён будзе размяшчаць відэаролікі "падгляданняў" за рознымі людзьмі.

Асаблівай дынамікі сюжэтныя падзеі дасягаюць, калі Віктар пачынае рэалізацыю сваёй ідэі. Раздзелы, прысвечаныя "цікаванням" хлопца, набываюць прыгодніцкую інтрыгоўнасць, яны прасякнуты духам авантурызму, адчуваннем небяспекі, рызыкі. Бо некаторыя эпізоды, што трапляюць у поле зроку Віктара, насамрэч крамольныя. Хлопцу даводзіцца вытрымліваць сапраўдную канспірацыю, каб не быць знянацку выкрытым ні бацькамі, ні сябрамі, ні самімі героямі яго відэаролікаў.

У мэтах выяўлення ўнутранага стану персанажа пісьменнік часта змяняе апавядальны рытм — з эпічна-запаволенай манеры пераходзіць на нервовую, запытальна-рытарычную, спавядальную... З выключнай псіхалагічнай дакладнасцю Валерый Гапееў адлюстроўвае супярэчлівыя перажыванні героя — згрызоты сумлення і трыумф ад поспеху, сумневы і іх пераадоленне. Логіка ўчынкаў і пачуццяў героя звязваецца аўтарам з канкрэтнымі фактамі, і менавіта канкрэтыка надзяляе падзеі жыццёвасцю, рэалістычнасцю. Так, Віктар разумее, што яго занятак — па-за межамі этыкі і маралі. Калі сказаць наўпрост — непрыстойны. Але варта яму зафіксаваць на плёнку, як мажны дзядзька "начальніцкага выгляду" фактычна гвалціць на пляжы юную дзяўчыну, стаўленне да сваёй дзейнасці хлопец змяняе на кардынальна супрацьлеглае. "Віктар адчуў сябе таямнічай сілай, сілай справядлівасці, абаронцам пакрыўджаных". Бо вядома, калі падобнае відэа з'явіцца ў Інтэрнэце, гвалтаўніку давядзецца трымаць адказ.

Маральная эвалюцыя героя выяўляецца ў аповесці канцэптуальна і шматгранна. Стыхія матэрыялу не выйшла з-пад улады пісьменніка, ён пільна і рацыянальна паставіўся да адбору фактаў — не выпусціў з поля зроку ні сямейна-бытавыя абставіны жыцця юнака, ні яго сяброўскія стасункі, ні эмацыйна-псіхалагічны свет. Валерый Гапееў дэманструе цэлы шэраг узаемазвязаных падзей і вострых уражанняў, якія перажывае яго герой. Гэта грамадскі рэзананс, выкліканы відэаролікамі, і збянтэжанасць хлопца такой вострай рэакцыяй жыхароў гарадка, гэта змушаная хлусня бацькам і страх перад выкрыццём, гэта прыкрасць ад усведамлення ўласнай маладушнасці, калі мог выратаваць дзяўчыну ад рабаўнікоў, але не зрабіў гэтага...

Філасофскі падыход да асэнсавання з'яў сучаснасці, заглыбленасць у сутнасць характару персанажа і майстэрства псіхалагічнага аналізу дазволілі пісьменніку праўдзіва і абгрунтавана паказаць канчатковы выбар героя. Фінал твора абумоўлены ўсёй папярэдняй логікай развіцця падзей. Шантажаванне, з якім, у рэшце рэшт, сутыкаецца герой аповесці, не з'яўляецца асноўнай прычынай яго грандыёзнага ўнутранага пратэсту. Яно, хутчэй, зрабілася апошняй кропляй, з-за якой эмоцыі маладога чалавека дасягнулі крытычнай мяжы. Няма сумневу, што да свайго рашэння Віктар прыйшоў яшчэ раней — свядома і асэнсавана, яго выбар — не выпадковы, ён натуральны, заканамерны і нават чаканы.

У аповесці вельмі ўдала расстаўлены маральна-этычныя акцэнты. Вядучай робіцца вызначальная роля сям'і ў фарміраванні ўнутранага свету асобы. Менавіта тыя каштоўнасці, якія культывуюцца ў сям'і, з'яўляюцца для Віктара прыярытэтным арыенцірам у складанай жыццёвай сітуацыі. Адмыслова разгледжана ў творы праблема "мэты і сродкаў", у абмалёўцы якой аўтар прыходзіць да пераканаўчай высновы: грошы не прынясуць жаданага задавальнення, калі дзеля іх ты змушаны манкіраваць этыкай альбо ісці на кампраміс з уласным сумленнем.

Выхаваць Чалавека ў самім сабе, зразумець, што жыццё — надзвычай адказная штука, — такі, на мой погляд, асноўны пафас аповесці Валерыя Гапеева.

Уладзімір АГІЕВІЧ

# Еці і фаліянты

**На вокладцы кнігі І. Прылуцкага “Мудрости зачало и конецъ…” нечакана бачыш выяву снежнага чалавека ў ярмолцы, абапертага на тры фаліянты пасярод дзвюх пар свечак. Еці, паводле аўтарскай задумы, дакранаецца да сімвалаў святынь? Навошта гэтая антытэза цывілізацыі і дзікунства?**

Драма ўяўляе сабой спробу па-сучаснаму смела кантамінацыйна змікшыраваць планы і калізіі — і кінуць сваё святло на сэнс і мэты дзейнасці Скарыны.

Выкарыстанне Іванам Прылуцкім мадэрновых ігнаранцый традыцыйнага гістарычнага жанру можна было б прыняць, калі б на іх месцы з’явіўся новы змест, новае бачанне, заснаванае на фактах жыцця першадрукара. Але аўтар зусім не знаёмы з праблемай сучаснага стану скарыназнаўства. Адсутнасць навуковага піетэту да Скарыны прыкрываецца прэтэнзіяй на арыгінальнае прачытанне гісторыі. Дзеянне разгортваецца пад шыльдай “*Skaryna and K°*” (Чаму не “*C°*”?).

Мы шануем права кожнага на ўласны пункт гледжання або свой узровень разумення, але што адбываецца, калі скажаецца навуковы змест пад пяром заўзятара?

Чытач не супраць сапраўдных звестак пра жыццё і дзейнасць негацыянта-прадпрымальніка Скарыны. Але факты недаасэнсоўваюцца. Напрыклад, тэма эзатэрызму: аўтар вуснамі Вольнага Мастака паўтарае за некім: “Пан Францыск — сам астраном, філосаф, багаслоў, таму ён склаў уласны гараскоп і прачытаў сваю долю”; “нарадзіўся ў час зацьмення, адсюль сонца маладзіковае, сімвал ягоны”.

Сімвал ягоны не Ветах на фоне Сонца (г.зн. зацьменне, немагчымае пры ветаху), а сумяшчэнне іншага нябеснага цела — Зямлі — з Сонцам.

Далей: “Менавіта ў Падуі атрымаў пасведчанне доктара Францыск Скарына, які вырашае несці сонца маладзіковае асветы людзям паспалітым”. Скарына атрымаў іменаванне-пасведчанне “доктар Францыск” задоўга да Падуі. Нягегласць аўтара і ў банальнасцях рэпрыз, рэзанёрстве, кшталту: “Гісторыя — гэта навука з непрадказальным мінулым”; “Эміграцыя — сутнасць беларускага нацыянальнага духу. Або прамая. Або ўнутраная”.

Сутыкнуўшы Скарыну з Парацэльсам, Лютэрам, Эразмам, драматург не звёў яго з М. Капернікам і з Ф. Аквінскім — “пятым бацькам царквы”. Справа жыцця апошніх фундаментальна звязана з дзейнасцю Скарыны.

Многія факты біяграфіі Скарыны або недаасэнсаваны, або перакулены дагары нагамі. Праблема календара: М. Лютэр “у 1517 годзе, праз 85 дзён пасля выхаду першай кнігі Ф. Скарыны, прыбіў да дзвярэй кірхі 95 тэзісаў…” Розныя календары былі: у Скарыны — вераснёўскі, а ў Лютэра — студзеньскі. Сцвярджэнне “першым выдаў Псалтыр 6 жніўня 1517 г.” выкрывае няведанне таго, якога стылю календара прытрымліваўся Скарына, бо першым яго выданнем была “КнігаСвятогаІ□□□ава”10верасня 1517 г. (або 1516-га, паводле студзеньскага стылю), “Псалтыр” выдаваўся ў канцы вераснёвага 1517 года.

Біяграфічныя звесткі чэрпаюцца з замшэлых крыніц, як, напрыклад, прыдуманае садоўніцтва: “Батанік у Празе вырошчваў травы”. Ад гэтай гіпотэзы адмовіўся сам яе аўтар А. Флароўскі. Або: “Прибыл бедный молодой человек”. Па-першае, прыбыў не “бедны”, а “pauper”, г.зн. сябра ордэна *Pauperes Commilitones Christi Templique Solomonici*, да якога, дарэчы, належаў і светапоглядны апанент Скарыны разенкрэйцар М. Лютэр, сустрэча з якім адбылася не ў 1523, а ў 1525 г. Па-другое, цытаваны лацінскі тэкст у драме мусіць падавацца па-беларуску.

Польскі даследчык Х. Лаўмянскі сцвярджаў, што Скарына ў сваёй выдавецкай дзейнасці не меў ніякіх іншых мэт, акрамя камерцыйных. Адрасаванасць “тружания Скорины” “люду паспалітаму” ім не заўважаная. Твор І. Прылуцкага таксама тэндэнцыйны, бо ў ім няма ніводнага прадстаўніка гэтага “люду”. Не лічыць жа за іх амбіцыйную Сакратарку, Звездара, Блазна ці Вольнага Мастака? У такім жа ключы малюецца бацькоўскі наказ: “Навука цябе ніколі не зробіць багатым і незалежным. Ад навукі, як і ад сельскай гаспадаркі, можна толькі кілу (грыжу) нажыць”; “Я… баяўся, што гэтая зараза, Рэнесанс, прычэпіцца да цябе…”

Як і чаму Скарына ўзняўся да вышынь духу?

У інтэрпрэтацыі спадчыны першадрукара акурат і выявіліся суб’ектывісцкія інтарэсы. Напрыклад, адным хочацца прадставіць Скарыну за выхадца з такой Русі Літоўскай, што па вушы загразла ў бескультур’і, і таму дзякуючы культуры Захаду мы маем феномен першадрукара-асветніка. Усе апалагеты такой інтэрпрэтацыі групуюцца ў партыю “францішканцаў”. Іх філасофія грунтуецца на шавіністычнай ідэалогіі Хенрыка Лаўмяньскага, дзе геній Скарыны трактуецца суцэльна вытворным ад заходняй культуры, калі ігнаруецца дыялектыка нацыянальнага і ўсечалавечага, аперцэптуальнага і рэцэптуальнага. Але на Захадзе каталіцтва бласлаўляе кармленне ведамі, сумай ведаў, славутымі *Summa contra gentiles* Фамы Аквінскага, на Усходзе ж царква імкнецца зрабіць чалавека богападобным, быць не шкарлупінай быцця, а мець Яго сутнасць у сабе. Скарына, сам выхаваны “суть по Бозе” ва ўлонні, як ён пісаў, “правае веры”, аб’ектыўна спалучыў навуку, якая ішла з Захаду — *Sciencia Latina seu Romana* і якая рацыяналізавала чалавека, з традыцыямі Усходу — *Slavia Orthodoxa*. Ён лічыў, што ў Бібліі “зънайдешъ о церъковной науце, еже вся обща хрυстианомъ имети”, бо паколькі ісціна адна — хрысціянская, то і царква — адна, а гэта значыць, што “И Церъковъ Х[ри]стова мати всехъ Хрестианъ”.

> *“Польскі даследчык Х. Лаўмянскі сцвярджаў, што Скарына ў сваёй выдавецкай дзейнасці не меў ніякіх іншых мэт, акрамя камерцыйных. Адрасаванасць “тружания Скорины” “люду паспалітаму” ім не заўважаная. Твор І. Прылуцкага таксама тэндэнцыйны, бо ў ім няма ніводнага прадстаўніка гэтага “люду”.*




Жанр рэцэнзіі патрабуе даць ацэнку акурат мастацка-эстэтычным і прафесійным вартасцям твора. Перш за ўсё, уласна драматургіі. Аднак само пытанне завісае пры адсутнасці праўдзівага зместу дзеяння, а штукарства з мікшыроўкай асоб і падзей можа ўразіць хіба што непадрыхтаванага чытача.

Менш значныя заўвагі таксама паказальныя. “Сродкі ад пранцаў” падсунуты ў арсенал лекаў Скарыны, але тады яны яшчэ не былі патрэбныя, бо не існавала такой хваробы. Гаварыць негацыянту Скарыну пра перавагі купецкага стану — марнасць. Чаму Лука з XV — пачатку XVI ст. карыстаецца тэрмінам “Расія”, калі яго яшчэ не было?

Правапіс кульгае: Іо́ў замест І□аў. М***і***равая язва — замест м***о***равай. Русізмы спрэс па тэксце: “складае цяжкасць”, “вымысел” і да т.п. А што такое “с***т***ыгнет”, гібрыд сігнета са стылетам?

Лаціна церпіць ад апантанасці: “*ubi (u**r**bi. — **У. А.**) et orbi*”; “*ubi ben**i** (ben**e**. — **У. А.**), **u**bi (**i**bi. — **У. А.**) patria*”. Але правапіс — нішто ў параўнанні са шкурным сэнсам перакладу: дзе добра, там Радзіма! — замест Скарынавага “*ubi patria, ibi bene*”: дзе Радзіма, там добра!

Пад уздзеяннем прачытанага перад намі міжвольна паўстае герой Ф. Дастаеўскага Лямшын, прагрэсіст з бесаўнігілістаў, які “околпачивал обывателя” тым, што падрабляў крык парадзіхі і лічыў гэта эстэтычнай вартасцю і вартай патэтыкай.

Мабыць, выява Еці на вокладцы мусіць выклікаць асацыяцыі з няголеным папомсхізматыкам, і такім чынам палямшынаўску інтэрпрэтаваць антытэзу?

---

Алеся ЛАПІЦКАЯ

# Асучаснены Скарына

**Факталагічныя памылкі ў п’есе “Мудрости зачало и конецъ…” далі магчымасць нагадаць чытачу пра жыццё і творчасць беларускага першадрукара, а таксама падкрэсліць высокі ўзровень сучаснага скарыназнаўства. Але нядобра было б пакінуць па-за ўвагай сам твор Івана Прылуцкага — пры ўсіх недахопах гэты мастацкі тэкст варты аналізу.**

Пятро Васючэнка наступным чынам азначыў галоўную адметнасць п’есы: “Своеасаблівасць творчай задачы заключаецца ў сумяшчэнні часавых пластоў — XVI і XXI стагоддзяў, што выяўляецца ў выхадах на сучаснасць, мадэрнізацыі вобразаў і рэаліяў, выкарыстанні сучаснай лексікі, жарганізмаў і нават амерыканізмаў. Дзеянне няспынна змяняе сваю жанравую прыроду, паслядоўна ператвараецца ў дыскусію, перформанс і г. д.”.

Сапраўды, усе персанажы п’есы аднолькава добра арыентуюцца як у сярэднявечным, так і ў сучасным беларускім жыцці, што дае ім магчымасць у сваіх выказваннях і разважаннях не абмяжоўвацца стылем ці ладам мыслення толькі адной эпохі. Пазачасавасць заўсёды мяжуе з адвечным — таму праз яднанне стагоддзяў пісьменнік падкрэслівае сталую актуальнасць розных праблем, жыццёвых падыходаў і светапоглядаў. Тут і бацькоўская перакананасць у тым, што “навука цябе ніколі не зробіць багатым і незалежным”, і жаночая скептычнасць адносна грандыёзных задум (“А то на бессмяротных жабракоў — непрызнаных геніяў — я столькі наглядзелася за часы працы ў офісах і ля ўніверсітэтаў, што калі б я атрымала ад кожнага толькі па адным талеры, то даўно была б магнаткай, а не сядзела б у далёка не самым узорным офісе…”), і канстатацыя бясспрэчных фактаў — “з паняццяў філасофіі жыцця люд цікавіць толькі апошняя частка — жыць любой цаной і пажадана без усялякай філасофіі”.

Персанажы п’есы фармулююць і абмяркоўваюць мноства ідэй — вызначаць ступень іх адмысловасці кожны чытач ці глядач будзе асабіста, зыходзячы са сваёй абазнанасці ў сучасным культурным працэсе. Адна з даволі нешматлікіх арыгінальных ідэй п’есы — гэта сцвярджэнне адноснай абгрунтаванасці сталых характарыстык розных гістарычных перыядаў. Сапраўды, для людзей XVI стагоддзя іх эпоха падавалася не менш “дынамічнай і імклівай”, чым для нашых сучаснікаў уласная.

Аднак галоўнае, што меўся б зрабіць аўтар у п’есе пра першадрукара — гэта паказаць абсалютна нечаканага, новага Скарыну альбо ў нязвыклым ракурсе выявіць яго жыццё і творчасць. І менавіта гэта ў Івана Прылуцкага амаль не атрымалася. Ён “дэсакралізаваў” свайго героя — даў яму магчымасць часам быць непрактычным, мройным, нават смешным, дазволіў іншым персанажам жартаваць з яго, — але далей не пайшоў. Вобраз Скарыны практычна не раскрыты, прадстаўнікі “світы” характарызуюць першадрукара ў цалкам традыцыйным рэчышчы. Фінальнае пытанне з-за сцэны: “Дык хто ж ён такі??? Дурань??? Святы?!!” — падаецца рытарычным, бо твор не дае дастатковага матэрыялу для развагі на гэты конт.

П’еса дэманструе сход Скарынавых акцыянераў, на якім Францыск мае вызначыцца са сферай дзейнасці. Аўтар сутыкае героя з ягоным бацькам Лукой, з Парацэльсам, Лютэрам і Эразмам Ратэрдамскім, якія прапануюць свае версіі запатрабаванай і перспектыўнай працы. Выяўленне гэтых альтэрнатыў, здаецца, павінна ў іншым святле паказаць выбар Скарыны — але цікавасць сітуацыі сціраецца тым, што галоўны герой не прымае рашэння on-line — яго з самага пачатку вабіць думка пра кнігадрукаванне, ён нібы толькі і чакае Эразма Ратэрдамскага, каб згадзіцца з ягонымі поглядамі, дый усе астатнія персанажы ад пачатку ведаюць, кім будзе Францыск.

На працягу п’есы амаль нічога не здараецца — персанажы выходзяць-уваходзяць і ўзаемадзейнічаюць выключна на вербальным узроўні, характарызуючы эпоху, Скарыну і адзін аднаго. Усе яны аднолькава дасціпныя, дасведчаныя і бадзёрыя, таму пра разнастайнасць характараў казаць не даводзіцца. У кантэксце сусветнай драматургіі апошняга стагоддзя ўсё гэта (і нават “нераскрытасць” галоўнага героя) ніякім чынам не з’яўляецца недахопам твора. Зазначым яшчэ раз: галоўнае, чаго бракуе п’есе, — гэта новага стаўлення да Скарыны і глыбокай глабальнай ідэі.

Аднак, калі на тэкст Івана Прылуцкага не звернуць увагу тэатральныя рэжысёры, добра было б, каб гэтае выданне зацікавіла настаўнікаў і метадыстаў. Бо п’еса “Мудрости зачало и конецъ…” выдатна пасуе для школьнай пастаноўкі, прысвечанай першадрукару: шмат пазнаваўчага матэрыялу, арыгінальная форма, зварот да адвечных нацыянальных праблем. Пры гэтым, безумоўна, варта выправіць гістарычныя і моўныя памылкі: ад пералічаных У. Агіевічам да банальнага “тухне святло”, якое выклікае непрыемныя асацыяцыі з тухлымі яйкамі. Варта думаць, што сённяшнія школьнікі не закідаюць імі акцёраў-аднакласнікаў, а, наадварот, паставяцца з энтузіязмам да асучасненага Скарыны.

## Галасы блізкага замежжа

**Для выдання ў РВУ “Літаратура і Мастацтва” ўпершыню рыхтуецца анталогія сучаснай паэзіі беларускага замежжа. Аўтар ідэі — доктар філалагічных навук А. Мальдзіс, укладальнік кнігі — культуролаг А. Івуць. У анталогію ўвойдуць вершы амаль 50 паэтаў. З мэтай прапаганды творчасці нашых землякоў, якія жывуць і працуюць за межамі Беларусі, у “ЛіМе” ўводзіцца новая рубрыка — “Галасы блізкага замежжа”.**




Паэтычны дар у Аляксандра Тарасава, які нарадзіўся 2 студзеня 1955 года ў в. Кульшычы Слаўгарадскага раёна, праявіўся яшчэ ў школе, калі былі надрукаваны яго першыя вершы. Скончыў Благавешчанскі педінстытут, працяглы час служыў у ракетных войсках. Цяпер жыве ў Рэспубліцы Марый Эл Расійскай Федэрацыі, час ад часу наведвае родны Магілёўскі край, якому прысвячае свае шчырыя і прачулыя вершы.

### Маё Прысожжа

*Прысожжа маё,*
*я лічу цябе домам,*
*Хоць даўно я не твой гаспадар,*
*Але ўсё мне тут блізка,*
*знаёма:*
*Поле, Сож, лесу цёмны гушчар.*
*Да цябе я прыйшоў,*
*па-сяброўску вітаю,*
*Бачу, што ты пазнала мяне.*
*Добры дзень, прыгажосць*
*майго роднага краю,*
*Над Прысожжам гучыць*
*Мір маёй старане.*

# Салігорская гронка

**Напрыканцы мінулага года мне пашанцавала з групай калег-пісьменнікаў праехацца па Міншчыне і Магілёўшчыне. Было вельмі шмат цікавых сустрэч у працоўных калектывах, у студэнцкіх аўдыторыях, у дамах культуры і бібліятэках. У Салігорску мелі магчымасць стацца нават на нейкі час шахцёрамі. Тая ўдзячная паездка падаравала мне нізку салігорскіх вершаў. З прыемнасцю аддаю яе на суд чытачоў “ЛіМа”.**




### Роздум пра вечнасць на глыбіні 600 метраў

*Так наіўна думаў я пра вечнасць,*
*А цяпер чакаць яе пакіну,*
*Бо сягоння з хлопцамі пад вечар*
*У яе спусціўся на хвіліну.*

*Страшная, скажу вам, гэта штука —*
*Бы ў труне, грымець у грознай клеці,*
*Згадваць і дзядоў сваіх, і ўнукаў*
*І не ведаць, на якім ты свеце;*

*І былое ўсё так бачыць ясна,*
*І лавіць у лязгу незвычайным,*
*Як у клеці той, грудной, уласнай,*
*Б’ецца камячок жывы адчайна.*

*Вунь яна пагрозная якая,*
*Вечнасць, як каменная тыгрыца.*
*Ты ж калісь радкамі і рукамі*
*За яе так прагнуў ухапіцца.*

*І цяпер у цемрыўным забоі,*
*Не ў сваю і не ў чужую змену,*
*Грозна так навісла над табою —*
*Так і сцісне лапаю каменнай.*

*Кратай і вачыма, і рукамі,*
*Не апошні госць тут і не першы, —*
*Вунь яна салёная якая,*
*Хоць зусім салодкая у вершах.*

*Можаш глыбіню саму памераць, —*
*Нейкіх там шэсцьсот халодных метраў*
*Праляцеў — мне дома не паверацць —*
*Я праз тую вечнасць лёгкім ветрам.*

*Выціраю пот і гладжу каску,*
*Нават плачу: што за недарэчнасць?..*
*Не, я вам зусім не баю казку,*
*Проста нагадаць хацеў пра вечнасць.*

* * *

*А на версе ўсё, як быць павінна:*
*Ясны душ,*
*З падміргам лямпавая*
*І такая светлая хвіліна,*
*І ў дзяцінстве гэткай не бывае.*

*Нават калі гэта не святое,*
*Добрым словам сябра падахвоціш.*
*Кожны дзень, нібы вядзерца тое,*
*Ты лятаеш у зямны калодзеж.*

*Поўня каскі свеціць, як скупая,*
*Пад табою спяць гадоў мільёны,*
*Ну, а ты па вечнасці ступаеш,*
*Белы, ад вачэй да пят салёны.*

*Ваганетак глумная бразготка…*
*Час за імі сунецца паволі.*
*Ведаеш, у чым тут соль усё-ткі?*
*Соль у тым,*
*што я здабытчык солі.*

* * *

Я работаю, как вельможа,
Я работаю только лёжа.

**Мікалай Анцыфераў**

*Ах, які тут, пад зямлёй, спакой,*
*І не сніўся ён табе, Еўропа!..*
*З лямпачкай на касцы мільгаткой*
*Я здалёк падобны да цыклопа.*

*Працінае твар салёны пот.*
*Я за ўсіх тут найважнейшы, можа.*
*Я зямлю ўсю бачу навылёт,*
*Не вяльможны пан,*
*А ўсё ж — вяльможа.*

*І карэта дзіўная ў мяне,*
*Надта дзіўны шлях паўзе змяёю.*
*І мяне ўсё тое не міне,*
*Што наканавана мне зямлёю.*

*Лежачы, працую над радком,*
*А ў забоі мне не трэба гнуцца.*
*Бачыш, труся ля якіх вякоў,*
*А радкі часовыя снуюцца.*

*Я на версе жарты ўсе сцярплю,*
*Я і сам мастак у гэтым жанры.*
*Шугануў глыбока пад зямлю —*
*Ты цяпер глыбокапаважаны.*

*Б’юць па самым сэрцы малаткі,*
*Аж душу расколваюць, як вугаль.*

*Хто для нас прыдумаў гэткі сон —*
*Столь у сталактытах заінелых?..*
*У падцёках жоўтых гляне соль —*
*Гэта кроў сяброў, што скамянела.*

*Хоць на гэту лямпу не глядзі.*
*Глянуў — і балюча адхіснуўся.*
*Гэта ж ён з усіх толькі адзін*
*З-пад Зямлі нанова ў свет вярнуўся.*

*Выстыла ўжо памяць, нібы склеп,*
*Змеран шлях няпростаю хадою.*
*Сам знямог, стаміўся і аслеп,*
*Але б’ецца сэрца маладое.*

*Набірае новы час разгон,*
*Рве ў руках старое пробы ніці.*
*Падыміце чарку, канагон,*
*І руку ад сэрца адыміце!..*



Фота Кастуся Дробава

### Сустрэча

Міколу Аўрамчыку, паэту, салдату, шахцёру-канагону

*Дзе ён, на якой цяпер вярсце,*
*Мой зямляк, не сумны па натуры,*
*Што сырым агеньчыкам трымцеў*
*У самотнай, цёмнай штольні Рура?*

*Дзе ён, паняволі канагон,*
*Над радком якім сядзіць маўклівa?*
*Чуб з мукі мучэнняў у яго —*
*І такое ліва.*

*Там ствалы айчыннае сасны*
*Штольні падпіралі ўсе і душы.*
*Так у сэрцы гукалі яны,*
*Як ствалы раз’ятранай “кацюшы”.*

*Думкай адгукаўся канагон*
*На яе, пушчанскую сястрыцу.*
*А яна, як дождж, на яго*
*Сыпала ўспамінамі іглiцу.*

*Сумна расступаюцца вякі,*
*Плача і пяе свой бор над вухам.*

### Палёт у бяздонне

Светлай памяці Леаніда Якубовіча, паэта і шахцёра, які трагічна загінуў у шахце 8 чэрвеня 1970 года

*Будзе зарыва тлець,*
*Небасхіл залаціць.*
*…І ляцела так клецць,*
*Як камета ляціць.*

*Ціха пчолы гулі,*
*Спеў зязюляю сад.*
*Гэта з вейка зямлі*
*Абляцела сляза.*

*Абарвалася ніць,*
*Не ўтрымаў яе час.*
*Ясны промень пагас.*
*І матулі баліць,*
*І зямлі ўсёй баліць…*

*А матуляў-сірот*
*На зямлі не злічыць.*
*Як завецца палёт,*
*Што ў бяздонне імчыць.*

*Разам з песняй, з вясной,*
*Пацалункам сухім*
*І чыйсьці віной*
*Не за нашы грахі?..*

*Абарваная ніць…*
*Абарваны радкі.*
*…Клецць ляціць і ляціць,*
*Як імгненне ў вякі.*

### Ліхтар

*Стары бывалы ліхтарок,*
*Што падарылі мне шахцёры,*
*Свяціўся тут, ля Налібок,*
*Падміргваў зорам.*

*З першапраходчыкаў ён тых,*
*Спрачаўся з цемрай у забоі.*
*Пакліча, як заблудзіш ты*
*І слова высвеціць любое.*

*Падкіне сушняку ў агонь*
*Ды паглядзіць, чаго ты варты.*
*І ты ад позірку яго,*
*Нібы ад чаркі, зморшчыў твар свой.*

*Мы ля Старобіна ў бары*
*Калісьці з ім пасябравалі.*
*І ён стары, і я стары…*
*Ды… гэта мы пажартавалі.*




* * *

*Снег кідаецца з ночы,*
*Вецер шапку зрывае,*
*А я крочу, як крочыў,*
*Хто ў мяне папытае.*

*Хто развее самоту,*
*Скажа важкае слова,*
*Забярэ адзіноту,*
*Стане веры асновай.*

*Хто падыме,*
*суцешыць,*
*Хто дасць новыя сілы,*
*Хто, пачаўшы,*
*завершыць,*
*Хто надзеі акрыліць.*
*Бог бальзам даў гаючы,*
*Прасвятліў цемень ночы…*
*Снег, як вожык, калючы,*
*А я крочу, як крочыў.*

* * *

*Пастарайся*
*прыйсці да зімы,*
*Каб завеі цябе не зламалі,*
*Каб з табою*
*сустрэліся мы*
*І Хрыста*
*між аблокаў пазналі.*

*Пастарайся прыйсці да зімы,*
*Каб нягоды цябе не сагнулі,*
*Каб з табою сустрэліся мы*
*І ў дарозе вачэй не самкнулі.*

*Пастарайся*
*прыйсці да зімы,*
*Дзе б ні быў,*
*адкладзі свае справы,*
*Каб з табою сустрэліся мы*
*І трымалі вянкі*
*Божай славы.*

*Пастарайся*
*прыйсці да зімы,*
*Можа,*
*болей не будзе такога,*
*Каб з табою сустрэліся мы*
*І пабачылі Бога жывога.*

* * *

*Я запомніў толькі вочы,*
*Не магу*
*прыпомніць твар…*
*Толькі б вочы*
*не сурочыць —*
*Трапяткога сэрца жар.*

*Я запомніў толькі вочы,*
*Не магу*
*прыпомніць смех…*
*Толькі вочы —*
*між той ночы —*
*І бялютка-белы снег.*

## Новы праект



**Калі беларусы-інтэлектуалы наведваюць еўрапейскія краіны, натуральна, іх прываблiваюць кніжныя крамы. Утульныя. Дэмакратычныя. Там можна спакойна пасядзець на канапе ці проста на падлозе каля паліцы з кнігамі, пагартаць выданне, якое спадабалася. І злая прадаўшчыца не падыдзе з заўвагай: “Гэта кнігарня, а не бібліятэка!” У такіх магазінах можна патрапіць на прэзентацыю кнігі папулярнага аўтара, паўдзельнічаць у яе абмеркаванні, бо прэзентацыя — добры спосаб прывабіць новых пакупнікоў. Яшчэ большае захапленне нашых суайчыннікаў выклікаюць маленькія кавярні, што працуюць пры кніжных магазінах, дзе можна зноў жа з кніжкай за столікам выпіць кавы… проста рай для аматара чытання!**

# Кава ідзе ў кнігарню

**Марына ВЕСЯЛУХА**

Хочацца, каб і нашы кнігарні былі такімі. І яны імі становяцца! Варта толькі прыгадаць цёплыя сустрэчы ва ўтульнай гандлёвай зале “Кніжнага салона”, прэзентацыі ў розных кнігарнях сеткі ААТ “Белкніга”, але самае галоўнае — у крамы ідзе кава! Гэтага духмянага напою (натуральна, чытаючы кнігу) можна выпіць у некаторых магазінах сеткі “Белсаюздрук”, у новай краме “Прэзентацыя” выдавецтва “Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі”. Да модных кнігагандлёвых тэндэнцый далучыліся і рэгіёны. Так, адпачыць і пачытаць за кавай можна і ў Брэсце, у крамах “Брэстаблсаюздруку”.

Але беларускія кнігарні чакае яшчэ больш сур’ёзнае абнаўленне. І гэта не можа не радаваць. Справа ў тым, што ў краіне з’явіўся праект кніжнага магазіна-клуба з кавярняй “Кофібук”. Гэта пакуль толькі праект, але, пагадзіцеся, сама задумка вартая ўвагі. Каб даведацца крыху больш пра магчымую кнігарню-кавярню, я сустрэлася з яго аўтарам і каардынатарам Марынай Пашкевіч.

**— Марына, распавядзіце, калі ласка, пра праект “Кофібук”. У чым яго сутнасць?**

— Праект “Кофібук” — цэнтр інтэлектуальнага баўлення вольнага часу. Гэта месца, дзе можна весела і з карысцю правесці час. У першую чаргу набыць літаратуру, наведаць розныя майстар-класы і лекцыі, апынуцца на сустрэчы з аўтарамі. А таксама ў прыемнай атмасферы выпіць кубачак кавы ці гарбаты, з’есці кавалак торта ці піrожнае, а можа, і тост з джэмам.

**— Чым выклікана неабходнасць такой задумкі і яе рэалізацыі?**

— Неабходнасці не было. З’явілася ідэя. Жаданне, інтарэс і, канечне ж, ідэя сталі матывамі да рэалізацыі гэтага праекта.

**— Якія менавіта кнігі можна будзе набыць у новай краме?**

— Абсалютна розныя. Гэта як класічная мастацкая літаратура, зборы твораў, нават калекцыйныя выданні, так і прафесійная і, канечне ж, дзіцячая літаратура.

**— Акрамя кавы і кніг што яшчэ можна будзе пабачыць і знайсці ў межах рэалізаванага праекта?**

— Цікавыя майстар-класы па розных сучасных кірунках: дэкарыраванні, дызайне. Лекцыі майстроў справы па бізнесе, маркетынгу, сустрэчы з аўтарамі кніг — абмеркаванні твораў і прэзентацыі, а таксама нядзельныя чытанні для дзяцей.

**— Праект заяўлены як магазін-клуб. З часткай “магазін” усё зразумела. Што падразумяваецца пад “клубам”?**

— Пад “клубам” якраз і разумеем, што там актыўна будуць бавіць час наведвальнікі, захопленыя майстар-класамі, лекцыямі, сустрэчамі, дзяліцца ўражаннямі і меркаваннямі.

**— У Мінску ўжо ёсць кнігарня з невялічкай кавярняй “Прэзентацыя” выдавецтва “Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі”, вы яе разглядаеце ў якасці свайго канкурэнта?**

— Не. Ідэі падобныя, але вось на этапе рэалізацыі праекта “Прэзентацыя”, як мне падаецца, штосьці было страчана.

Калі праект станецца такім, якім яго задумалі каардынатары, ім можна будзе толькі паапладзіраваць. Шкада, што ўвасабленне “Кофібука” ў рэчаіснасці пакуль адкладзена, а праца па рэалізацыі праекта прыпынена. Як заўважыла Марына, на гэта было некалькі прычын. Але спадзяюся, што ўсе перашкоды будуць пераадоленыя і ў хуткім часе ў сталіцы з’явіцца кнігарня новага фармату, якая прываблівае не толькі заўзятых кнігалюбаў, але і новых аматараў чытання, стане яшчэ адным культурным цэнтрам і месцам сустрэчы моладзі.

***На здымку: аўтар і каардынатар праекта “Кофібук” Марына Пашкевіч.***

## Прэзентацыі

**Чэслава ПАЛУЯН,**
**фота Кастуся Дробава**

# Паэтычнае «трохкніжжа»

**Напрыканцы мінулага года краіна святкавала 120-гадовы юбілей з дня нараджэння Максіма Багдановіча. Здавалася б, знакавая дата мінула, імпрэзы прайшлі, праекты прэзентаваны. Але і ў новым 2012 годзе, які прысвечаны юбілеям Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка, чытацкая ўвага застаецца звернутай да Максіма. Тым больш што і нагода для гэтага сапраўды вартая — выхад у свет так званага “трохніжжа” — трох кніг аднаго верша ў перакладзе на дзесяць еўрапейскіх моў. Гэта, бадай, самыя вядомыя вершы класіка: “Раманс”, “Слуцкія ткачыхі” і “Пагоня”, кожны з якіх цяпер стаў асобнай кнігай. Выданні пабачылі свет дзякуючы Беларускаму фонду культуры пры падтрымцы Міністэрства культуры краіны.**

Прэзентацыя гэтага знакавага праекта прайшла ў сталічным Доме дружбы і сталася не проста прадстаўленнем кніг, але і міжнароднай акцыяй, бо ў ёй узялі ўдзел прадстаўнікі еўрапейскіх дыпламатычных місій у Беларусі. Так, Іван Бунечка, пастаянны прадстаўнік Украіны пры каардынацыйных інстытутах СНД, а таксама сябар Беларускага таварыства дружбы Даніель Аркіе з Францыі прачыталі верш “Слуцкія ткачыхі” ў перакладзе на ўкраінскую і французскую мовы; спадар Эдмінас Багдонас, Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Літвы ў Беларусі, а таксама Петэр Дэтмар, намеснік пасла ФРГ у нашай краіне, натхнёна дэкламавалі “Пагоню” — па-літоўску і па-нямецку. На мове Уільяма Шэкспіра прагучаў “Раманс” М. Багдановіча — яго прачытала Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Вялікабрытаніі ў Беларусі спадарыня Розмары Томас. “Раманс” загучаў і па-балгарску — у выкананні перакладчыцы, намесніка старшыні таварыства “Беларусь — Балгарыя” Аксаны Бубновай. Натуральна, гучалі і арыгінальныя вершы Максіма, але ў песеннай інтэрпрэтацыі артыстаў тэатра “Зьніч” Вячаслава Статкевіча і Сяргея Сарокіна.



Падчас імпрэзы выступіў Тадэўш Стружэцкі, намеснік міністра культуры Беларусі. Ён падкрэсліў: “Важна, што новы год пачынаецца менавіта з Максіма Багдановіча. І важна тое, што кожны ў сваёй свядомасці мае ўласны вобраз паэта, і можа, ён цікавы менавіта сваёй шматграннасцю”. Гэтую ідэю падхапіў і Анатоль Бутэвіч — пісьменнік, дыпламат, перакладчык. Анатоль Іванавіч адзначыў: “Багдановіч сапраўды стаў беларускім нацыянальным паэтам. Ён увайшоў у свядомасць кожнага з нас з маленства. Багдановіч стаў і вядомым еўрапейскім паэтам, упершыню пераклаў многія вершы на беларускую мову”. Старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп, па сутнасці хросны бацька гэтага “трохкніжжа”, паведаміў, што наперадзе яшчэ многа праектаў, звязаных ужо з імёнамі Купалы і Коласа.

***На здымку: Багдановічаву “Пагоню” чытае намеснік Пасла ФРГ у Беларусі спадар Петэр Дэтмар.***

## У падтрымку чытання



**Таццяна Бембель, мастацтвазнаўца, кіраўнік Гарадской мастацкай галерэі твораў Л. Шчамялёва:**

# Праз чароўны партал

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

— На пытанне, якія кнігі паўплывалі на маё станаўленне як чытача, з упэўненасцю магу адказаць — першыя. Я навучылася чытаць у чатыры гады — дзякуй бабулям і дзядулям, якія лічылі вельмі важным для развіцця чытанне ў дзяцінстве. Мне чыталі ўслых і паказвалі літары. Аднойчы адбыўся цуд: літары скласіся ў слова. Гэта здарылася на вуліцы маленькага падмаскоўнага гарадка Ступіно. Раптам я ўбачыла вялікі надпіс: АПТЭКА. Гэты цуд пераўтварэння набору рысак у сэнс і вобраз дасюль мяне зачароўвае.

У дзяцінстве гэта было сапраўднымі дзвярыма ў іншы свет, за якімі можна было пакінуць усё, што не падабалася ў акаляючай рэальнасці, а не падабалася многае: дзяцінства — адзін з самых складаных перыядаў у жыцці чалавека.

Маімі першымі кнігамі сталі “Легенды і міфы Старажытнай Грэцыі” Куна і трохтомнік Афанасьева “Рускія народныя казкі”. Я чытала іх зноў і зноў. У міфах мяне зачароўвалі найперш сюжэты і вобразы, а ў Афанасьева — сама мова. Казкі там неадаптаваныя, мова старажытная, вобразы магічныя, страшныя, палову слоў я спачатку не разумела. Але дакладна адчувала гіпнатычную моц гэтай сапраўднай мовы, яе нясамрэч фізіялагічнае ўздзеянне. З тых часоў у мяне ёсць свая мера моцы тэксту.

Пасля, зразумела, было мноства кніг. Мне заўсёды іх не хапала, таму што чытала я вельмі хутка, а кніжны голад быў страшны. За савецкім часам не заўсёды можна было дастаць добрыя кнігі. З “галадухі” я палюбіла чытаць слоўнікі і даведнікі: батанічны, напрыклад… Кулінарныя кнігі ў доме таксама былі зачытаны да дзірак. Газеты, зразумела, паглыналіся прама з лупінамі, г. зн. з перадавіцамі, афіцыйнымі заявамі і да т.п. Мне важны быў сам працэс чытання, ад якога я залежала проста наркатычна. Сёння больш чытаю спецыяльную літаратуру, звязаную з маёй прафесіяй мастацтвазнаўцы.

*100 год кнізе*

Марына ВЕСЯЛУХА

# Больш, чым каляндар

**Рэдакцыя газеты “Наша ніва” вядомая сваёй наватарскай дзейнасцю. Адной з такіх навацый можна смела назваць выданне “Беларускага календара”, кніжачкі, якая павінна была дапамагаць селяніну-беларусу цягам усяго года. Першы каляндар пабачыў свет у 1910-м. Ён змяшчаў спіс праваслаўных, каталіцкіх і яўрэйскіх свят з датамі, парады для гаспадароў, статыстыку мінулага года, расклад буйных кірмашоў, абавязковыя для публікацыі звесткі пра імператарскую сям’ю, юрыдычны аддзел з парадамі аб правільным афармленні дакументаў рознага кшталту, а таксама невялікую колькасць карыснай для селяніна рэкламы. Асобнай часткай календара сталі публіцыстычныя і літаратурна-мастацкія творы на беларускай мове, выбраныя з тых, што цягам года з’яўляліся на старонках “Нашай нівы”.**

У “Першым беларускім календары” працэнт мастацкага кампанента быў нязначным. Але прайшоў час, праз год “Каляндар” атрымаў сярэбраны медаль на сельскагаспадарчай выстаўцы ў Быхаве, стаў параўнальна знакамітым і ў той жа час даступным па цане. Ён каштаваў усяго 15 капеек (да прыкладу, за 90 капеек можна было набыць пуд жыта). У той час як гадавая падпіска на саму “Нашу ніву” абышлася б у 2 рублі, а за кнігі асобных аўтараў трэба было заплаціць не менш як 20 капеек. Выгада відавочная. І каляндар са святамі, і парады для гаспадароў, і дадатак у выглядзе мастацкіх твораў (дадатак, з аднаго боку, не такі ўжо і патрэбны, але хай будзе).

Калі гартаеш “Беларускі каляндар «Нашай нівы» на 1912 год”, які ўжо павялічыўся ў аб’ёме, заўважаеш прыкметнае павелічэнне мастацкага дадатку (аж да 20 старонак) і з’яўленне культуралагічнага кампанента. Ды і аўтары пачынаюць больш смела і настойліва звяртацца да чытачоў з мэтай абудзіць нацыянальную годнасць сялян. І звяртаюцца да іх некалькімі спосабамі. Побач з календаром на кожны месяц з пералікам свят ды парад для гаспадароў змяшчаюць апісанне традыцыйных шляхоў святкавання адметных дат года: Каляды, Вялікдзень, Купалле, Дзяды, Куцця. Чытаючы такія расповеды, селянін знаёміўся з культурай краіны, бо аўтары распавядалі пра традыцыі розных рэгіёнаў Беларусі. Мог чытач і сам распавесці пра традыцыі сваёй мясцовасці, напісаўшы пра іх у рэдакцыю. Шкада толькі, што аўтары не ўказвалі мясцовасць, у якой былі распаўсюджаныя прыведзеныя абрады, некаторыя з іх вызначаліся цікавымі адметнасцямі.

Так, з “Календара” і сёння даведваемся, што на Беларусі “дзявіч-вечар”, на які запрашаліся толькі дзяўчаты, сяброўкі маладой, спраўлялі толькі на другі дзень пасля шлюбу, а само вяселле з заручынамі і “запоінамі” расцягвалася на тыдзень і заканчвалася пад вянцом у нядзелю. Адметна таксама, што беларусы ўжывалі алкаголь падчас постнай куцці (гэта катэгарычна забаранялася і каталіцкай, і праваслаўнай царквой), але толькі адну сімвалічную чарку. “Выпіваючы першую чарку, — піша невядомы аўтар, — гаспадар казаў: “Судзі Божэ, каб на другі год прыждалі ў шчасці, у долі і ўсякай добрай памыснасці; каб жывы і здаровы былі, каб разам куццю спраўлялі, судзі Божэ!” Яму ўсе адказвалі: “Судзі Божэ!” Гэтак па чарзе, прымаючы чарку з рук у рукі, усе выказвалі найлепшыя жаданні, але ўжо іншымі словамі”.

У мастацкім дадатку ў “Календары” 1912 года ярка вылучаецца публіцыстычны блок. “Навагоднія думкі” пра тое, што трэба быць беларусамі, імкнуцца да навукі, не саромецца простай мовы; Сяргей Палуян у допісе з Кіева падкрэслівае: “кожны беларус павінен шырыць друкаванае слова ў роднай мове”… І — як ні дзіўна — зваротная рэакцыя ў выглядзе “Думак селяніна-беларуса” Мікалая Аношкі з вёскі Аношак Даўгінаўскай валасці Вілейскага павета. І далей — паэтычныя і празаічныя творы-допісы аўтараў з розных куткоў краіны: з Капыля, Гальшан, Мінска, нават М. Багдановіч даслаў верш з далёкага Яраслаўля, а таксама казка, запісаная М. Федароўскім, жарты…

Чытаючы такі каляндар, беларус мог сапраўды адчуць сябе беларусам, калі чытаў уважліва, а яшчэ лепш — між радкоў. Што да самога “Календара”, то яго змест і структура паказалі: сябры рэдакцыі “Нашай нівы” гатовыя ствараць штосьці больш сур’ёзнае, змястоўнае і значнае, чым газета і проста сельскагаспадарчы каляндар з парадамі. Па сутнасці, так яно і сталася: у маі 1912 года пабачыў свет першы выпуск літаратурнага альманаха “Маладая Беларусь”. Але пра яго мы распавядзём крыху пазней — бліжэй да стагадовага юбілею.




# Вільня Максіма Багдановіча

*Фота з фонду Літаратурнага музея М. Багдановіча.*

Ала ІВАШКЕВІЧ,
малодшы навуковы супрацоўнік
Літаратурнага музея М. Багдановіча

Чэрвеньскімі днямі 1911 года Максім Багдановіч пабачыў Вільню. Прыгожую, незвычайную, пазалотай нябёс асветленую, чый рамантычны вобраз паўстае на старонках цыкла “Места”. Як самы лепшы ўспамін радаснымі званамі загучалі, зажылі вершаванымі радкамі вуліцы Вільні, слуцкія паясы, касцёл Святой Ганны… Відаць, дагэтуль не бачыў Багдановіч такой светлай, адкрытай прыгажосці, дзе зусім не адчуваецца стомленасць турботнага жыцця. Незабыўныя ўражанні пакінулі ў сэрцы паэта знаёмствы і гутаркі з Браніславам Эпімах-Шыпілам, Вацлавам Ластоўскім… Так, з успамінаў апошняга, размовы ў рэдакцыі газеты “Наша Ніва” падчас прыезду Багдановіча зацягваліся ад змяркання да світання… Менавіта ў той час малады паэт пазнаёміўся з Іванам Луцкевічам, які сабраў вялікую калекцыю помнікаў беларускай культуры. Тут былі зборы нясвіжскіх дываноў, старажытных пячатак, манет, медалёў, рыцарскай зброі, карціны старых майстроў, рукапісы старасвецкіх славянскіх кніг, старадрукі, беларускія абразы. “Гэта і за тысячу гадоў будзе сведчыць аб нас”, — казаў Багдановіч пра помнікі нашай старасвецкай культуры.

З Вільняй выдатнага майстра сапраўднага эстэтычнага пісьменства назаўсёды паяднаў яго адзіны прыжыццёвы зборнік “Вянок”, што выйшаў у друкарні Марціна Кухты. І сёння, не перапыніўшы хуткаплынныя стасункі з часам, віленскі матыў самадастаткова гучыць у беларускай нацыянальнай паэзіі.

Сэрца чалавека… Яно, зачараванае прыгажосцю, сапраўды жыве, набліжае да сябе таямніцы свету, сапраўдную існасць жыцця і ні на адну хвіліну не пакідае нас. У Вільні Максіму Багдановічу было дадзена засведчыць сваю прысутнасць, а сэрцам сваім усё зважваць і адчуць досыць тонка ў паўсядзённым віры складанасцей жыццёвых варункаў пранізлівыя інтанацыі тых далёкіх шчасцівых дзён.

***На здымку: рэдакцыя газеты “Наша Ніва” ў Вільні, фота да 1915 г.***

Марына БЕЛАОКАЯ

# Экран і культурная спадчына Беларусі

**Каштоўнае навуковае выданне “Экран і культурная спадчына Беларусі” ўбачыла свет у выдавецтве “Беларуская навука” напрыканцы мінулага года. Гэта калектыўная манаграфія створана навукоўцамі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, кінакрытыкамі і журналістамі.**

Аўтар канцэпцыі манаграфіі — загадчыца аддзела экранных мастацтваў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі, кандыдат мастацтвазнаўства Антаніна Карпілава.

— Прасачыць узаемасувязі экранных мастацтваў з культурнай спадчынай Беларусі — асноўная задача аўтараў, — расказала Антаніна Карпілава. — Экранныя мастацтвы (кіно, тэлебачанне, відэа, дыгітальнае, сеткавае мастацтва, мультымедыя) увесь час звяртаюцца да набыткаў народнай культуры. З ёю звязаны работы многіх кінематаграфістаў, якія працавалі ў Беларусі. Пры аналізе айчынных кінастужак складана абысціся без сувязі твораў з нашай культурай, гісторыяй, рэлігіяй, літаратурай, жывапісам, музыкай, выяўленчым мастацтвам.

Інтэнсіўнае развіццё тэхнагенных мастацтваў прывяло да хуткіх і шматлікіх змен у сучаснай мастацкай культуры і, у той жа час, адкрыла новыя магчымасці для ўзаемадзеяння традыцыйных сістэм мастацкай выразнасці. Экранная культура сёння змяняе ўяўленні пра сістэму каштоўнасцей, таму ўзрастае роля народнай культуры і нацыянальных традыцый.

Культурная спадчына найбольш ярка ўвасабляе духоўны патэнцыял нацыі, выражае яе светапогляд, ментальныя асаблівасці і этычныя нормы. Аўтары манаграфіі імкнуліся выявіць ролю беларускага кіно як рэтранслятара і стваральніка айчыннай культурнай спадчыны, сродкамі якога ўвасаблялася маральна-духоўная каштоўнасць этнасу.

У манаграфіі “Экран і культурная спадчына Беларусі” ўпершыню комплексна даследуецца культурная спадчына Беларусі ва ўсіх відах кінамастацтва — ігравым, дакументальным, анімацыйным. Аналізуецца прадукцыя Нацыянальнай кінастудыі “Беларусьфільм”, студыі “Тэлефільм”, РУП “Белвідэацэнтр”, іншых студый, на якіх выпрацоўваліся фільмы пра матэрыяльную і духоўную культуру Беларусі.




У першым раздзеле манаграфіі “Экранная спадчына” расказваецца пра “піянераў” беларускага кіно. Героямі гэтай часткі сталі рэжысёр Юрый Тарыч, сцэнарысты Анатоль Вольны і Рыгор Кобец, артысты Уладзімір Крыловіч і Любоў Мазалеўская. Шмат увагі надаецца беларускаму тэлефільму, этапам яго развіцця, напрамкам творчасці тэледакументалістаў. Важнейшы кампанент кінапрацэсу — прафесійная кінакрытыка — таксама разглядаецца ў гэтым раздзеле. Чытач можа даведацца пра станаўленне і фарміраванне крытыкі як часткі развіцця кінематографа, як віду творчай і аналітычнай дзейнасці. Цікавым падаецца вызначэнне ролі кінакрытыкі ў ацэнцы новай кінаэстэтыкі. Вылучаюцца асаблівасці беларускай кінакрытыкі ў віртуальнай прасторы. Падрабязна расказваецца пра тое, як адлюстроўвалася гісторыя беларускага кіно на старонках часопіса “На экранах”, якім чынам ладзілася асвятленне фестывальнага руху і іншых кінамерапрыемстваў, што праходзілі ў рэспубліцы.

Намаганні па стварэнні каштоўнасцей нацыянальнай экраннай культуры не маюць сэнсу без вырашэння праблемы іх запатрабаванасці і папулярызацыі. Каб захаваць іх у межах грамадскай увагі, патрэбны дзейсныя механізмы трансляцыі. Іх неабходна ўключаць у сучасны культурны кантэкст. Аўтары распавядаюць, якім чынам захоўваецца экранная спадчына ў Музеі гісторыі беларускага кіно. Гэта ўстанова мае амаль дзесяцігадовы вопыт работы, займаецца пошукам эфектыўнай мадэлі выкарыстання здабыткаў экраннай культуры.

У другім раздзеле кнігі — “Экран і мастацкая спадчына” — аналізуюцца ўзаемасувязі экраннай культуры з рознымі відамі мастацтва — літаратурай, тэатрам, акцёрскім майстэрствам. Разглядаюцца эвалюцыя тэлетэатра Беларусі, тэлевізійнае адлюстраванне тэатральнага працэсу, экранізацыі літаратурных твораў як форма захавання культурнай спадчыны, даследуецца паэтычная прырода фільма “Вянок санетаў” Валерыя Рубінчыка.

У трэцім раздзеле манаграфіі — “Экран і народная культура” — аналізуецца спектр узаемасувязей экраннага мастацтва з традыцыйнай культурай. Разглядаецца ўвасабленне беларускага народнага календара ў дакументальных фільмах, фальклорныя матывы ў анімацыйным кіно Беларусі.

Тут жа аналізуюцца важнейшыя архетыпы нацыянальнай культуры, што знайшлі адлюстраванне ў экранным мастацтве. І, перш за ўсё, ліра-эпічная і драматычная трактоўкі вобразаў зямлі ў беларускім кіно. Разгледжана роля прыродных матываў у дакументальным кіно, развіццё экалагічнага напрамку ў беларускім кінематографе.

Дэталёва даследуецца ўвасабленне на экране музычнага фальклору: эвалюцыя яго экраннага асэнсавання, выкарыстанне народнай музыкі ў дакументальным кіно і анімацыйным мастацтве, асаблівасці экраннай этнамузыкалогіі.

Кніга аздоблена цікавымі фотаматэрыяламі — кадрамі з фільмаў, партрэтамі кінематаграфістаў, здымкамі, зробленымі падчас працы над кінастужкамі, і іншымі ілюстрацыямі. Са старонак манаграфіі паўстае галерэя творчых партрэтаў беларускіх кінематаграфістаў, найбольш значныя творы і здабыткі нацыянальнага кіно, перспектывы яго развіцця, падзеі і з’явы кінапрацэсу, гістарычныя экскурсы — усё, што стварае экранны летапіс беларускай культуры.

# Золотое дно советской литературы

Ольга ПАВЛЮЧЕНКО

**Ставя под сомнение всё на свете, в достижениях советской литературы мы усомниться не посмеем. Её наследием легко пользуются с разной долей успеха современные авторы. Особенно плодотворно — фантасты. Самой золотоносной жилой является для них творчество Аркадия и Бориса Стругацких. Об изданиях "Харвеста", которые можно отнести к современной фантастике, сегодня пойдёт речь.**

## От книги — к игре и обратно

Обложки серии S.T.A.L.K.E.R. знакомы даже тем, кто фантастикой не увлекается — они заполонили книжные прилавки. S.T.A.L.K.E.R. — межавторская серия новеллизаций одноимённой компьютерной игры, создателей которой вдохновило не что иное, как бессмертное произведение братьев Стругацких "Пикник на обочине" и снятый по ней фильм Андрея Тарковского. В проекте приняли участие как известные российские фантасты, так и начинающие авторы. Российский журнал "Мир Фантастики" утверждает: это самый успешный на сегодняшний день проект новеллизаций, несмотря на отмечаемые журналистами многочисленные нестыковки в произведениях. "Эти книги честно развлекают читателя, не претендуя на нечто большее". Однако серия заморожена с июня 2011 года. Впрочем, в настоящее время доступны читателю и электронные, и бумажные версии её изданий — всего 93 из самой серии плюс ещё те, в которых действуют любимые герои. Большинство произведений написано в жанре боевика.



Предыстория их сводится к тому, что "ад раскрылся внезапно. В начале XXI века после нового мощного взрыва на Чернобыльской АЭС окружающая её территория стала враждебной человеку Зоной, наполненной хищными мутантами и смертельно опасными ловушками. Однако местные физические аномалии порождают артефакты — невероятно ценные предметы, за которые мировые научные центры готовы платить целое состояние. Самые рисковые и бесстрашные авантюристы, которых называют сталкерами, отправляются в Зону. Но здесь царит закон джунглей, и выживают немногие"…

К помощи сталкеров пришлось обратиться героине книги **Вячеслава Шульги "Берег дна"** четырнадцатилетней Маше, дочери профессора Титаренко. Полученное от него из Зоны письмо — сообщение о том, что он совершил важное научное открытие, и просьба о помощи. С другом профессора, который должен отправиться в Зону выручать отца, Маша связаться не может: он в командировке в Японии, где есть свои аномальные Зоны. Но что-то подсказывает девочке, что следует поспешить. За открытием профессора идёт охота влиятельных сил: за Машей следят, на их отряд в Зоне объявлена настоящая охота и обещана немалая награда. Удастся ли девочке и четырём сталкерам, один из которых — легендарный везунчик Мотя, а трое — всем известные неудачники, не только уцелеть в Зоне, населённой агрессивными существами разного рода, но ещё и спасти профессора? Об этом роман Вячеслава Шульги.

"Девчонка, ради которой мужик дважды ставит на уши Зону и разок параллельный мир, стоит того, чтобы на ней жениться". Передел власти в Зоне — вот фон, на котором разворачиваются события книги **Дмитрия Силлова "Закон наёмника"**. Суть закона проста: взялся — делай. Всё остальное — эмоции, право на которые дано будет потом, вне Зоны. Захватить власть над Зоной, а значит, и над миром, стремится влиятельная группировка "Монолит". Но Зона на то и аномалия, что у неё имеется своя воля. И благодаря этой воле в нужное время в ней собираются сталкеры-легенды — Меченый, Шрам, Снайпер, Якудза, которые знакомы поклонникам серии по другим произведениям этой цикла. Снайпер идёт выручать свою любимую, неземная красота которой — тоже результат взаимодействия с артефактом. Схватка между монолитовцами, оснащёнными современным оружием, и сталкерами будет захватывающей и безостановочной, подобно компьютерной игре, которую включаешь минут на десять, чтобы расслабиться, а встаёшь с затёкшей спиной часа через три.

## Поездки на «Обитаемый остров»

Серия "Обитаемый остров" основана в 2010 году братьями Стругацкими и уже только поэтому сразу завоевала чита-



тельское внимание. Роман **"Век одиночества"**, авторы которого **Андрей Чернецов и Валентин Леженда**, рассказывает о государстве Пандее, периодически воюющем с соседним — Хонти. Время — послевоенное. Страной правят мудрые Радетели, царит свобода — трудись, ходи на демонстрации, вступай в патриотические объединения, отводи душу в "Галерее ненависти" или на Больших Пандейских Играх. А надоело — можешь безболезненно распрощаться с жизнью в специально оборудованных кабинках, только вот почему-то большинство граждан мечтают заполучить "Золотой билет", позволяющий рвануть за границы родной державы, да постоянно взрывают покой мирных жителей теракты. Один из них предстоит расследовать сорокапятилетнему комиссару Антти Лэйхо.

## Стругацкие и не только

Современная белорусская фантастика не собирается сдавать позиций. В серии "Библиотека современной белорусской фантастической и приключенческой прозы" читатель, обожающий творчество Михаила Булгакова, с интересом проследит вариации на тему его "Ма-



стера и Маргариты" на страницах романа **Александра Алешкевича "Золотые апостолы Радзивилловские"** и убедится, что ткань его произведений — не менее благодатная почва для полёта фантазии. Главный герой повествования — талантливый студент-художник, донос на которого напишет лучший друг Виктор, влюблённый в музу Алеся Марысю. Это случится сразу же после того, как вечером жаркого летнего дня в городе М. на центральной площади материализуются из воздуха четыре голых силуэта: плюгавый коротыш, высокий тощий сухарь, прелестная женская фигура и пожилой полноватый господин. Материализуются, загадают, в какой одежде им быть, и возникнут на банкете в честь празднования пятилетнего юбилея художественного реставрационного училища, который почтили лучшие люди города. Замутят воду, а в конце произведения воздадут по заслугам и председателю местного райисполкома за развал работы в районе, и директору училища за взяточничество. И прокурору с городским судьёй, и незадачливым кладоискателям мало не



покажется, и бывшему начальнику милиции города, и блудливым жёнам первых лиц…

В книгу вошли также рассказы "Чёрная дыра", "Полынь", "Страшный Суд" и "Рапсодия старинных палацев".

Несколько сложнее проследить первоистоки романа **Геннадия Авласенко "Пленники Чёрного леса"**. Скорее всего, читателя придётся отослать к эпосу разных народов мира и "Властелину колец". Героям произведения, спасаясь от преследователей, предстоит пройти через страшное место — Чёрный лес. Живые деревья-людоеды, оранжевые пятна, способные перетереть в прах всадника и лошадь, полчища кровососов и разного рода оборотней, воинственные гномы… Кому из большого отряда хорошо вооружённых воинов удастся обнять родных и близких после такого похода? Вместе с главным героем романа — юношей Стивом читатель будет переживать радость победы и горечь потерь, проявлять сострадание и приходить на помощь. Молодость Стива сослужит ему добрую службу — не успевшее очерстветь сердце позволит среди врагов обрести настоящих друзей, которые, в свою очередь, придут на помощь в трудную минуту.

## В помощь родителям

Екатерина БЕДУЛИНА



Какой он, мир ребёнка? И как научить малыша воспринимать его таким, какой он есть: видеть яркие цвета радуги, слышать звуки природы и шум города, познавать удивительный животный мир? **"Большая книга умного малыша"** как развивающая энциклопедия научит рисовать и общаться.

Книга состоит из нескольких разделов, содержание которых способствует развитию речи ребёнка, знакомит его с окружающим миром, развивает фонематический слух, мышление, память, общую и малую моторику, эмоции и чувства, пространственно-временное представление, сенсорное восприятие, формирует математическое представление. Цель этой книги — не просто занять малыша, а ещё и развить данные от природы способности ребёнка.

Издание составлено с учётом возрастных особенностей развития детей 3 — 5 лет. Здесь можно найти интересные и доступные задания и упражнения для детей, а также забавные стихотворения и загадки. Они не только развивают те или иные способности, но и могут полнее раскрыть таланты малыша и помочь родителям и педагогам понять и обратить внимание на то, что больше интересует их ребёнка. Скажем, если ему интересны упражнения, требующие что-то нарисовать, то в дальнейшем родители могут задуматься о том, не отдать ли ребёнка в художественную школу. Если же у малыша хорошо развито воображение, он любит что-то рассказывать, объяснять и показывать, это может говорить о предрасположенности к творческой профессии. В книге также есть полезные рекомендации для педагогов и родителей. Они помогут превратить занятия с ребёнком в увлекательную игру.

# Сведения о субъектах хозяйствования, имеющих специальное разрешение (лицензию) на осуществление издательской деятельности, по состоянию на 15 декабря 2011 года

* 1—официальная литература, 2—научная, 3—научно-популярная, 4—производственно-практическая, 6—учебная, 7—массово-политическая, 8—справочная, 9—для досуга, 10—литературно-художественная, 12—духовно-просветительная.

| Наименование лицензиата | Местонахождение лицензиата (юридический адрес) | Учетный номер плательщика (УНП) | Сведения о лицензии (№ бланка лицензии, дата и № приказа о выдаче) | Срок действия лицензии | Составляющие издательской деятельности: по тематическим направлениям |
|---|---|---|---|---|---|
| ООО «МЕТ» | 220029, г. Минск, ул. Киселева, 20, 1-й этаж | 100052024 | 02330/0494383, выд. 01.04.2004 № 77, прод. 16.03.2009 № 31 | 01.04.2014 | научно-популярное, литературно-художественное, справочное, издание для досуга |
| ОДО «Сувиг» | 220141, г. Минск, ул. Ф.Скорины, д. 40, к. 204 | 100286996 | 02330/0494322, выд. 01.04.2004 № 77, прод. 16.03.2009 № 31 | 01.04.2014 | производственно-практическое, справочное, издание для досуга |
| Академия управления при Президенте Республики Беларусь | 220007, г. Минск, ул. Московская, 17 | 100035734 | 02330/0494319, выд. 01.04.2004 № 77, прод. 04.03.2009 № 3.3 | 01.04.2014 | научное, производственно-практическое, учебное, справочное |
| Национальный центр правовой информации Республики Беларусь | 220050, г. Минск, ул. Берсона, 1а | 101331903 | 02330/0494332, выд. 01.04.2004. № 77, прод. 16.03.2009 № 31 | 01.04.2014 | официальное, научное, справочное |
| ООО «Сказ» | 220082, г. Минск, ул. Притыцкого, д. 34, к. 4 | 100127863 | 02330/0494386, выд. 01.04.2004. № 77, прод. 16.03.2009 № 31 | 01.04.2014 | научно-популярное, литературно-художественное, издание для досуга |
| РУП «МИНСКАЯ ПЕЧАТНАЯ ФАБРИКА» Департамента государственных знаков Министерства финансов Республики Беларусь | 220050, г. Минск, ул. Володарского, 3 | 100048217 | 02330/0494369, выд. 01.04.2004. № 77, прод. 16.03.2009 № 31 | 01.04.2014 | научно-популярное, производственно-практическое, справочное |
| ИООО «КАВАЛЕР ПАБЛИШЕРС» | 220035, г. Минск, пр. Победителей, 11, к.1223 | 101151776 | 02330/0494346, выд. 01.04.2004. № 77, прод. 16.03.2009 № 31 | 01.04.2014 | научное, научно-популярное, учебное, литературно-художественное, справочное, издание для досуга |
| ПРУП «Минсктиппроект» | 220123, г. Минск, ул. В. Хоружей, 13/61 | 100299864 | 02330/0549410, выд. 01.04.2004 № 77, прод. 08.04.2009 № 39 | 01.04.2014 | научное, научно-популярное, производственно-практическое, справочное, издание для досуга |
| ЗАО «БОНЕМ» | 220138, г. Минск, ул. Геологическая, 59/4, оф. 73 | 100759001 | 02330/0494309, выд. 01.04.2004 № 77, прод. 04.03.2009 № 3.3 | 01.04.2014 | научно-популярное, производственно-практическое, литературно-художественное, справочное, издание для досуга |
| РУП «Информационно-вычислительный центр Министерства финансов Республики Беларусь» | 220004, г. Минск, ул. Кальварийская, 17, к. 201а, 201б, 232, 342-244, 339в | 100049849 | 02330/0494336, выд. 01.04.2004 № 77, прод. 16.03.2009 № 31 | 01.04.2014 | официальное, научное, научно-популярное, производственно-практическое, учебное, справочное |
| ИЧУП «ЭКОНОМПРЕСС» | 220004, г. Минск, ул. К. Цеткин, 18, ком. 64 (нежилое помещение) | 100625074 | 02330/0003906, выд. 01.04.2004 № 77, прод. 16.03.2009, № 31 | 01.04.2014 | научное, научно-популярное, производственно-практическое, справочное |
| Белорусский национальный технический университет | 220013, г. Минск пр. Независимости, 65 | 100354447 | 02330/0494349, выд. 01.04.2004 № 77, прод. 16.03.2009, № 31 | 01.04.2014 | научное, научно-популярное, производственно-практическое, учебное, справочное |
| ИРЧУП «ИраСофтАнт» | 220073, г. Минск, ул. Скрыганова, 6-2201 | 190171492 | 02330/0552904, выд. 01.04.2004 № 77, прод. 16.03.2009, № 31 | 01.04.2014 | производственно-практическое, справочное, издание для досуга |
| ИЧУП «Звезды гор» | 220056, г. Минск, ул. Садовая, 9 к. 35 | 190403580 | 02330/0494364, выд. 01.04.2004 № 77, прод. 16.03.2009 № 31 | 01.04.2014 | научно-популярное, литературно-художественное, справочное, издание для досуга |
| ИЧУП «Вассамедиа» фирмы «Копирайт Интернейшенел Эгенси-Корина ГмбХ» | 220089, г. Минск, ул. Железнодорожная, 27А, к.15 | 800003000 | 02330/0494370, выд. 01.04.2004 № 77, прод. 16.03.2009 № 31 | 01.04.2014 | научно-популярное, учебное, справочное, производственно-практическое |
| ИРУП «Народная асвета» | 220004, г. Минск, пр. Победителей 11, ком. 1003 | 100079512 | 02330/0494083, выд. 01.04.2004 № 77, прод. 03.02.2009 № 12 | 01.04.2014 | официальное, научное, научно-популярное, производственно-практическое, учебное, массово-политическое, литературно-художественное, справочное, издание для досуга |
| ПУП «Бумажная фабрика» Департамента государственных знаков Министерства финансов Республики Беларусь | 222120, г. Борисов Минской области, ул. Заводская, 55 | 600017868 | 02330/0494351 выд. 01.04.2004 № 77, прод. 16.03.2009 № 31 | 01.04.2014 | справочное |
| ЗАО «Центр охраны труда и промышленной безопасности» | 220005, г. Минск, пр. Независимости, д.58, корп. 9, к. 5 | 100947049 | 02330/0003875 выд. 10.02.2006 № 21, прод. 18.02.2011 №28 | 09.02.2016 | научно-популярное, производственно-практическое, учебное, справочное, издание для досуга |
| УО «Белорусский государственный медицинский университет» | 220116, г.Минск, пр. Дзержинского, 83, корп. 1 | 100582412 | 0494330, выд. 01.04.2004 № 77, прод. 16.03.2009 № 31 | 01.04.2014 | научное, научно-популярное, учебное, справочное |
| ООО «СЭР-ВИТ» | 220015, г. Минск, ул. Гурского, д. 30, комн. 31,34 | 100345893 | 02330/0494356, выд. 01.04.2004 № 77, прод. 16.03.2009 № 31 | 01.04.2014 | научно-популярное, учебное, литературно-художественное, справочное, издание для досуга |
| УО «Белорусский государственный университет информатики и радиоэлектроники» | 220027, г. Минск, ул. П. Бровки, 6 | 100363945 | 02330/0494371 выд. 01.04.2004 № 77, прод. 16.03.2009 № 31 | 01.04.2014 | научное, учебное, справочное |
| ООО «ПАРАДОКС» | 220050, г. Минск, ул. К. Маркса, д. 21, кв. 25, комн. 1 | 100607882 | 02330/0494357, выд. 01.04.2004 № 77, прод. 16.03.2009 № 31 | 01.04.2014 | научное, научно-популярное, производственно-практическое, учебное, литературно-художественное, справочное, издание для досуга |
| ОАО «Полиграфкомбинат им. Я. Коласа» | 220600, г. Минск, ул. Красная, 23 | 100299680 | 02330/0494354 выд. 01.04.2004 № 77, прод. 16.03.2009 № 31 | 01.04.2014 | научно-популярное, производственно-практическое, литературно-художественное, справочное, издание для досуга |
| ООО «Тесей» | 220002, Минск, ул. В. Хоружей, 31А, ком. 511 | 101244766 | 02330/0494359, выд. 01.04.2004 № 77, прод. 16.03.2009 № 31 | 01.04.2014 | научное, научно-популярное, производственно-практическое, учебное, справочное, издание для досуга |
| НП ООО «Стринко» | 220005, г. Минск, ул. Платонова, 22, к. 705 | 100206034 | 02330/0494382, выд. 01.04.2004 № 77, прод. 16.03.2009 № 31 | 01.04.2014 | научное, производственно-практическое, справочное |
| РУП «Издательский центр Белорусского государственного университета» | 220030, г. Минск, ул. Красноармейская, 6, 3 этаж, ком. 4 | 190260221 | 02330/0494361 выд. 01.04.2004 № 77, прод. 16.03.2009 № 31 | 01.04.2014 | научное, научно-популярное, производственно-практическое, учебное, литературно-художественное, справочное, издание для досуга |
| РУП «Белорусское телеграфное агентство» | 220030, г. Минск, ул. Кирова, 26 | 100088880 | 02330/0150149, выд. 05.12.2007 № 185 | 05.12.2012 | официальное, научное, научно-популярное, производственно-практическое, учебное, массово-политическое, литературно-художественное, справочное |
| УО «Витебский государственный университет имени П. М. Машерова» | 210038, г. Витебск, Московский пр., 33 | 300048858 | 02330/0494385, выд. 01.04.2004 № 77, прод. 16.03.2009 № 31 | 01.04.2014 | научное, научно-популярное, учебное, справочное, издание для досуга |
| ПТЧУП «Алкиона» | 220029, г. Минск, ул. Киселева, д. 3, кв.37 | 100307725 | 02330/0494479, выд. 01.04.2004 № 77, прод. 08.04.2009 №39 | 01.04.2014 | научно-популярное, справочное, издание для досуга |
| ПУП «Издательство «ПРО ХРИСТО» Минско-Могилевской Архиепархии Римско-Католической церкви | 220000, г. Минск, пл. Свободы, 9, ком. 2 | 190080357 | 02330/0494355, выд. 01.04.2004 № 77, прод. 16.03.2009 № 31 | 01.04.2014 | научное, научно-популярное, учебное, литературно-художественное, справочное, духовно-просветительное, издание для досуга |
| РУП «Издательство «Белорусский Дом печати» | 220013, г. Минск, пр. Независимости, 79 | 100356240 | 02330/0494352, выд. 01.04.2004 № 77, прод. 16.03.2009 № 31 | 01.04.2014 | официальное, научное, научно-популярное, производственно-практическое, учебное, массово-политическое, литературно-художественное, справочное, духовно-просветительное, издание для досуга |
| ПИРУП «Дом прессы» | 220013, г. Минск, ул. Богдана Хмельницкого, 10 "А", ком. 4, 9 | 101121209 | 02330/0552678, выд. 01.04.2004 № 77, прод. 16.03.2009 № 31 | 31.03.2014 | научно-популярное, производственно-практическое, массово-политическое, литературно-художественное, справочное, духовно-просветительное, издание для досуга, учебное |
| УО «Белорусский государственный педагогический университет имени Максима Танка» | 220050, г. Минск, ул. Советская, 18 | 100302394 | 02330/0494368, выд. 01.04.2004 № 77, прод. 16.03.2009 № 31 | 01.04.2014 | научное, научно-популярное, учебное, справочное |
| УО «Витебский государственный технологический университет» | 210035, г. Витебск, Московский пр., 72 | 300031282 | 02330/0494384, выд. 1.04.2004 № 77, прод. 16.03.2009 № 31 | 01.04.2014 | научное, научно-популярное, производственно-практическое, учебное, справочное |
| ГУО «Гомельский областной институт развития образования» | 246032, г. Гомель, ул. Юбилейная, 7 | 400469580 | 02330/0494360, выд. 01.04.2004 №77, прод. 16.03.2009 № 31 | 01.04.2014 | научное, производственно-практическое |
| ГНУ «Институт механики металлополимерных систем им. В. А. Белого Национальной академии наук Беларуси» | 246050, г. Гомель, ул. Кирова, 32а | 400084698 | 02330/0494358, выд. 1.04.2004 № 77, прод. 16.03.2009 № 31 | 01.04.2014 | научное, производственно-практическое, справочное |

З пошты «ЛіМа»

Ірына ШАТЫРОНАК,
г. Гродна

# Літаратура мясцовага разліву

Рэгіянальная літаратура — гэта добра ці дрэнна? Калі разглядаць краязнаўчы аспект, то чаму б і не, гэтая ніша была і застанецца за мясцовымі гісторыкамі і краязнаўцамі.

Але вызначэнне *рэгіянальная літаратура* вельмі зручнае, ім крывадушна можна прыкрыць мясцовыя "высокія тварэнні". Нічога, што не падыходзіць для сталіц, мы не ганарлівыя, перажывём, для нашых мядзведжых кутоў і так сыдзе.

Мастацкая славеснасць не можа быць выключна гарадзенскай або смаленскай, яна ёсць або яе няма. Гэта так відавочна, здавалася б, што тут даказваць. А вось даводзіцца заяўляць гучна, каб пачулі абаронцы местачковай літаратуры — няма местачковай мастацкай літаратуры. Няма і ніколі не было. Але ці пачуюць?..

Вось дылема, калі ты ўвайшоў у грамадскую пісьменніцкую арганізацыю, то ты пісьменнік ці не? А калі ты не ўваходзіш у грамадскую пісьменніцкую арганізацыю, але выдаў шмат кніг, тады хто ты па вызначэнні?

Пісьменнікі мясцовай гадоўлі выдаюць за ўласныя грошы зборнікі вершаў, самі сабе іх чытаюць, дораць, спрабуючы абагнаць адно аднаго па колькасці кніг, што выходзяць мізэрнымі накладамі. Як быццам хтосьці давёў ім нейкі вытворчы план. Толькі рапартуюць не пра засеяныя гектары і ўзараныя палеткі, а пра выдадзеныя ў прыватнай мясцовай друкарні кнігі. А тая друкуе ўсё, што прынясе заказчык.

Няспрактыкаванаму чалавеку можа здацца, што ў правінцыяльных аўтараў ёсць усё: мясцовая слава, поспех на сустрэчах у школах і дзіцячых садках, на разнастайных культурных раённых мерапрыемствах, рэдкія інтэрв'ю ў газетах. Здавалася б, ёсць усё. Ах, гэта здавалася! Вось толькі выдадзеныя кнігі самотна пыляцца тонкім стосікам на паліцах у крамах, іх ніхто не купляе, але гэта такая дробязь у параўнанні з прозвішчам паэта або пісьменніка, надрукаваным на вокладцы. Кнігі сапраўдныя, але ёсць у іх нейкая загана, несапраўднасць. Няма галоўнага, з-за чаго і каго прыходзіць у наш свет таленавіты пісьменнік — ВЯЛІКАГА ЧЫТАЧА. Рэгіянальныя аўтары жывуць у герметычна законсерваваных супольнасцях і занятыя суцэльнымі маналогамі, якія чуюць іх жа калегі па пяры, але ніяк не вялікі чытач.

Праўда, рэгіянальшчыкі ўсюды скардзяцца на мясцовы кнігагандаль, які не хоча дапамагаць прадаваць кнігі. Не хоча, і ўсё! Незразумела, якім чынам чыста камерцыйныя прадпрыемствы будзе дапамагаць бедным мясцовым аўтарам паляпшаць іх грашовы стан.

Што адрознівае сапраўднага пісьменніка ад местачковага? У гэтага пісьменніка — сапраўдныя кнігі, яны запатрабаваныя чытачом, часам, жыццём, іх ніхто не можа навязаць або прымусіць купіць. Сапраўдныя кнігі амаль заўсёды самі знаходзяць свайго чытача. А местачковыя аўтары шукаюць заступнікаў у асобе начальнікаў ад аддзелаў культуры, чыноўнікаў, дырэктараў бібліятэк і гэтак далей. На іх думку, толькі адміністрацыйным метадам павінна і абавязкова прымусіць купляць іх сумніўную літаратуру, часта нікому не патрэбную, акрамя саміх творцаў, свядомай макулатуры.

І якая розніца чытачу, дзе, у якіх межах напісаны вельмі добры раман таго ці іншага таленавітага аўтара. Ён, чытач, будзе аднолькава радавацца або пакутаваць разам з героямі твора, наладжваючы сваю душу, сэрца, розум на адну хвалю з пісьменнікам. Будзе цікавіцца творчасцю гэтага пісьменніка, купляць яго кнігі, дзяліцца сваімі ўражаннямі ад прачытанага. Сілу *сарафаннага народнага радыё* ў часы піяр-тэхналогій яшчэ ніхто не адмяняў.

Далей. У кніжнай прадукцыі мясцовых аўтараў назіраецца яшчэ адна асаблівасць: творчае слова адрозніваецца або нейкай герметычнасцю, або асаблівая патрыятычнай, ідэалагічнай афарбоўкай на ўсе мясцовыя мерапрыемствы і святочныя даты. Тут угадвацца кан'юнктуршчына аўтараў. Усё-такі паэтычнае слова павінна служыць чалавецтву, а не толькі моцным гэтага свету. Інакш можа атрымацца адзінокі халасты стрэл.

Якасць паліграфіі. Амаль заўсёды кнігі мясцовых аўтараў саступаюць па якасці паліграфічнага афармлення. Аднойчы давялося пачуць ад дырэктара выдавецтва словы, якія мне запомніліся. Праца над рукапісам маёй кнігі была амаль скончана, я стала прыспешваць дырэктара, згаджаючыся і робячы выгляд, што не заўважыла некаторых дробязей у рэдактарскай працы і афармленні вокладкі, — не хацелася абвастраць адносіны. У інтарэсах пісьменніка — вадзіць сяброўства з прадстаўнікамі выдавецкага свету.

— Мы працуем не для тысячы чытачоў, хоць гэта і гучыць крыху дзіўна, а, можа, для некалькіхспецыялістаў-прафесіяналаў, якія абавязкова заўважаць усе нашы агрэхі, памылкі. Мне важней меркаванне прафесіянала, — падкрэсліў дырэктар.

У такой, здавалася б, бязлітаснай да сябе патрабавальнасці схаваны ўсё той жа прафесіяналізм: рэпутацыя вышэй за ўсё.

Хто-ніхто прыходзіць на выдавецкі рынак сарваць першы куш, а пасля хоць трава не расці! Некалькі гадоў таму ў Гродне аб'явіўся адзін такі, не буду называць прозвішча, і стаў нахвальваць сябе: і танней у яго, і лепш, і любая кніга, ад зборніка вершаў да прозы, выйдзе аператыўна і без праблем. Многія мясцовыя аўтары панеслі ў новае выдавецтва рукапісы... і грошы. Ну і напакутаваліся потым, калі сталі тэлефанаваць, адшукваць гора-прадпрымальніка… Ён парушыў усе тэрміны, дамоўленасці, але галоўнае — якасць кніжнай прадукцыі была на самым прымітыўным узроўні. Як потым аказалася, бізнесмен адкрыў лавачку на пустым месцы, нешта накшталт купі-прадай, прадавец паветра і дробны пасярэднік, без уласнай базы, вопыту, прафесійнага штата супрацоўнікаў. Ен умеў толькі ліха браць грошы ў заказчыкаў і прыладжваць рукапісы па горадзе да іншых паліграфістаў. Праз год кнігі ў яго ўсё-ткі са скандаламі і пагрозамі аўтары вырвалі, але якія гэта былі жудасныя кнігі! *Бэндэр* ад выдавецтва паняцця не меў пра мастацтва афармлення кнігі, і яму было ўсё роўна, якую прадукцыю ён аддасць заказчыку. Галоўнае для яго на той момант было сарваць хуткія грошы. Не ведаю, чым сёння займаецца сучасны Астап, напэўна, зноў адкрыў чарговую кантору "Рогі і капыты".

Мне, напрыклад, па вялікім рахунку, усё роўна, на якой паперы надрукаваная кніга: на газетнай, афсетнай або мелаванай. Вядома, калі гэта прэстыжнае альбомнае выданне, у яго і роля іншая. Але высокамастацкі твор таленавітага аўтара я буду чытаць і перачытваць, нават калі кніга будзе зачытаная да дзір і рассыпацца ў руках. Падклею, падшыю, перапляту. Нават без вокладкі, акуратна абгарну і абавязкова падзялюся з блізкімі людзьмі. Хай добрая кніга ідзе ў людзі.

Мясцовыя аўтары, як правіла, выдаюцца за свой кошт. Добра гэта ці дрэнна? Трэба разабрацца, нельга валіць усё ў адзін кошык. Сёння такая складаная сітуацыя ў кнігавыданні, і прабіцца са сваёй кнігай да шырокага чытача можа вельмі малы працэнт таленавітых пісьменнікаў. Не хочаш чакаць у шматгадовай чарзе ў дзяржвыдавецтве — калі ласка, выдавай кнігу на ўласныя грошы. Але ёсць адно *але*. На кнігах, якія ўбачылі свет не ў традыцыйным кніжным выдавецтве, ляжыць нейкі налёт фальшывасці, як бы другога гатунку. І як бы потым аўтар ні апраўдваўся, кніга салідная выдавецтва ўсё роўна будзе выйграваць у параўнанні з амаль самвыдатаўскай. Розныя ўзроўні. Усё-такі ў кніжным выдавецтве працуюць аддзелы маркетынгу, рэкламы, планавання выдавецкай дзейнасці. Дух рынку, попыту і канкурэнцыі дыктуе свае суровыя законы. Выдавай тое, што прадасі.

Рэгіянальныя аўтары пераважна паэты, а паэзія сёння не прадаецца. Вось і атрымліваецца, што паэты самаарганізоўваюцца выключна паміж сабой, у літаб'яднаннях і студыях, з-за адсутнасці ўдзячнай аўдыторыі, дзеляцца ўласнай творчасцю ў сваім асяроддзі, хоць ёсць і прыемныя выключэнні. Усё-такі трэба прызнаць аб'ектыўную рэальнасць: сёння вельмі шмат згублена, распаліся ранейшыя сувязі, знікла сама паэтычная атмасфера, яе выбранасць і прэстыж.

Мастацкая літаратура наогул стаіць на трагічным скрыжаванні, мы можам стаць сведкамі гэтага працэсу. Што чакае нас: канчатковая дэградацыя, падзенне або выратавальны рэнесанс?

Невынішчальная графаманія. Яна нічым не грэбуе, спрытна падбірае з багатага стала аб'едкі, дапіваючы рэшткі чароўнага нектару.

Мне здаецца, што ў сталіцы так не квітнее пышным чартапалохам графаманства, як у нас на месцах. Усё ж такі высокі ўзровень мастацкай літаратуры канчаткова яшчэ не вывеўся ў сталічных часопісах і выдавецтвах, і канцэнтрацыя майстроў высокага слова ўсё ж вышэй, чым у рэгіёнах. Але здзіўляе паўсюднае несупраціўленне націску несапраўднай літаратуры і рыфмаплёцтва. Назіраецца паражэнства і стомленасць у парадзеслых шэрагах годных літаратараў, па сутнасці сваёй сціплых і не ваяўнічых.

Адно абнадзейвае: кваліфікаваная чытацкая меншасць ніколі не стане закладнікам графаманскіх тэкстаў, ёй будзе досыць прабегчы вачыма на выбар адну-дзве старонкі, каб адразу адкінуць і бясталентнага псеўда-аўтара, і яго нікчэмны тэкст.

Самае галоўнае і лёсавызначальнае, што заўсёды адрознівала сапраўдную літаратуру мінулага, — за веліччу ранейшай літаратуры стаяла *неадмірнасць*. Неадмірнасць, якая лунае над рэчавым, матэрыяльным светам.

Пустая графаманія толькі на першы погляд здаецца дробяззю, на самай справе можа злосна пажартаваць з чытача, які прагне лёгкага, забаўляльнага чытання. Непрыкметна грамадскую свядомасць перафарматуе, адбудзецца канчатковая падмена каштоўнасцей, і новы чалавек будзе падрыхтаваны да асабістай сустрэчы з князем свету гэтага як да доўгачаканай сустрэчы з месіяй. Ніхто і не заўважыць зламеснай пячаткі на лбе, агіднага хваста і касматага капытка.

...Адна надзея на Літаратуру з вялікай літары, якая насычае духоўную прыроду чалавека маральнай стойкасцю, вечнай любоўю і верай ва ўсё чалавечае.

І ўсё роўна, дзе ствараюцца таленавітыя кнігі: у ціхіх правінцыйных гарадках або сталіцах. Хай пісьменнікі ткуць нябачнымі залатымі ніцямі свае палотны, насычаныя шчырымі пачуццямі, прыгажосцю мастацкага слова, глыбінёй думкі.

Надзея ПАРЧУК,
г. Брэст

# Творчая зорка паэта

Літаратурная творчасць, як і ўсё жывое на зямлі, знаходзіцца ў бесперапынным дынамічным руху. Таму і запальваюцца на літаратурнай арбіце ўсё новыя і новыя зоркі, з'яўляюцца ўсё новыя творчыя асобы. А гэта заўсёды прыемна і радасна.

Творчая зорка Івана Дацкевіча загарэлася ў ягоным далёкім юнацтве. Але так ужо склалася жыццё, што першы зборнік вершаў Іван Трафімавіч выдаў у кастрычніку бягучага года. І называецца ён "Принимаю жизнь, как чудо". Не прайшло і месяца, як тое ж самае выдавецтва "Альтэрнатыва" выпускае ў свет другі аўтарскі зборнік паэзіі — "Возвращение".

Па адной ужо назве можна здагадацца, пра што гэтая кніга. У жыцці І. Дацкевіча былі і растанне на доўгі час з родным краем (пасля заканчэння Жабінкаўскай сямігодкі будучы паэт быў вывезены разам са шматлікімі падлеткамі на Урал), і розныя бясконцыя нягоды на чужыне, і настальгія па мілых сэрцу мясцінах, і спадзяванне ўбачыць іх зноў, і вера ў сябе, свае сілы, і, нарэшце, як узнагарода за ўсе выпрабаванні — вяртанне.

У ранняй творчасці паэта пераважала пачуццё суму, маркоты і адзіноты. У вершы "Письмо к сестре" аўтар у парыве адчаю прызнаецца: "Мне ещё хоть бы раз наглядеться // На полесские наши края!.."

Вярнуўшыся на радзіму, паэт-рамантык набывае новыя крылы за спінай. Цяпер яго душа натхнёна пяе, зачараваная непаўторнай прыгажосцю роднага краю. Лірычны герой зборніка, наталяючыся гаючым, салодкім паветрам радзімы, запэўнівае сябе:

*Плакать я нынче не стану —*
*Годы скитаний прошли.*
*Вылечит старые раны*
*Воздух родимой земли.*

Але гады, праведзеныя на чужыне, не прайшлі для яго бясследна. Яны пакінулі глыбокі адбітак у сэрцы паэта. Эпізоды з тагачаснага жыцця спачатку ажываюць у памяці, а потым кладуцца ў паэтычную страфу.

Са шчымлівай спавядальных твораў аўтара мы не толькі даведваемся пра яго біяграфію, але і адзначаем багацце ягонага ўнутранага свету. Шматлікія творы І. Дацкевіча прысвечаны маці, сябрам, жыццёвым каштоўнасцям, вечнасці і мудрасці прыроды, яе законаў. І пра што б ні пісаў паэт, кожны яго радок напоўнены святлом дабрыні і вялікай любові да жыцця.

Мастак і кніга

# Дзевяць дзясятых айсберга

**Тамару Мельянец з цеплынёй і ўдзячнасцю ўзгадваюць многія мастакі, якім давялося з ёю працаваць. Шмат гадоў яна была мастацкім рэдактарам выдавецтва "Беларусь" у рэдакцыі выяўленчага мастацтва.**

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

Тамара Аляксандраўна расказвае пра свае абавязкі ў дакамп'ютарную пару кнігавыдання: "Мастацкі рэдактар — гэта функцыя, набор патрэбных прафесіянальных дзеянняў, каб падрыхтаваць кнігу да друку. Мастак робіць толькі малюнкі, вокладку ці макет. Кніга як айсберг — адну дзясятую частку бачыць чытач, калі трымае ў руках выданне, а дзевяць дзясятых "нябачных" — гэта праца мастацкага рэдактара, якую трэба зрабіць, каб атрымалася КНІГА. Мастацкі рэдактар аб'ядноўвае, каардынуе і суадносіць працу аўтара, мастака, фатографа і розныя друкарскія працэсы. Напрыклад, робім альбом, прысвечаны жыццю і творчасці якога-небудзь мастака. Адразу вызначаецца фармат і параметры паліграфічнага выканання. Аўтар тэксту складае спіс патрэбных ілюстрацый. Гэты спіс трэба давесці да фоталабараторыі, там выканаюць здымкі і зробяць "кантролькі". У гэты час рэдактар працуе над тэкстам. Дамаўляюся з мастаком, які рыхтуе макет і афармленне. Калі мастак выканаў сваю працу, у адпаведнасці з макетам трэба адкадрыраваць слайды, разам з тэхрэдам размесціць тэкст — якія шрыфты і кеглі. На кожны слайд або фота паставіць штампы, каб друкарня не пераблытала нашы арыгіналы з іншымі. Атрымаць пробы са слайдаў, праверыць якасць. У гэты час гранкі прыходзяць з набору — трэба рабіць макет на вёрстку. Расклеіць па радочку, па малюначку... Потым яшчэ трэба рабіць макет да друку… Шмат тэхнічнай, руціннай, часам проста нуднай працы. Але толькі дзякуючы такім высілкам кніга ці альбом маглі, як кажуць, "адбыцца". І таму, калі атрымліваеш з друкарні сігнальны асобнік у тым выглядзе, як задумаў мастак, адчуваеш задавальненне ад таго, што час і зробленая праца далі выдатны вынік, і ўжо не шкада таго часу".

Жаданнем быць мастаком абавязана тату. Ён, 1924 года нараджэння, у маладосці не змог паступіць вучыцца на мастака, потым пачалася вайна. У 1947 годзе ажаніўся — зноў жа не да вучобы, і адукацыю давялося атрымліваць завочна. Так што тата паступіў у паліграфічны ў 43 гады. Звычайна ў такім узросце падводзяць нейкія вынікі, а тут, лічыце, жыццё атрымала новы напрамак.

У той час прастору Савецкага Саюза дзялілі дзве паліграфічныя ВНУ — у Маскве і Львове. Хто смялейшы — ехаў у Маскву, а я палічыла, што не вельмі добра падрыхтаваная. Займалася ў студыі Палаца піянераў літаральна некалькі месяцаў да паступлення. Канечне, гэтага было недастаткова — і я, цалкам заканамерна, "правалілася". Тата настаяў, каб я не ішла працаваць, а толькі займалася ў студыі. Набытага на гэтых занятках пад кіраўніцтвам Валянціна Пятровіча Пакаташкіна, цудоўнага мастака і вельмі добразычлівага чалавека, было ўжо дастаткова, і на наступны год пачалося студэнцкае жыццё. Львоў зрабіў на мяне вялікае ўражанне: цудоўная старая архітэктура, оперны тэатр, выдатная карцінная галерэя, гістарычны музей, музей украінскага народнага мастацтва, заўсёды розныя выстаўкі, вялікі і моцны інстытут дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва (ткацтва, кераміка, шкло).

Паколькі ў Гомелі выдавецтва не было, я сабрала свае студэнцкія работы і паехала ў Мінск. За колькі месяцаў да таго выдавецтва "Мастацкая літаратура" выдзелілася з "Беларусі". Вірынея Пятроўна Жыжэнка стала галоўным мастаком, першы год працавалі маскоўскія выпускнікі Мікалай Казлоў, Уладзімір Доўгань. Віктар Кліменка перайшоў з "Народнай асветы". Мяне ўзялі на пераддыпломную практыку, нават дамовіліся наконт дыпломнай працы. Хацела зрабіць дзіцячую кніжку, але ў інстытуце сказалі: "Так, ты з Беларусі партызанскай, бяры ваенную тэму". Вірынея Пятроўна падказала: "Вазьмі тэмплан, паглядзі, што там на наступны год. Практычна ўсё гэта друкавалася ці ў "Нёмане", ці ў "Полымі", так што можна прачытаць". Я выбрала твор Уладзіміра Карпава "Прызнанне ў нянавісці і любові". І зрабіла дыпломную работу, якая, дарэчы, засталася ў інстытуце, я нават не мела магчымасці паказаць яе ў выдавецтве. Але нягледзячы на тое, на наступны год, калі я ўжо жыла і працавала ў Мінску, выдавецтва зрабіла мне заказ на афармленне гэтай кнігі, і яна была надрукавана, хоць і адрознівалася ад дыпломнай.

> ***Візітка:***
> *Тамара Мельянец нарадзілася ў Мазыры ў 1951 годзе. Скончыла Украінскі паліграфічны інстытут імя Івана Фёдарава ў 1974 годзе. Выданні, над якімі працавала як мастак і мастацкі рэдактар, пастаянна адзначаліся ўзнагародамі Нацыянальнага конкурсу "Мастацтва кнігі".*
> *Яе кнігі, без перабольшвання, ведае кожны чытач Беларусі. Мастачка аздобіла выданні: Яўгенія Янішчыц "Дзень вечаровы" (1974); Віктар Хліманаў "За сямю лясамі" (1976); Антон Бялевіч "Малюнкі маленства" (1977); Мечыслаў Шаховіч "Сунічная палянка" (1981); Донча Цончаў "Маленькі вадалаз" (1982); Данута Бічэль-Загнетава "Лузанцы" (1982); Мікола Янчанка "Залаты вулей" (1986); "Беларусь партызанская" (1990); Алег Мінкін "За месяцам месяц" (1994); "Веткаўскі музей народнай творчасці" (1999); Чырвоная кніга Рэспублікі Беларусь (2004); "Кніга пра расліны" (2004); "Мінск за адзін дзень" (2003); В. Лиходедов "Синагоги" (2007); "Нечаканая Беларусь" (2008); "Сэрца Беларусі — Міншчына" (2008); "Нясвіж. …мой маленькі Парыж" (2009) і іншыя.*

Пасля размеркавання я атрымала пасаду мастацкага рэдактара ў выдавецтве "Беларусь" і займацца творчасцю магла толькі вечарамі і ў выхадныя. У той час мастакі былі запатрабаваныя і працы было шмат. Мяне, маладога мастака, разам з Вірынеяй Пятроўнай падтрымалі і Віктар Кліменка — замовіў аздобіць апавяданні пра прыроду Віктара Хліманава, і Мікалай Казлоў — першую кнігу Яўгеніі Янішчыц, якую я зрабіла яшчэ падчас пераддыпломнай практыкі.

У 1985 годзе я звольнілася з выдавецтва, каб папрацаваць "вольным мастаком". Гэта быў шчаслівы час. Я магла ўзяць кніжку большага аб'ёму, з каляровымі ілюстрацыямі або заказ на макет і афармленне альбома і працаваць больш павольна і ўдумліва. Гэта доўжылася амаль сем год, але ў 1991—1992 стала вельмі сумна — два-тры месяцы робіш кніжку, потым столькі ж чакаеш, пакуль атрымаеш за яе грошы, якія за гэты час абясцэньваліся настолькі, што на іх можна было пражыць у лепшым выпадку месяц-другі. І калі ў 1992 годзе людзі, якія добра ведалі мяне як прафесійнага мастацкага рэдактара, прапанавалі працу ў выдавецтве "Беларусь", я згадзілася.

Калі ў выдавецтве з'явіліся камп'ютары, адкрыліся новыя магчымасці, і каб навучыцца карыстацца імі, пайшла на курсы пры політэхнічнай акадэміі. У 1999 годзе Ігар Бышнёў (нядаўна пабачыў свет яго альбом, да якога я мела адносіны як мастак і мастацкі рэдактар) пазнаёміў мяне з Сяргеем Плыткевічам, галоўным рэдактарам газеты "Туризм и отдых". Той прапанаваў мне яшчэ адзін праект, але альбом "Мая Беларусь" убачыў свет толькі праз год... Тады я спытала ў Плыткевіча: "Чаму б вам самому не заснаваць выдавецтва?" Літаральна праз два дні ён пытаецца: "А ці не маглі б вы здаць на ліцэнзію?" Чаму ж не: калі я не здам, хто тады яе варты?! У мяне вопыт працы і адукацыя. На маім рахунку ўжо быў альбом "Веткаўскі музей", прызнаны лепшай кнігай



года. На конкурсе "Мастацтва кнігі" ў той год я атрымала чатыры дыпломы: тры — за прадукцыю свайго выдавецтва, адну кнігу рабіла для гомельскага выдавецтва "Сож".

Неўзабаве я стала першым мастаком "Рыфтура". Тут была магчымасць праявіць сябе ўжо ў ролі мастака-дызайнера, а не мастацкага рэдактара.

Добры дызайн кнігі робіць мастак-прафесіянал, для яго камп'ютар — толькі сродак. Так, у гэтай тэхніцы велізарныя магчымасці, і за апошнія 10 — 15 гадоў выдавецкая практыка пры падрыхтоўцы кніг да друку кардынальна змянілася. А ў той час было вельмі распаўсюджана меркаванне, што кожны, хто валодае камп'ютарам, можа вельмі хутка зрабіць добры дызайн. Але ж гэта памылковае меркаванне. Каб зрабіць добрую кнігу, трэба мець зусім іншыя веды, а каб зрабіць яе якаснай, патрэбны нямалы час.

На жаль, сёння нідзе не вучаць кніжнай культуры. Неяк запрасілі выкладаць выдавецкую справу ў Інстытут сучасных ведаў імя Шырокава. Прыйшла, а мае студэнты кажуць: "Нам гэта не патрэбна, мы будзем журналістамі. Можна, мы не будзем хадзіць на заняткі?"

Лічу, што кніга не страціла і не страціць актуальнасці, захоўваючы пры гэтым сваю форму, таму што ў яе двайстая спецыфіка: з аднаго боку, кніга — вельмі зручны па форме для карыстання носьбіт інфармацыі, сучасны камп'ютар не заўсёды такое дазваляе, а з другога — цікавая рэч, якая можа быць вельмі прыгожай. Колькі часу вы змарнуеце, каб выйсці на патрэбную старонку электроннай кнігі! І як хутка вы гэта зробіце, калі пакладзяце ў звычайную кнігу закладку!"



***На здымках:** ілюстрацыі да кніг Я. Брыля "Ліпа і клёнік"; І. Такмаковай "Шчаслiва, Івушкін!"*

На паліцы




# Такса, каратэ і Мядзведзік

Марына ВЕСЯЛУХА

**Ці былі ў вас у дзяцінстве любімыя цацкі? Не, не тыя, з якімі часцей за ўсё гулялі, а тыя, якія вы лічылі сапраўднымі сябрамі: абдымалі іх перад сном, распавядалі пра ўсе падзеі мінулага дня. У мяне такіх не было. Але ў маёй малодшай сястры на ложку ў бацькоўскім доме дагэтуль сядзіць ружовы заяц. Ён страціў вока ў адной з боек, яму шмат разоў прышывалі вушы і зашывалі лапы, яго мылі ў пральнай машыне, а потым доўга сушылі… Але заяц "жывы" і цяпер. І стаўленне да яго — адпаведнае. Паважлівае. Скінуць рыжага цацачнага ката Арцюха на падлогу — калі ласка, зайца — ніколі.**

Думаю, што калі Малы, герой дзіцячых кніг шведскіх пісьменнікаў Юі і Томаса Вісландэраў, вырасце, да яго Мядзведзіка ў сям'і будзе такое ж стаўленне. Таму што Мядзведзік — лепшы сябар Малога. Не, не таму, што хлопчык вельмі адзінокі. У яго клапатлівая мама, якая разумее ўсе яго гульні і шмат у чым дапамагае сыну; добры тата, заўсёды гатовы пагуляць у каратэ на ложку ці дастаць лыжы з гарышча, калі выпадзе першы снег; жвавая і вясёлая сяброўка Білан, яна смела рушыць ва ўсе прыгоды разам з хлопчыкам. Але Мядзведзік усё выслухае, зразумее, паўторыць за Малым і ў сваім цацачным свеце пражыве такі ж дзень, поўны прыгод і новых адкрыццяў.

Кніга **"Малы і Білан"**, што не так даўно пабачыла свет у РВУ "Літаратура і Мастацтва", стала працягам выдання "Малы і Мядзведзік". У другой частцы сябры Малы і Білан пасталелі, амаль навучыліся чытаць і лічыць, ды па-ранейшаму праводзяць разам ледзь не кожны дзень. Але іх забавы змяніліся. Яны шукаюць падарункі, кіруючыся спецыяльнымі цыдулкамі, падрыхтаванымі мамай і татам, гадуюць апалонікаў у вядры і акварыуме, робяць касмічныя караблі з канструктара, ходзяць у чарніцы з незвычайным вядром, якое не прызначана для збірання ягад, але створанае для таго, "каб бегаць" з гэтым вядром на галаве, знаходзяць таксу і вяртаюць гаспадарам, перадаюць прывітанні па тэлефоне, а таксама гуляюць побач з кар'ерам і нават паспяваюць заблукаць у лесе і напалохацца дома з чорнымі шторамі…

Пагадзіцеся, складана назваць жыццё малога і Білан сумным. Толькі і яны час ад часу сумуюць. Але, як і ўсе дзеці, робяць гэта крэатыўна. Білан паводзіць сябе, як кацяня. Яна лашчыцца да мамы і не хоча гуляць з Малым. Малы ж становіцца сабачкам, але не нападае на коціка-Білан, бо разумее, што ёй сумна. Але як бы сумна ці весела ні было дзецям, усе іх учынкі паўторыць Мядзведзік, аднак у скарочаным выглядзе. І потым яны будуць ляжаць у ложку побач і выглядаць аднолькава задаволенымі — і Малы, і Мядзведзік.

**Кнігі можна набыць:**

- у РВУ "Літаратура і Мастацтва" (вул. Захарава, 19);
- у краме №13 "Белсаюздруку" (падземны пераход станцыі метро "Плошча Перамогі");
- у краме "Кніжны салон" (вул. Калініна, 5);
- у крамах ААТ "Белкніга".



Валерый Гапееў

# Магазін згубленых рэчаў

## (амаль не было)

### Апавяданне

З працы зайшоў да сябра, паправіў яго сістэму ў камп'ютары, вяртаўся дамоў ускраінай горада. І пабачыў невялічкі магазінчык, заціснуты між двух прыватных дамоў. Шыльда здзівіла: "Магазін згубленых рэчаў". Адразу ўспомніў пра сваю любімую ручку. Чарнільную. Яна была цяжкая, металічная, але зручная. Пяро я апрацаваў "нулёўкай", яно хадзіла мякка нават па шэрай газетнай паперы. Той ручкай я пісаў познімі вечарамі на маленькай кухні, калі ўсе клаліся спаць… Даўно, тады Жэнька ўмела толькі хутка поўзаць на карачках. Ручка згубілася, калі мы яшчэ не пераязджалі са старой хаткі ў новую кватэру. Я вельмі шкадаваў згубу. Гэтулькі той ручкай было напісана — амаль усе апавяданні маёй першай кнігі. Быццам згубіў не проста ручку, а часцінку самога сябе, частку жыцця…

Заінтрыгаваны крыху, зайшоў у магазінчык. Відавочна, тут прадаюцца рэчы, якія згубіліся некалі і гаспадароў не знайшлося. Хто сюды тыя рэчы пастаўляе? Ну, вакзалы, мабыць, таксісты…

Мяне чакала расчараванне — ніводнай рэчы на паліцах не было! Ды і паліц не было — мноства невялікіх шуфлядак, бы бібліятэчны каталог.

— Вечар добры, што вы згубілі?

Перада мной быў хлопец гадоў 18. Ён прыўзняўся мне насустрач з-за невялікага стала, на якім уключаны ноўтбук свяціўся мяккім блакітным святлом манітора.

— О, многа чаго згубіў, — пажартаваў я.

— Што са згубленага хочаце купіць?

— А што ў вас ёсць? — трохі разгубіўся я.

— Многае ёсць. Дык што вас канкрэтна цікавіць? — настойваў на дакладным адказе хлопец.

— Ну… — працягнуў я, хоць у галаве выразна, выпукла маляваўся ад самага першага позірку на шыльду вобраз той ручкі і тых вечароў. — Ручка. Звычайная, чарнільная. Белая, металічная, з бледна-зялёнай пластыкавай устаўкай пад пальцы.

— Калі згубілі? — хутка спытаў хлопец, прысеў, а пальцы яго спрытна і мякка зашчоўкалі па клавіятуры ноўтбука.

— Ды дзесяць гадоў таму, мабыць. Тады Жэньцы быў толькі годзік, — палічыў я гады.

— Так, ячэйка 794, — прагаварыў хлопец, быццам пацвярджаў праўдзівасць маіх слоў.

Устаў з-за стала, падышоў да тых шуфлядак, упэўнена выцягнуў адну — і павярнуўся да мяне з маёй ручкай!

І я раптоўна зразумеў, як не хапае яе мне цяпер! Хоць і камп'ютар ёсць, і ноўтбук, але вось іменна яе не стае. Быццам у ручку разам з чарнілам набіралася ўнутр маё натхненне, там яно жыло, адтуль тонкімі лініямі літар клалася на паперу… Нечакана захацелася напісаць нешта, хоць роспіс паставіць, адчуць, як мякка і хутка слізгае пяро, падпарадкаванае не пальцамі нават — думкамі. Хлопец бы ўгадаў мой намер, моўчкі працягнуў невялікі лісток паперы.

Выразны, чорнага колеру (я купляў толькі такое чарніла), мой роспіс не на жарт узрушыў мяне.

— Колькі з мяне… за ручку? — раптоўна захваляваўся я.

Хлопец назваў суму — нешта каля кошту пачка цыгарэт.

Я расплаціўся, акуратна закрыў ручку і паклаў у кішэню пінжака — дзе насіў яе і раней. Згарнуў удвая і паклаў у кішэню аркуш паперы са сваім роспісам — не пакідаць жа яго тут.

Незразумелыя пачуцці тлумілі галаву. Усё сённяшняе, істотнае стала аддаляцца, губляць сваю выразнасць і значнасць, а мінулае праступала ўсё ярчэй, рабілася акрэсленым і набывала вагу. Мяне пацягнула ў наш колішні дом. Сёння ён стаіць пусты, мы скарыстоўваем яго як дачу. І хоць трэба было зрабіць вялікі крук, я павярнуў, не задумваючыся. Мяне ніколькі не здзівіла жаданне зайсці туды, наадварот, раптам стала зразумелым, што яно і жыло ўва мне ўвесь гэты дзень.

Звечарэла добра, вокны дамоў успыхвалі жоўтым святлом. Мільганула наперадзе з-за кустоў язміну, сэрца усхвалявана затахкала. Ну, так і ёсць — свеціцца акно нашай дачы. Хто тут можа быць?

Зайшоў на надворак. Нешта не так… І хоць прыцемкі былі, надворак выглядаў… не, не чужым, не незнаёмым. Проста не такім, якім быў учора і заўчора. Іншым. І ў той жа час я ведаў, што такім свой надворак я бачыў. Раней?

Дзверы ў веранду былі прачыненыя. Трывога сціснула сэрца. Хоць не злодзеяў я спужаўся, нават не падумаў пра іх. Зайшоў на веранду — чысцютка, ходнікі пасцеленыя. Што за д'ябальшчына? Калі і навошта мая жонка тут так прыбрала? Узяўся за ручку дзвярэй хаты і адчуў, як узмакрэла ад поту далонь.

Дыхнула ў твар цяплом ад напаленай грубкі. І — тым хатнім духам, хатняй утульнасцю, якая была заўсёды ў нас па вечарах, калі… калі жонка была ў адпачынку, даглядала малую Жэньку. А мае вочы ўжо схапілі, адзначылі такую знаёмую прыбранасць пакоя…

…Жонка выглянула з кухні.

— Жэнька! Тата прыйшоў!

Пачуўся шум ў вялікім пакоі, шырэй адчыніліся дзверы, і малая Жэнька, трымаючы высока ўзнятай галаву, замілавана ўсміхаючыся, радасна паспяшалася да мяне на карачках.

Я падхапіў дачушку на рукі, прыціснуў да сябе, а ў галаве білася думка: вар'яцею. Літаральна вар'яцею.

Размывалася, сплывала асобнымі ўрыўкамі сённяшняе, дзе Жэнька — 11-гадовая дзяўчынка, дзе ў нас ёсць кватэра, дзе я на працы маю другую пасаду, дзе ў мяне ёсць ЖЖ і сайт, дзе надрукаваныя некалькі маіх аповесцей і апавяданняў у часопісах, а сам я маю членскі білет саюза пісьменнікаў. Затое аднекуль з глыбіні свядомасці ўзрастала пачуццё неабходнасці падпарадкавацца штодзённаму распарадку: памыць посуд, прыгатаваць неабходнае, каб пакупаць Жэньку, дапамагчы з урокамі сыну. Потым будзе вячэра, потым, калі ўсе пакладуцца спаць, прыйсці на невялічкую куханьку, сесці і дапісваць апавяданні ў сваю першую кнігу.

Хоць, я ведаю, ведаю ж! — яна выйшла, яна стаіць на паліцы ў пакоі Жэнькі, у нашай кватэры.

Ці не стаіць? Ці гэта мне мроіцца вось тут, вось цяпер, што будзе кніга, будзе кватэра, будуць апавяданні і аповесці, і Жэнька стане рослай дзяўчынкай, якая будзе саромецца ўжо прыціскацца да мяне шчыльна з-за так рана адскочыўшых грудак? Гэта мая мара, і мроіцца яна з такой сілай, што для мяне стала часткай рэальнасці?

…Жэнька закруцілася на руках, я адчуў нешта ў кішэні. Ручка… Я купіў згубленую ручку…

Калі я купіў? Дзе гэта? Дзе той магазінчык? Здаецца, на вугле, калі павярнуць ад сябра… Ад якога сябра? Чакай, у каго я сёння быў? Куды я заходзіў?

— Я зараз, мне вельмі трэба! — гукнуў я жонцы, апусціў Жэньку і сам хутка выбег на вуліцу.

Мне трэба разабрацца. Мне трэба зразумець…

На вуліцы, цёмнай ужо і вохкай, без хатняй утульнасці, у галаве стала трохі ясней. Сённяшняе, апушчанае ў цёмную ваду забыцця, быццам вынырнула на паверхню і хапіла глыток паветра. Цяпер ісці, шукаць…

Тут… Недзе тут… Чорт, вось жа тыя дамы, ну дакладна тыя, хіба што другі, новы плот ля аднаго… Дзе ж магазінчык?

На месцы магазінчыка стаяла простая драўляная лаўка. Ліхтар свяціў над ёй белым нежывым святлом.

Я прысеў на лаўку і, адчуваючы, што страчваю ў гэтыя хвіліны апошнія сувязі з сённяшнім, ліхаманкава шукаў выйсце. І не знаходзіў.

Пацягнуўся ў кішэню па цыгарэты. Выцягнуў пачак "Гранады". Гэтыя цыгарэты даўно зніклі з продажу. Але ТАДЫ я пачаў іх паліць. Хоць дарагія, але жонка настаяла, каб калі ўжо і паліў, дык добрыя цыгарэты з фільтрам.

І вось цяпер я зразумеў канчаткова, што адбылося. Зразумеў, што мне не вярнуцца. Гэта прынесла нейкае супакаенне (ну, маё ж жыццё, пражыву яшчэ раз…), але толькі на момант. Што ж будзе? Не, не заўтра, што будзе потым, калі пройдзе год, трэці і дзясяты? Я дапішу апавяданні першай кнігі, згубіцца ручка, мы пабудуем кватэру, вырасце дачушка, я надрукую яшчэ не адну аповесць, а потым… Потым такім вось вечарам я зайду ў магазінчык, што з'явіцца на месцы гэтай лаўкі, і куплю згубленую некалі ручку…

Папярэдзіць, папярэдзіць сябе…

Дастаў той самы лісток паперы са сваім роспісам, ручку і, ужо з цяжкасцю разумеючы сэнс сваіх слоў, таропка напісаў:

"Ні ў якім разе не трэба купляць згубленую чарнільную ручку ў магазінчыку".

Адчайна закусіў вусны, і салёны смак болю дапамог яшчэ раз цалкам вярнуцца ў рэальнасць і сабраць апошнія думкі пра ГЭТА. Я прымусіў сябе задумацца, каб вырашыць неабходнае: дзе ж захаваць гэтае пасланне самому сабе? Каб не згубілася, каб нікому не мазоліла вочы…

Пашпарт амаль заўсёды пры мне. Нават цяпер. Пашпарт у вокладцы. Пад вокладкай тонкі аркуш паперы будзе ляжаць гадамі. Не згубіцца. І ведаць, акрамя мяне, ніхто не будзе. Я дастаў пашпарт, вызваліў палову ад вокладкі.

І пабачыў між вокладкай і пашпартам невялікі, складзены удвая лісток паперы. Разгарнуў яго.

"Ні ў якім разе не трэба купляць згубленую чарнільную ручку ў магазінчыку".

І мой выразны роспіс чорным чарнілам.



Дзмітрый Пятровіч

# Вартоўня

### Абразок

Яны пайшлі ў лепшы свет разам — бабуля і дзядуля — у адзін год. І той пачатак восені 95-га я запомніў на ўсё жыццё. Адчайны плач прыроды — і не толькі аб прайшоўшым леце, развітанне з роднай зямлёй птушак, якія чорнымі хмаркамі-чародкамі на нейкі час запаўнялі сумнае неба і, праляцеўшы над голымі палямі, накіроўваліся ў цёплыя краіны, каб неўзабаве вярнуцца да нас, — усё гэта было ў той цяжкі для мяне год. Вясна і лета назаўсёды разлучылі і зноў аб'ядналі іх, маіх любімых, родных людзей. Я зноў тады прайшоў шляхамі майго дзяцінства, як і ва ўсіх, непаўторнага — толькі майго…

Адразу за мехдваром пачынаўся калгасны сад. У той год яблыні вельмі добра ўрадзілі: галіны дрэў прыгіналіся да зямлі пад цяжарам пладоў. А я ішоў, і амаль кожнае дрэва нагадвала мне сапраўды шчаслівы час, калі я дзякуючы дзядулю адкрываў для сябе гэты цудоўны свет. А адкрыцці чакалі мяне на кожным кроку: кісліца на ўзлеску, крамяны баравічок, адразу за бензазапраўкай у нашых Галаўнінцах — некалькі яблынь з салодкімі яблыкамі (я іх асабліва любіў). З дзедавай сумкі (з такімі калісьці дзеці ў школу хадзілі) урачыста выманіся некалькі кавалкаў хлеба з салам, цёмная бутэлька з малаком, галоўка часнаку або цыбулі. Да гэтага пачастунку дадаваліся некалькі яблыкаў і груш-дзічак. Аднойчы мне нават давялося пакаштаваць боршч у калгаснай сталоўцы. Жанчына, якая частавала нас смачным варывам, даведаўшыся, што я ўнук Міхася Гараб'я (так па-вясковаму звалі майго дзеда), адразу прапанавала мне дабаўкі, якую, да слова, я ледзьве адолеў…

Каля мехдвара мяне абагнаў камбайн. Падняў пыл і знік за паваротам. А я сышоў з дарогі і апынуўся каля вартоўні. Але што гэта?

Калісьці мяне забаўляла гульня ў картачны домік: трэба было з-пад гэтага доміка выцягваць карты, каб хісткая пабудова нейкі час пратрымалася ў некранутым выглядзе. У пройгрышы аказваўся той, хто цягнуў карту нязграбна, і картачны домік развальваўся. Мне кожны раз чамусьці было сумна, калі ўсё трэба пачынаць нанова.

Але карціна, якую я ўбачыў у калгасным двары ў памятны для мяне 95-ы год, прымусіла моцна біцца сэрца. Вартоўня нагадвала той самы картачны домік, які ўжо даўно выведзены з гульні бязлітасным часам. Выцвілыя дошкі былога зялёнага колеру — колеру ўсяго жывога — ляжалі на зямлі, бязладна тырчалі парахнявыя бярвенні. Я прысеў на стары, абымшэлы камень ля вартоўні. І нахлынулі раптам успаміны пра тую восень, якая вяртаецца даволі часта ў маіх снах і якую насамрэч не вярнуць, на жаль, ніколі…

— Унучак, давай сам, добра? — Міхась Іванавіч, мой дзед, вострыць бярозавыя пруцікі для сала, а я, малы, насаджваю на іх белыя, з пражылкамі мяса, кавалачкі. — А зараз павярушы бульбу. Мабыць, ужо гатова.

У мяне слінкі бягуць ад гэтых слоў, а таксама ад паху печанай бульбіны, якую дзед падаў мне хвіліну таму. Разламаўшы чорную, з попелам скарынку, я ўпіўся зубамі ў жоўтую, з дымком, сярэдзіну. Гэтая бульба, напэўна, самае смачнае, што мне давялося калісьці пакаштаваць у жыцці!

— А давай яе з сальцам і хлебам, а, унучак? Што, смачна? — дзед сам разломвае абгарэлую бульбіну — у сярэдзіне ад яе ідзе белая пара — і адпраўляе кавалачкі ў рот. Прыжмурвае адно вока. — Ну што, наша беларуская бульба самая смачная, праўда?

Я з задавальненнем толькі кручу галавой: апячыся можна гэтай гарачай смакатой!

— Нездарма нас людзі бульбашамі клічуць! Ну, што, пад'еў? А цяпер — салют!

Ён заходзіць у вартоўню і праз хвіліну вяртаецца — я не веру сваім вачам! — са стрэльбай. Сапраўднай! Насамрэч — такія я дагэтуль толькі ў кіно бачыў.

— Хочаш патрымаць?

Я праводжу рукой па ствале — а іх два, нездарма ж такую стрэльбу называюць двухстволкай-дубальтоўкай.

— Так, прыціскай да пляча. Вунь на цагліне бляшанка. Бачыш? Цэлься па ёй. Вось два куркі. Націскай на любы!

Я цісну з усяе сілы, але…

— Ну што, пакуль сілы мала? Нічога, давай я дапамагу. Вось так. Толькі не пужайся.

Дзед бярэ стрэльбу, прыжмурвае адно вока, доўга цэліцца…

Хісткую восеньскую цішыню нарэшце раскалоў стрэл. Са звонам бляшанка зляцела з цагліны ў хмызняк. Па вушах, памятаю, добра ўдарыла. Але дагэтуль адчуваю я пах печанай бульбы. Як і пах свежых яблыкаў у калгасным садзе. Гэта сапраўды быў той шчаслівы час, які называецца дзяцінствам і які, здавалася мне тады, ніколі не скончыцца…

…А вартоўня не вытрымала — развалілася праз дзесяцігоддзі. Дзякаваць Богу, нашы ўспаміны і пачуцці не згасаюць, а толькі напаўняюцца з часам нейкім новым зместам, пра які некалі скажуць за нас нашы дзеці і ўнукі. А пакуль не старэе наша памяць — жывуць і тыя, дзякуючы каму патрапілі і мы на гэты дзіўны свет.

# Ахоўнік душы народа

Вячаслаў РАГОЙША

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)

Справа ў тым, што тагачаснымі кіраўнікамі сталіцы рэспублікі аваладаў “сверб” знішчэння ранейшых (асабліва культавых) пабудоў, ператварэння Мінска ў “сучасны сацыялістычны горад”. Толькі ў раёне цяперашняй плошчы Незалежнасці былі знесеныя праваслаўная царква, што стаяла злева ад Дома ўрада, вялікі (здаецца, пяціпавярховы) паранены нямецкай бамбёжкай дом у цэнтры плошчы, што мог бы стаць цудоўным помнікам — напамінам пра варварства фашыстаў падчас Вялікай Айчыннай вайны (такі дом-помнік — сведка “варварства амерыканскай бамбардзіроўкі” — і цяпер стаіць у нямецкім Лейпцыгу). Навісла рэальная пагроза знішчэння і над суседнімі з Домам урада Чырвоным касцёлам ды жылым домам № 19 па вуліцы Савецкай, дзе тады жыў Шырма, якія нібыта перашкаджалі зрокаваму ўспрыманню галоўнага ўрадавага будынка рэспублікі.

Чырвоны касцёл быў адразу пасля вайны рэквізаваны дзяржавай, у ім атабарыліся кінематографісты, і вырашыць яго лёс было лягчэй. Але з жылым домам... Пратэставалі насельнікі. Ды яны, вядома, былі асобы зацікаўленыя. Вось тады Шырма і звярнуўся да нас, людзей старонніх, незацікаўленых, каб мы “ўзнялі” студэнцтва, напісалі калектыўныя лісты ў розныя партыйныя і ўрадавыя структуры. Што мы ўрэшце і зрабілі, хоць, як вядома, калектыўныя лісты начальства тады вельмі не любіла. Не ведаю, ці нашы лісты дапамаглі, ці што іншае, але і Чырвоны касцёл, і суседні жылы дом (дарэчы, на ім цяпер мемарыяльная дошка ў гонар Р.Шырмы) дагэтуль цешаць вочы жыхароў Мінска і яго шматлікіх гасцей.

А “Беларускія народныя песні” з часам, хоць і не без пэўных цяжкасцей, пачалі выходзіць з друку. Ужо ў пачатку другога паўгоддзя 1959-га на прылаўкі кнігарняў лёг першы том, які склалі песні любоўныя, жартоўныя, баладныя і бытавыя, у 1960 годзе — другі, куды ўвайшлі песні пра жаночую долю, недабраную пару, хрэсьбінныя і сіроцкія, казацкія, рэкруцкія і салдацкія, батрацкія і прымацкія, песні няволі і змагання, у 1962-м з’явіўся трэці — з вяснянкамі, валачобнымі і юраўскімі, купальскімі, пятроўскімі, жніўнымі, восеньскімі, каляднымі і масленічнымі. Што да чацвёртага, заключнага тома, дзе сваё месца знайшлі вясельныя песні, адны з самых багатых у беларускім народнапесенным рэпертуары, то ён з’явіўся ажно ў 1976-м, праз 18 гадоў пасля нашай першай сустрэчы з Шырмам. На жаль, складзеных намі паказальнікаў у апошнім томе не аказалася. “Паскупіліся выдаўцы на паперу”, — так пазней нам са шкадаваннем гаварыў сам стваральнік чатырохтомнага выдання.

Рыгор Шырма не толькі ў канцы 1950-х, але і пазней, аж да самай сваёй смерці, неаднойчы бываў на філфаку БДУ, сустракаўся са студэнтамі, аспірантамі і выкладчыкамі, адзін з якіх — Васіль Ліцьвінка — нават абараніў кандыдацкую дысертацыю пра Шырму-фалькларыста (1984), уклаў кнігу яго літаратурнай творчасці “Песня — душа народа” (1976, перавыданне — 1993), фотаальбом пра яго (1990). Мне ж добра помніцца яшчэ адна сустрэча з Рыгорам Раманавічам. Аднак не на нашым філфаку, а на філфаку тагачаснага Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага (сёння — БДПУ імя Максіма Танка).

Кафедрай беларускай мовы там кіраваў слынны мовазнаўца і фалькларыст, прафесар Фёдар Янкоўскі. Патрыёт Бацькаўшчыны, чалавек мудры, прадбачлівы, тонкі дыпламат, Фёдар Міхайлавіч арганізаваў у пединстытуце выключна папулярны клуб аматараў беларускай мовы, які назваў “Жывое слова”. Сама ўжо назва клуба гучала выклікам тым, хто лёс беларускай мовы нітаваў з лёсам мёртвай латыні. Пра яго закрыццё неаднойчы ўзнімалася пытанне парткамам інстытута, але зрабіць нічога не маглі: кіраваў клубам чалавек выключнай рэпутацыі, да таго ж камуніст, былы партызанскі разведчык (у часе вайны Ф.Янкоўскі камандаваў разведкай партызанскага атрада). Менавіта “Жывое слова” і запрасіла Шырму 7 студзеня 1967 года на сустрэчу са студэнтамі.

Гэта быў пярэдадзень 75-годдзя Рыгора Раманавіча і якраз — дзень праваслаўных Каляд. У тыя камуністычна-атэістычныя часы Каляды афіцыйна не толькі не святкаваліся — забаранялася нават згадваць гэты “перажытак мінулага”. А тут — сапраўднае свята. Свята сустрэчы з сівагаловым патрыярхам беларускага адраджэння. І не толькі з ім. Фёдар Міхайлавіч у пярэдадзень Божага Нараджэння дыпламатычна-прадбачліва запрасіў на сустрэчу са студэнтамі — будучымі настаўнікамі — і перспектыўных, на яго думку, маладых прадаўжальнікаў справы Шырмы, а сярод іх — Арсеня Ліса (цяпер доктар філалагічных навук, вядомы фалькларыст і пісьменнік), Янку Саламевіча (сёння кандыдат філалагічных навук, знаны фалькларыст і энцыклапедыст) і мяне (тады я заканчваў працу над кандыдацкай дысертацыяй пра паэтыку Максіма Танка). Натуральна, на сустрэчы тэма Каляд, якія ў народзе сімвалізуюць нараджэнне нечага новага, добрага, гучала ўвесь час. Хоць бы таму, што калядкі — адзін з найцікавейшых жанраў беларускай народнай песеннай лірыкі. Зрэшты, з характарыстыкі калядак Шырма і пачаў сваё выступленне. Потым перайшоў да народных песень увогуле:

*— Вышэй і прыгажэй за народную песню, калі гэта сапраўдная народная жамчужына, а не падробка пад яе, няма і быць нічога не можа! Песня — душа народа. Але не толькі. Песня творыць народ, збліжае людзей. Паглядзіце на прыбалтаў, на іх шматлюдныя святы песні. Тысячы людзей яднаюцца ў адным парыванні — словамі роднай мовы, блізкай сэрцу мелодыяй. Усе яны становяцца як бы адной раднёй, якую не раз’яднаць, не пасварыць, не адолець. І ўсё гэта — дзякуючы песні. Таму мы павінны ўсімі сіламі і сродкамі захоўваць і ахоўваць яе.*

Цёплыя словы Рыгор Раманавіч сказаў пра настаўнікаў, якія, нягледзячы ні на якія складанасці жыцця, перашкоды, “сеюць прыгожае, добрае, вечнае”, “аддаюць свае сэрцы дзецям — будучыні радзімы”. Нехта спытаў: “Што, на вашу думку, трэба зрабіць, каб не толькі захаваць, але і ўзняць на новы ўзровень родную культуру?” І пачулася ў адказ:

*— Найперш — рыхтаваць адукаваныя, таленавітыя, працаздольныя кадры, дарэшты аддадзеныя роднай культуры. Як рыхтуе іх у вашым інстытуце паважаны Фёдар Міхайлавіч. Менш трэба галаслоўна разважаць пра неабходнасць уздыму асветы і культуры, у тым ліку і культуры роднага слова, а больш — канкрэтна дбаць пра належную падрыхтоўку прапагандыстаў роднай мовы, стваральнікаў нацыянальнай культуры.*

Мне рупіла спытацца ў маэстра пра яго адносіны да Максіма Танка. Я ведаў, што ў свой час менавіта Шырма з дапамогай ТБШ выдаў першы зборнік паэта “На этапах” (1936). Неяк у адным артыкуле я назваў Танка класікам беларускай літаратуры. Супрацоўнік рэдакцыі запярэчыў: “Рана вы яго ў класікі запісалі”, і выкрасліў мае словы. А Шырма ж яшчэ ў прадмове да зборніка “На этапах” прарока пісаў, што “нам яшчэ прыйдзецца быць сведкамі, калі ягоны талент падымецца да вялікага сузор’я Купалы — Коласа”. І шаноўны госць незабыўнай сустрэчы пацвердзіў:

*— Пераканаты, я тады не памыліўся. Максім Танк ужо сёння ў сузор’і Купалы — Коласа. Ён, без перабольшання, — класік нашай літаратуры. Можаце маю думку перадаць і супрацоўніку рэдакцыі...*

Памятаю, тады ўсчалася і невялікая спрэчка паміж Шырмам і асобнымі студэнтамі. У другой палове 1960-х пачалі ўзнікаць вакальна-інструментальныя ансамблі, якія эксперыментавалі з мелодыямі і нават словамі народных песень, змянялі іх на свой лад, “асучаснівалі”. Рыгор Раманавіч пурыстычна аберагаў народны мелас, лічыў кашчунствам “улазіць у душу народа”. Студэнты ж стаялі на тым, што дзеля папулярызацыі народных песень, а тым самым — і беларускай мовы, культуры ўвогуле, варта “ісці ў нагу з часам”. Спрэчка, як мы сёння ведаем, завяршылася кампрамісам: беларуская народная песня з поспехам гучыць і ў класічнай апрацоўцы (у рэпертуары той жа Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы імя Р. Шырмы), і ў аранжыроўцы рок-музыкантаў (скажам, у выкананні “Песняроў”).

Такім чынам, меў рацыю і Рыгор Шырма. Ахоўнік беларускай народнай песні, а значыць — і душы народа.



***На здымку: у другім радзе — фалькларыст Рыгор Шырма (другі справа), спявак Міхась Забэйда-Суміцкі (у цэнтры), кампазітар Кастусь Галкоўскі (чацвёрты справа); стаяць — паэт Максім Танк (другі злева), беларускі ксёндз-асветнік Станіслаў Глякоўскі (другі справа). Заходняя Беларусь, 1930-я гады.***

***Фота з архіва “ЛіМа”.***

***24 студзеня*** *Беларуская дзяржаўная філармонія ладзіць канцэрт, прысвечаны 120-годдзя з дня нараджэння Р. Шырмы. У Малой зале, якая носіць яго імя, выступіць заслужаны калектыў Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла Рэспублікі Беларусь, ганараваная імем свайго славутага стваральніка. Мастацкі кіраўнік капэлы — народная артыстка Беларусі Людміла Яфімава; хормайстры — Алена Вішнякова, Павел Сопат, Аляксандр Кірыенка; дырыжор — Дзмітрый Хлявіч. Салісты — Іван Бурак, Ірына Дзмітровіч, Святлана Новікава. Партыю фартэпіяна выканае Кацярына Петрыкава. У праграме “Песня — душа народа”, назву якой дало крылатае шырмаўскае выслоўе, прагучаць беларускія народныя песні са зборнікаў Р. Шырмы, рускія народныя песні, духоўная музыка, рамансы.*

**Аддзел мастацтваў “ЛіМа”.**

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА

Заўтра ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі — вечаровая літаратурна-музычная праграма, прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння Максіма Багдановіча. Класічная беларуская паэзія прагучыць у выкананні майстра мастацкага слова Зінаіды Феакціставай, разам з якой выступяць лаўрэаты міжнародных конкурсаў спявачка Святлана Старадзетка ды піяністка Юлія Архангельская.

Знакавая выстаўка прайшла ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі: “Незалежная Беларусь. Новыя паступленні. 1991–2011”. Яна сталася нагодай для гутаркі за “круглым сталом” з удзелам кіраўніцтва і навуковых супрацоўнікаў музея, тэарэтыкаў і практыкаў выяўленчага мастацтва. Спецыялісты заўважылі, што за 20 гадоў незалежнай Беларусі фонды НММ павялічыліся на амаль 5 тыс. твораў. Яны паступалі ў збор за кошт закупак Міністэрства культуры на бюджэтныя сродкі, у якасці дарункаў ад спонсараў, прыватных асоб, мастакоў або іх сем’яў, перадач з іншых музеяў і да т. п. Прытым асноўная ўвага надавалася папаўненню калекцыі айчыннага мастацтва XIX — XX стст., цікавасць да якога расце. З ліку такіх паступленняў — творы Н. Орды, П. Сергіевіча, А.Каплана. За час нашага суверэнітэту пачаў фарміравацца збор г. зв. беларусаў замежжа XX ст., сярод якіх Я. Кузьміцкі, Л. Тарасевіч, М. Пашкевіч і Г. Дакальская, Б. Забораў, В. Целеш. Папоўнілі НММ і творы соцень сучасных беларускіх жывапісцаў, скульптараў, графікаў, адмыслоўцаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Прытым некаторыя майстры ўпершыню спадобіліся гонару быць прадстаўленымі ў галоўнай творчай скарбніцы краіны. З’явілася тут і завядзёнка прымаць у падарунак музею работы яркіх прадстаўнікоў новай генерацыі — мастакоў ва ўзросце да 35 гадоў.

Казачнай гісторыяй пра тое, як важна быць камусьці патрэбным, парадавалі сваіх маленькіх гледачоў артысты Гродзенскага абласнога тэатра лялек. Спектакль паводле п’есы В. Швемберга “Маша і Мядзведзь” паставіў рэжысёр Мікалай Андрэеў, над мастацкім афармленнем прэм’еры працавала Ларыса Мікіна-Прабадзяк.

Харавая сябрына “Край ясназоры” збярэцца ў бліжэйшую нядзелю на сцэне сталічнай філармоніі. У праграме, якая пачнецца а 16-й гадзіне, прагучыць музыка беларускіх кампазітараў для дзіцячых і маладзёжных харавых калектываў, вакальных ансамбляў ды салістаў. Філарманічны аўторак прывабіць меламанаў чарговым канцэртам цыкла “Шэдэўры сусветнага арганнага мастацтва”: у Мінск завітае народны артыст Татарстана Рубін Абдулін. А на 25 студзеня ў БДФ запланавана вялікая прэзентацыя альбома “Зімачка” этнатрыа “Троіца”.

Творчыя вынікі конкурсу на лепшы дзіцячы малюнак або выраб дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва “Калядныя замалёўкі” падсумавала аднайменная выстаўка. Яе наладзіў арганізатар гэтага тэматычнага конкурсу, Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі. Малюнак і роспіс па шкле, бацік і выцінанка... Больш як сотня разнастайных і знаходлівых работ юных творцаў упрыгожыла прастору музея, калектыў якога здзейсніў гэты прыгожы праект пры спонсарскай падтрымцы Мінскай гарадской арганізацыі Беларускага прафсаюза работнікаў культуры, Белнафтагаза (ААТ “Трайпл”) і турыстычнай фірмы “Пегас”.

# Смех, які ўзвышае

## Развагі прафесара філалогіі з нагоды прэм'еры спектакля "Шалёны дзень, або Жаніцьба Фігаро" ў Гомельскім абласным драматычным тэатры

Іван ШТЭЙНЕР

Веліч і жыццядайнасць класікі заключаецца найперш у тым, што кожнае наступнае пакаленне, звяртаючыся да яе, знаходзіць нешта сваё, адметнае, цалкам сугучнае новай эпосе, новым ідэалам і запатрабаванням. Пра ўрокі класікі мы згадваем, спрабуючы ацаніць вартасці спектакля "Шалёны дзень, або Жаніцьба Фігаро", пастаўленага паводле камедыі П. Бамаршэ ў Гомельскім абласным драматычным тэатры мастацкім кіраўніком калектыву В. Чэпелевым і маладым рэжысёрам Б.Арлоўскім.

Пра значнасць праблем, што стаялі перад рэжысёрамі, сведчыць, прынамсі, тое, што яшчэ ў 1925 годзе К. Станіслаўскі, збіраючыся ставіць спектакль паводле знакамітай камедыі П.Бамаршэ, заклікаў найперш пазбавіцца штампаў, якія нараслі на творы цягам стагоддзяў. Славуты рэжысёр адмовіўся ад трактоўкі п'есы як выключна забаўляльнай камедыі, ён не прымаў трактоўку галоўных герояў як персанажаў камедыі дэль артэ (граф — Арлекіна, Сюзана — Каламбіна, Фігаро — П'еро і г.д.). Станіслаўскі збіраўся ставіць рэалістычны спектакль, аздоблены элементамі пацяшальнасці — у адпаведнасці з рэаліямі тагачаснай эпохі. У беларускай культурнай традыцыі, як і ва ўсёй савецкай, акцэнт рабіўся на ўвасабленне сацыяльных супярэчнасцей (згадаем пераклад на беларускую мову, зроблены А.Дударом у 1936 годзе, спектакля 1933 года "Жаніцьба Фігаро" ў БДТ-2.

Зразумела, сёння нельга ставіць спектакль пра тое, як "народ перамагае сваіх ворагаў". Ды варта ўсё ж такі ўвогуле захаваць выразную дыдактычнасць твора, спалучыўшы яе з духам непераможнай весялосці, літаральна разлітай у п'есе. Дарэчы, сам яе аўтар быў выключна заклапочаны праблемай быць зразуметым і артыстамі, і рэжысёрамі, і публікай. Сведчаннем той факт, што тэкст уласнай камедыі П.Бамаршэ забяспечыў "Прадмовай", якая налічвае два дзясяткі старонак!

Можна было пайсці лёгкім шляхам, "мадэрнізаваць" твор да такой ступені, што яго не пазнаў бы ніхто: зрабіць графа Альмавіву дырэктарам пэўнай установы, а ягоных блізкіх і слуг — членамі падначаленага калектыву, напоўніўшы змест пазнавальнымі рэаліямі нашай імклівай сучаснасці. (А згадаем цяперашнія інтэрпрэтацыі "Фігаро" на сцэне і ТБ, дзе на першы план выходзяць адзюльтэр і любошчы.). Можна распрануць герояў ці нават змяніць іх сексуальныя прыхільнасці. Класіка ўсё вытрывае, бо яна — вечная. Зрэшты, сам Бамаршэ папярэджваў, што французам могуць надакучыць сумныя п'есі сучаснікаў і яны кінуцца да непрыстойнай камічнай оперы ды яшчэ далей: на бульвары, да смуроднага збору балаганаў, гэтай ганьбы для ўсіх нас — туды, дзе прыстойная вольнасць, выгнаная з французскага тэатра, ператвараецца ў бессаромнае распуства, дзе юнацтва набіраецца ўсялякіх бессэнсоўных нахабнасцей і дзе разам з маральнасцю страчваецца схільнасць да высакароднага. Здаецца, французскі класік нібы прадчуваў, што яго творы трапяць у рукі гэткіх інтэрпрэтатараў…



Рэжысёр В. Чэпелеў захоўвае павагу да славутага камедыёграфа. Прытым ён выдатна бачыць і разумее Сцылу і Харыбду адзначанай праблемы, бо, калі не здзьмуваць (паводле слоў драматурга) пыл з класічных узораў, то і будуць з'яўляцца згаданыя тут крайнасці. Гомельскі "капітан каманды" прывёў класічны карабель у сучасную гавань. Спектакль атрымаўся яркі, відовішчны, захапляльны. Глядач на дзве з паловай гадзіны трапляе ў свет, такі, здавалася б, далёкі ад яго і такі, насамрэч, блізкі і сучасны.

У пэўнай ступені пастаноўка захавала сацыяльныя і палітычныя аспекты далёкіх часоў (асабліва вылучаецца сцэна суда, трактаваная саркастычна). Аднак усё падпарадкавана класічнаму: забаўляючы — павучаць.

Немагчыма ўявіць такі спектакль без яркіх тэатральных касцюмаў. І ў гомельскай пастаноўцы (мастак па касцюмах К. Кочурава) яны ўражваюць. Артысткі, здаецца, нарадзіліся ў строях XVIII стагоддзя, бо носяць іх з годнасцю, нібы сапраўдныя іспанкі. Вялікая заслуга кіраўніцтва тэатра ў тым, што, нягледзячы на фінансавы крызіс, знайшліся сродкі на стварэнне цудоўных эскізаў і іх увасабленне.

Уражвае і сцэнаграфія спектакля (Г. Пашын): элегантная, як і ўся пастаноўка, мабільная, шматфункцыянальная — сцены замка імгненна робяцца каштанамі, у якіх, нібы ў тых "трох соснах", блукаюць героі, узмацняючы і заблытваючы і без таго заблытаную інтрыгу.



Здаецца, што пры наяўнасці славутай музыкі Дж. Расіні і В. А. Моцарта музычнае афармленне "Жаніцьбы Фігаро" не павінна хваляваць пастаноўшчыкаў. Аднак С. Фёдарава, якая займалася музычным афармленнем, не пабаялася пошукаў, нечаканых спалучэнняў знаёмых матываў і свежых тэм у гукавой партытуры пастаноўкі.

Выключная задача ўскладвалася на выканаўцаў усіх роляў, бо ў акцёрскім увасабленні класікі дробязей не бывае. Як рэжысёр В. Чэпелеў упэўнены, што яго творчаму калектыву па сілах задачы самыя складаныя. Ды і сам ён далучыўся да акцёрскага ансамбля, бліскуча выканаўшы ролю графа Альмавівы (міжволі згадваецца рэпліка з рэцэнзіі XIX ст. на пастаноўку "Сялянкі" В. І. Дуніна-Марцінкевіча з удзелам аўтара — "сочинитель был забавнее всех"). Супастаўляючы яго выкананне з ігрой маладога акцёра В. Шчарбакова, можна заўважыць, як у вобразе героя гэтай інтэрпрэтацыі акцэнтуецца шляхетнасць: і ў паставе, і ў жэстах, і ў манеры трымацца на сцэне.

Рэжысёру ўдалося ў цэлым дасягнуць поліфанічнага гучання спектакля, хаця акцёры, у поўнай адпаведнасці з задумай, імкнуліся да выразнай індывідуалізацыі, што стала адметнасцю ўвасаблення кожнага персанажа. Так, гледачу адразу імпануе энергічны напор доктара Бартала (артыст А. Лаўрыновіч), якому, здаецца, нават зацесна ў сцэнічных дэкарацыях. Энергетыка артыста надае новыя адценні развіццю дзеяння, яскрава кантрастуючы з ліслівасцю, абыякавасцю, хітраванствам суддзі дона Гусмана Брыдуазона, якога хараша сыграў Ю. Фейгін, дадаўшы ўласных фарбаў у гэты несмяротны вобраз суддзі-кручкатвора. Спакойна, падчас нават запавольна, як здаецца на першы погляд, выконваюць ролі А. Каратkевіч (садоўнік Антоніа) і В. Карака (настаўнік музыкі Базіль), аднак яны і не прыхоўваюць тэмперамент, гатовы выбухнуць у кожную хвіліну. Сапраўднымі арыстакраткамі выглядаюць Графіня (Т. Ганчарова, А. Кавалькова), Марселіна (Т. Зміцюра, Е. Канькова). Бліскуча сыграла ролю Сюзаны А.Барташэвіч (прашу прабачэння ў іншых выканаўцаў, але ў гэтай ролі я пабачыў толькі яе). Яна выключна праканаўча спалучыла ў сабе жаноцкасць і дзявочую наіўнасць, што цалкам адпавядае патрабаванням Бамаршэ да выканаўцы ролі Сюзаны: увішная, жыццярадасная, узнёслая. І, самае галоўнае, яе ігра пазбаўленая тых фрывольнасцей, якія дэманструюць, на грані прыстойнасці, артысткі "аперэтак". Вочы яе так і свецяцца, бо яна запрашае ўсіх на свята жыцця. І верыцца гэтай абаяльнасці і дзявоцкай прыгажосці.

Як вядома, ролю Керубіна, маладога пажа графа, паводле задумы драматурга, павінна выконваць толькі маладая і прыгожая жанчына. Бамаршэ лічыў, што ў тэатрах няма такіх акцёраў, якія змаглі б спазнаць і адчуць усе адценні гэтай ролі. Артыст Р. Жураўлёў здолеў паказаць, што класік памыляўся і што ў Гомелі ёсць таленавіты выканаўца, здольны хораша, дасціпна, далікатна сыграць Керубіна. Цікавы і Фігаро (А. Бардухаеў), якому было цяжэй за ўсіх, бо амаль кожны мае ўласныя ўяўленні пра гэты славуты вобраз.

Акцёры, што называецца, выкладваліся на сцэне, імкнучыся раскрыць задуму пастаноўшчыкаў, паказаць, што чалавецтва за два стагоддзі мала ў чым змянілася, найперш адносна душы чалавечай. Хто ж не зразумее словы галоўнага героя: "Я быў бедны і мной грэбавалі. Я паказаў свой розум — нарадзілася нянавісць"! Верыцца старому Бартала, што ён ведае чалавечыя сэрцы... Так, ведаў душы людскія геніяльны камедыёграф, які быў упэўнены, што не заўсёды жыццё нясе толькі радасць. Вось чаму так нялёгка выклікаць смех, нават смех дзеля смеху. А як жа цяжка выклікаць смех іншага кшталту — разумны, смех, які ўзвышае чалавека.

Відовішчны, сучасны і актуальны спектакль, у якім захаваныя найлепшыя тэатральныя традыцыі, стаўся сапраўднай з'явай у культурным жыцці Гомельшчыны. Ці не таму і аншлаг на прэм'еры, хаця паказ яе адбыўся ўжо амаль дзясятак разоў?

***На здымках: сцэны са спектакля "Шалёны дзень, або Жаніцьба Фігаро".***

***Фота Алега Белавусава, "Гомельская праўда".***

## Сталічны вернісаж

Нацыянальны мастацкі музей Беларусі ажыццявіў некалькі знакавых праектаў. Сярод іх — выстаўка "Незалежная Беларусь. Новыя паступленні. 1991 — 2011", якая сталася нагодай для гутаркі за "круглым сталом" з удзелам кіраўніцтва і навуковых супрацоўнікаў музея, тэарэтыкаў і практыкаў выяўленчага мастацтва. Спецыялісты канстатавалі, што за 20 гадоў незалежнай Беларусі НММ папоўніўся амаль 5 тыс. твораў. Яны паступалі ў збор за кошт закупак Міністэрства культуры на бюджэтныя сродкі, у якасці дарункаў ад спонсараў, прыватных асоб, мастакоў або іх сем'яў, установ, перадач з іншых музеяў ды інш. Прытым асноўная ўвага надавалася папаўненню калекцыі айчыннага мастацтва XIX — XX стст., цікавасць да якога апошнім часам расце. З ліку такіх паступленняў — творы Н. Орды, П. Сергіевіча, А. Каплана. За час нашага суверэнітэту пачаў фарміравацца збор г. зв. беларусаў замежжа XX ст., сярод якіх Я. Кузьміцкі, Л. Тарасевіч, М. Пашкевіч і Г. Дакальская, Б. Забораў, В. Целеш. Актывізавалася папаўненне фондаў творамі сучасных беларускіх жывапісцаў, скульптараў, графікаў, адмыслоўцаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Прытым некаторыя майстры ўпершыню спадобіліся гонару быць прадстаўленымі ў галоўнай творчай скарбніцы краіны. З'явілася тут і завядзёнка прымаць у падарунак музею работы яркіх прадстаўнікоў новай генерацыі — мастакоў ва ўзросце да 35 гадоў.

Знакавай для Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі сталася і выстаўка, прымеркаваная да 80-годдзя з дня нараджэння яго дырэктара ў 1977 — 1997 гг., заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Юрыя Карачуна. Выдатны мастак-графік, эрудыт, надзелены тонкім густам і "чуццём на таленты", ён паспрыяў годнаму папаўненню музейных фондаў творамі беларускіх майстроў. Заахвочваў навукова-даследчую і выдавецкую дзейнасць супрацоўнікаў музея і сам удзельнічаў у працы над многімі выданнямі. Юрый Аляксандравіч — аўтар манаграфій "Яўген Зайцаў", складальнік альбомаў "Музей В. К. Бялыніцкага-Бірулі", "Янка Купала ў творчасці мастакоў", "Якуб Колас у творчасці мастакоў", аўтар уступных артыкулаў да музейных альбомаў і каталогаў, навуковы кансультант "ЭЛіМБел". Ён падтрымліваў моладзь: праект музея 1990-х "На галерэі", прысвечаны паказу новага сучаснага айчыннага мастацтва, — ініцыятыва Ю. Карачуна. У пашыранні сеткі філіялаў музея, у арганізацыі Музея беларускага народнага мастацтва ў Раўбічах, Музея В.К. Бялыніцкага-Бірулі ў Магілёве, Мазырскай карціннай галерэі ў вёсцы Гурыны, архітэктурнага комплексу ў Гальшанах, Палацава-паркавага комплексу ў Міры, сталічных Мемарыяльнага музея-майстэрні З. І. Азгура ды музея "Дом Ваньковічаў. Культура і мастацтва першай паловы XIX ст.", у запачаткаванні будаўніцтва новага корпуса НММ — таксама важкі ўнёсак Ю. Карачуна... Наведвальнікі музея атрымалі магчымасць пабачыць віртуозную і пранікнёную графіку майстра. Выстаўка зацікавіла і даследчыкаў, бо некаторыя малюнкі, захаваныя яго родзічамі, экспанаваліся ўпершыню.

Я. КАРЛІМА

# Беларуская Эстонія

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ,
Мінск-Талін-Мінск,
фота аўтара

**Здавалася б, у лёсах Беларусі і Эстоніі прысутнічае куды больш адрозненняў, чым падабенстваў. Вытокі нашай нацыі — у славяна-балцкім асяроддзі, тады як насельніцтва прыбалтыйскай рэспублікі мае фіна-ўгорскія карані. Уласная дзяржаўнасць прасочваецца ў беларусаў з Сярэднявечча, а вось у эстонцаў яна адсутнічала да пачатку XX стагоддзя. Тым не менш шматлікія культурныя сувязі паміж двума народамі даюць усе падставы гаварыць пра існаванне феномена "беларускай Эстоніі".**



## Аповесць мінулых часоў

Каб увесці чытача ў кантэкст размовы, дазволю сабе ахарактарызаваць ход эстонскай гісторыі і, адначасова, узгадаць агульныя гістарычныя старонкі. Як ужо адзначалася, сталым насельніцтвам краіны з'яўляліся фіна-угры, у прыватнасці, племя эстаў. У IX — X стагоддзях тэрыторыя краіны ненадоўга трапляе ў сферу ўплыву Кіеўскай Русі. У наступныя тры стагоддзі складваюцца феадальныя адносіны, паступова ўзнікаюць перадумовы для стварэння нацыянальнай дзяржавы. Але на шляху эстонцаў паўстаюць крыжакі. Пікам змагання з імі становіцца паўстанне 1223 —1224 гадоў. Адзін з яго кіраўнікоў — князь Вячка (дарэчы, галоўны герой гістарычнага рамана Леаніда Дайнекі). Пасля падаўлення таго выступлення ўладарамі Эстоніі з'яўляліся Лівонскі ордэн і (непрацяглы час) Данія. Праз пэўны час мясцовыя гарады ўвайшлі ў Ганзейскі саюз.

За стратэгічна важную тэрыторыю змагаліся і іншыя краіны. Сярод іх былі і нашыя суайчыннікі. На завяршальным этапе Лівонскай вайны войскі караля Стэфана Баторыя далучылі паўднёвую Эстонію з гарадамі Дэрпт і Пернаў (цяпер Пярну) да Рэчы Паспалітай. На працягу чатырох дзесяцігоддзяў сучасныя эстонцы і беларусы жылі ў агульнай дзяржаве, пакуль да 1625 года Швецыя не завявала амаль усю мацерыковую Эстонію. Крыху менш чым праз сто гадоў краіна трапляе ў склад Расійскай імперыі. Але фактычна тут захавалася панаванне і нямецкай мовы, на якой вялося справаводства, і заходніх традыцый. Істотна, што асабістую волю (без зямлі) мясцовыя сяляне атрымалі яшчэ ў 1816 — 1819 гадах.

Здавалася б, сітуацыя ў Эстоніі ў плане нацыянальнай свядомасці з'яўлялася на працягу стагоддзяў куды горшай, чым у Беларусі. Але калі ў другой палове XIX стагоддзя ў краіне пачалося развіццё капіталізму, высветлілася, што тут маюцца ўмовы для развіцця буржуазнага грамадства. У мясцовых жыхароў сфарміравалася заходняя свядомасць, у іх адсутнічала культурная і эканамічная залежнасць ад метраполіі. Таму не дзіўна, што ў краіне ўзнікла нацыянальная буржуазія і інтэлігенцыя, якія пасля рэвалюцыі 1917 года змаглі абвясціць незалежнасць Эстоніі і стварыць самастойную дзяржаву. Далейшыя падзеі ўжо добра вядомыя: далучэнне Эстоніі да СССР у 1940-м, акупацыя рэспублікі немцамі, аднаўленне савецкай улады.

У канцы 1980-х пачаўся рух за незалежнасць, які прывёў да аднаўлення незалежнасці ў 1991-м. З таго часу дзве краіны, нібы тыя караблі, далёка разышліся ў моры. Як цяпер жыве беларуская дыяспара? У якіх умовах адбываюцца эстонска-беларускія сувязі?

## Дыяспара

Паводле дадзеных перапісу 1989 года, колькасць нашых суайчыннікаў у рэспубліцы дасягала 28 тысяч. У тым ліку ў Таліне пражывала 14 тысяч беларусаў. Пазней колькасць зменшылася. У 1989 годзе ў горадзе Йыхві пачало дзейнічаць "Беларуска-эстонскае згуртаванне", якое імкнулася кансалідаваць беларусаў. Пачатак 1990-х гадоў становіцца пікам актыўнасці дыяспары. У 1993-м пачаў выдавацца беларускі гістарычны часопіс "Грунвальд". У 1994-м у Таліне заснаваны Беларускі культурны цэнтр "Бацькаўшчына". Падобныя суполкі ўзніклі і ў іншых гарадах Эстоніі.

У цяперашні час дзейнічаюць Беларускае таварыства культуры "Лёс" (у Таліне), пры якім працуе фальклорны ансамбль; Беларускае культурнае таварыства "Ялінка" ў Маарду, пры якім існуе вакальная група; Беларускае культурнае таварыства "Сябры" (тут створаны ансамбль беларускай песні) і Беларуска-эстонскае культурна-асветніцкае таварыства "Спадчына" – у Нарве; Беларускае культурнае таварыства "Лад" у Пярну (існуе газета "Панарама", а таксама яе блог у інтэрнэце, дзе публікуюцца тэксты); аб'яднанне беларусаў "Крыніца" ў Сіламяэ, дзе працуе фальклорны ансамбль. У горадзе Йыхві працягвае існаваць БЭЗ.

Як бачна, большасць суполак сканцэнтравалі дзейнасць на прапагандзе беларускага фальклору. Несумненна, гэта надзвычай карысная справа, бо спрыяе захаванню вуснай народнай творчасці. У выканальніцкім майстэрстве ансамбляў можна пераканацца на падставе іх выступленняў як у Эстоніі, так і ў Беларусі (фальклорны ансамбль таварыства "Лёс" быў прадстаўлены ў праграме "Славянскага базару").

Але відавочна, што такі аспект ахоплівае далёка не ўсю сферу культуры. А справа ў апошняй выглядае далёка не ідэальна. Цяпер беларуская дыяспара ў Эстоніі з'яўляецца чацвёртай па колькасці і налічвае каля 14 тысяч чалавек. Чаму ж адбылося такое скарачэнне, амаль ў 2 разы? Хтосьці памёр, іншыя маглі з'ехаць. Але думаецца, частка дзяцей эмігрантаў пачала запісвацца рускімі або эстонцамі. Акрамя таго, беларусы ў другім ці трэцім пакаленні выхоўваюцца ў небеларускім асяроддзі і таму зусім не ведаюць родную мову. Гэта выклікала неабходнасць у адукацыі па-беларуску.

## Адукацыя

Першыя сувязі паміж адукацыйнымі ўстановамі Беларусі і Эстоніі ўсталяваліся яшчэ ў часы Расійскай імперыі. У прыватнасці, у 1898 — 1899 гадах у Тартускім універсітэце вучыўся дзеяч рэвалюцыйнага руху Пётр Карповіч, адзін з кіраўнікоў баявой арганізацыі эсэраў, а ў 1911-м установу скончыў гісторык і грамадскі дзеяч Усевалад Ігнатоўскі.

У незалежнай Эстоніі адукацыйныя сувязі з нашай краінай ажыццяўляюцца праз стварэнне ў Таліне Беларускага цэнтра ў Эстоніі. Пры ім дзейнічае Нядзельная школа беларускай культуры імя Уладзіміра Караткевіча, што размяшчаецца ў старым горадзе (адкрыццё адбылося ў 2010-м, калі адзначалася 80-годдзе з дня нараджэння пісьменніка). Дырэктар установы Артур Цурбакоў падзяліў праграму школы на дзве часткі. Першы этап накіраваны на вывучэнне нацыянальнай мовы да ступені поўнага разумення (пасіўнага валодання мовай) і знаёмства з культурай і гісторыяй краіны. Другі этап павінен "прасунуць" слухачоў школы да актыўнага валодання мовай у некаторых сферах побыту і паглыбленага вывучэння абраных вучнямі накірункаў гісторыі і культуры. Асновай для вывучэння Беларусі з'яўляюцца творы У. Караткевіча. Заўважым: школа, у якой займаюцца 26 чалавек ад 4 да 16 год, фінансуецца дзяржавай, якая аказвае вельмі значную дапамогу нацыянальным меншасцям (усяго ў Эстоніі існуе 23 нацыянальныя нядзельныя школы).

## Літаратура

Як беларуская літаратура прадстаўлена ў Эстоніі? Каб адказаць на гэтае пытанне, трэба вылучыць тры аспекты. Па-першае, фізічную прысутнасць пісьменнікаў у Эстоніі. У 1917 годзе ў Рэвелі (цяпер — Талін) у сям'і нашых суайчыннікаў нарадзіўся паэт Пімен Панчанка. А ў другой палове 1940-х гадоў на эстонскім сланцахімічным камбінаце працаваў пісьменнік Ян Скрыган (вызвалены пасля першага зняволення, ён не мог жыць у Беларусі. Таму выбраў Эстонію, каб быць бліжэй да Радзімы). У 1998-м у горадзеКівіылі яму ўсталяваны помнік. У Эстоніі жыве беларускамоўны пісьменнік Уладзімір Дзехцярук, аўтар кнігі вершаў і апавяданняў "Сярод белых эстонскіх начэй".

Па-другое, перакладчыцкі аспект. Прызнацца, пра існаванне беларускіх кніг на эстонскай мове даведаўся выпадкова. Вандруючы па Таліне, зайшоў у Рускі цэнтр Эстоніі, што размяшчаецца на Нарвенскай шашы. Не спадзеючыся на значныя адкрыцці, папрасіў гаспадара цэнтра, Аляксандра Дармідонтава, паглядзець што-небудзь з беларускай літаратуры. А калі завітаў тугы праз некалькі дзён, нечакана ўбачыў ажно сем беларускіх празаічных кніг на эстонскай. Гэта былі трылогія Якуба Коласа "На ростанях" у 2 кнігах (1-я і 2-я выйшлі адным выданнем), аповесці В. Быкава ў адной кнізе (там прысутнічалі "Абеліск" і "Трэцяя ракета"), "Тартак" І. Пташнікава, проза Я. Брыля (аповесць "Апошняя сустрэча"), "Людзі на балоце" і "Подых навальніцы" І. Мележа. Яшчэ адно нечаканае выданне знайшоў у талінскай кнігарні, размешчанай у цэнтры старога горада. У раздзеле рускамоўнай літаратуры адшукаў трохмоўнае выданне "Кургана" Янкі Купалы (на беларускай, рускай і эстонскай). Амаль усе творы былі перакладзены на эстонскую мову Олевам Йыгі (1919 — 1989). На жаль, пасля яго смерці перакладчыцкая прастора засталася незапоўненай.

Па-трэцяе, наяўнасць у краіне беларускіх кніг. Пры Нядзельнай школе імя У. Караткевіча існуе добрая бібліятэка, у якой прадстаўлена як беларуская класіка, так і сучасная літаратура. Адзначым дапамогу Іванаўскай раённай і Барысаўскай гарадской бібліятэк (чытачы перадалі ўстанове большую частку яе фонду). А таксама пасольства Беларусі ў Эстоніі, якое перадало падарункі ад Нацыянальнай бібліятэкі і ўзяло на сябе дастаўку выданняў у Талін. Іх прывезлі ў дзень народзін Караткевіча і ўрачыста перадалі ў дар бібліятэцы. Што датычыцца новых выданняў, дык госці часцей за ўсё прыязджаюць у Талін не з пустымі рукамі. Не стаў выключэннем і аўтар гэтых радкоў, які перадаў у бібліятэку навінкі беларускай прозы, паэзіі, краязнаўства з аўтографамі аўтараў.

## Тэатр

Сувязі паміж тэатрамі Беларусі і Эстоніі ўсталяваліся яшчэ ў савецкі перыяд. Акрамя таго, што ладзіліся традыцыйныя абменныя гастролі, эстонскія калектывы ставілі на сваёй сцэне п'есы К. Крапівы, А. Маўзона, А. Макаёнка, А. Дударава…

Цяпер у вядучых эстонскіх тэатрах выступаюць два беларускія выканаўцы. Так, балерына Алена Шкатула з'яўляецца адной з вядучых салістак Нацыянальнай оперы "Эстонія". Выпускніца Беларускага харэаграфічнага каледжа, яна ў 2003 — 2007 гадах танцавала ў трупе беларускага тэатра, выконвала партыю Ганны Парфіраароднай ("Рагнеда"), а таксама не надта вялікія ролі прынцэсы Фларыны ("Спячая прыгажуня") і Дульцынеі ("Дон Кіхот"). Потым артыстка перабралася ў Эстонію і цяпер танцуе арыгінальны рэпертуар. Напрыклад, амаль год таму адбылася прэм'ера балета "Манон" (харэаграфія сусветна знакамітага Кенета МакМілана), дзе балерына выканала галоўную партыю. "Алена Шкатула невыказна пяшчотная ў ролі Манон, зачароўваюць яе чыстыя лініі, выразныя рукі, — пісала мясцовая крытыка. — Яна будуе вобраз паступова, па паўтонах — ад наіўнай правінцыйнай дзяўчынкі да шыкоўнай дамы паўсвету — і, нарэшце, жанчыны, якая ўсвядоміла ўласную грахоўнасць. Яе Манон — ахвяра фатальных акалічнасцей і брата, якога яна любіць і імкнецца выконваць яго ўказанні".

У Рускім тэатры Эстоніі працуе беларус Аляксандр Сіняковіч. Выпускнік нашай Акадэміі мастацтваў (курс Лідзіі Манаковай), ён прадоўжыў вучобу ў Санкт-Пецярбургу. А ў 2009 годзе пачаў працаваць у тэатры. У кастрычніку мінулага года тут адбылася прэм'ера спектакля "Тры мушкецёры", дзе наш суайчыннік выканаў галоўную ролю д'Артаньяна.

## Эпілог

Зразумела, тэма, заяўленая ў назве, не можа быць выкладзена ў адным артыкуле. Дарэчы, пра жыццё беларусаў Эстоніі вы можаце даведацца з першых вуснаў. У эфіры эстонскай радыёстанцыі "Радыё-4" рэгулярна (кожныя тры першыя нядзелі штомесяц, з 19.15 да 20.00) выходзіць праграма "Бацькаўшчына" на беларускай мове. Яе вядучы Артур Цурбакоў знаёміць слухачоў з асноўнымі падзеямі беларускай культуры ў Эстоніі, гутарыць з цікавымі гасцямі, што прыехалі з Бацькаўшчыны. Перыядычна ў эфіры гучаць песні нацыянальных кампазітараў і ўрыўкі з нашых радыёспектакляў.

А лепш за ўсё самі наведайце Эстонію! Вашых уражанняў хопіць надоўга.

# Влада БЕРАЖНАЯ:
# «Без музыкі няма нічога»

**Яна мяркуе, што да музычнага мастацтва трэба далучаць з дзяцінства. Можа таму ў яе ўжо ёсць некалькі маленькіх вучняў, хаця яна сама яшчэ студэнтка. Студэнтка чацвёртага курса Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, лаўрэат спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі, пераможца міжнародных конкурсаў, адзіная выканаўца ў Беларусі, якой давяраюць скрыпку XVII стагоддзя работы італьянскага майстра Гварнеры… Влада Беражная.**



Ірына КАРЭЛІНА

**— Што ж, Влада, давай па парадку. З чаго пачалося тваё захапленне музыкай?**

— Мае бацькі — музыканты. Маці — канцэртмайстар, працуе ў Акадэміі музыкі і ў музычнай гімназіі-каледжы пры ёй. Бацька скончыў кансерваторыю, выкладаў у музычнай школе. Ён грае на мандаліне, домры, гітары, фартэпіяна, флейце… А цяпер асвойвае яшчэ і скрыпку! Бабуля з дзядулем таксама вельмі любяць музыку. Таму я нават не задумвалася, чым мне займацца. Не тое каб мяне прымушалі, проста з самага дзяцінства я "купалася" ў музыцы, разам з бацькамі наведвала спектаклі, канцэрты…

**— …і, канечне, бацькі аддалі сваё дзіця ў музычную школу…**

— Маці ведала, наколькі складана граць на скрыпцы, і адразу папярэдзіла мяне пра гэта. Я вырашыла паспрабаваць — пайшла ў дзіцячую музычную школу № 2, а потым — у гімназію-каледж пры Акадэміі музыкі. Мне вельмі пашанцавала з педагогамі — Жаннай Аркадзьеўнай і Эдуардам Віктаравічам Кучынскімі. Трэба сказаць, што каледж — гэта асобны свет… Дасведчаныя выкладчыкі, сапраўды прафесійная падрыхтоўка, сустрэчы, канцэрты, капуснікі… За 12 гадоў мы сталі адной вялікай сям'ёй.

**— Калі ты ўпершыню паспрабавала свае сілы ў конкурсах?**

— Я ўдзельнічала ў розных конкурсах, у тым ліку міжнародных. Але, шчыра кажучы, я іх не люблю. Музыка — гэта не спорт, таму ацэньваць яе па прынцыпе "далей скокнуў — хутчэй прабег" немагчыма. У музыцы ўсё вельмі суб'ектыўна. Іншая справа — падрыхтоўка да конкурсу: гэта магутны стымул.

**— Раскажы пра свой удзел у міжнародных фестывалях Юрыя Башмета.**

— Больш за ўсё мне запомніўся фестываль у 2008 годзе, калі ў Мінск прывезлі пяць знакамітых скрыпак: Страдывары, Гварнеры, Мантаньяна, Гваданіні. Іх агульны кошт — 12,5 мільёна долараў. Я рада, што ў мяне была магчымасць убачыць рарытэтныя інструменты, у якіх такая багатая гісторыя… Мы нават гралі на іх, так-так, нам дазволілі сыграць канцэрт на гэтых скрыпках! Калі ты трымаеш у руках такі інструмент, думаеш не пра тое, колькі ён каштуе, а колькі яму стагоддзяў, наколькі ўнікальная гэта рэч… Тыя два дні я не забуду ніколі.

**— Влада, хто з музыкантаў з'яўляецца для цябе прыкладам?**

— Я б вылучыла буйнога музыканта савецкай школы Давіда Ойстраха. Бясспрэчна, гэта эталон для ўсіх скрыпачоў. Яго адметнасць не толькі ў віртуознай тэхнічнасці, але і ў сапраўднай эмацыйнай самааддачы. Ойстрах быў вялікім скрыпачом, педагогам. Ён граў не таму, што так было патрэбна, а таму, што не мог без музыкі — гэта было яго жыццё. Я стараюся слухаць як мага больш выканаўцаў, гэта ўзбагачае і дае добры стымул да развіцця. З сучасных скрыпачоў мне бліжэй за ўсіх Вадзім Рэпін і Ганна Сафі-Мутэр.

**— А каго б ты вылучыла са свайго музычнага асяроддзя?**

— Калі я вучылася ў каледжы, узорам адданасці мастацтву стаў для мяне Арцём Шышкоў. Ён выдатны скрыпач і цудоўны чалавек.

**— А як жа канкурэнцыя?**

— Для мяне слова "канкурэнцыя" ў дачыненні да музыкі наогул не існуе. Калі побач ёсць той, хто таксама грае, і грае добра, то гэта толькі шчасце. Навошта імкнуцца даказаць, хто лепей? Кампазітары пісалі сваю музыку для таго, каб яна гучала, а не для таго, каб хтосьці адзін граў яе лепей за ўсіх астатніх.

**— Сама пішаш музыку?**

— Калі была маленькая, спрабавала пісаць. Зразумела, што атрымліваліся зусім дзіцячыя, несур'ёзныя сачыненні… А цяпер не пішу.

**— Як ты лічыш, што важней для музыканта: дар ад нараджэння ці руплівая праца над сабой?**

— Думаю, і тое і другое. Натуральна, без таленту, колькі ні працуй, значных поспехаў дасягнуць складана. А калі ты самародак, тым больш трэба шмат займацца, каб найпаўней раскрыць свой дар. Музыка — гэта каласальная праца.

**— Колькі часу ты адводзіш музычным практыкаванням?**

— Калі рыхтуюся да канцэрта ці конкурсу, то, бывае, і цэлы дзень. Бо заняткі — гэта не толькі ігра на інструменце. Слухаць музыку, аналізаваць яе, думаць пра яе — гэта таксама свайго роду навучанне. Наогул, доўга займацца фізічна цяжка. Калі я бяру ў рукі скрыпку, то не магу проста адпрацоўваць тэхнічныя прыёмы. Я пачынаю граць вельмі эмацыйна, выкладацца на поўную сілу. Часам перад канцэртамі я граю на скрыпцы ў сне.

**— Раскажы пра калектыў, з якім ты выступаеш цяпер.**

— Я шмат граю ў ансамблях, у розных складах: дуэт, трыа, квартэт, квінтэт… 11 студзеня ў Малой зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбыўся канцэрт зусім маладога калектыву, ансамбля салістаў. Чаму так? Кожны з нас можа ўстаць і сыграць сольна. Гэта камерны аркестр з 17 чалавек — усе таленавітыя, здольныя. Мы стварылі гэты калектыў крыху больш як год таму, займаемся з энтузіязмам, вялікую творчую дапамогу нам аказвае прафесар Эдуард Кучынскі. У праграме — творы Вівальдзі, Мендэльсона, Грыга, Гендэля, Чайкоўскага. Калі ўсё атрымаецца, рэпертуар плануем пашырыць. Хочацца выконваць штосьці арыгінальнае, новае.

**— Як табе наша публіка?**

— Цудоўна. Хаця ў Беларусі граць складана, бо ўсе музыканты ведаюць адзін аднаго, а перад сваімі выступаеш заўсёды з большым хваляваннем. З аднаго боку, адчуваецца падтрымка, з іншага — ты ўсведамляеш вялікую адказнасць перад такой дасведчанай публікай. Канечне, ёсць людзі, якія не маюць аніякага дачынення да прафесійнай музыкі, але вельмі любяць класіку і ходзяць на ўсе канцэрты. Часам яны падыходзяць і кажуць: "Я вас ведаю, вы гралі тое і тое, нам вельмі спадабалася". І магчыма, мне толькі здаецца, але апошнім часам такіх людзей стала крыху больш. Філармонія часцей збірае поўную залу. Я разумею, што класічная музыка — гэта элітарнае мастацтва, але мне б хацелася, каб як мага больш людзей духоўна далучаліся да яго. Музыка — гэта вельмі важна. Без музыкі няма нічога.

---

**Лупцаваць мастацтвам стэрэатыпы — справа складаная, няўдзячная. Аднак, калі чалавек бярэцца за яе, гэта выклікае павагу і зацікаўленасць. Мінскі фотамастак Дзіна Коцікава не з тых, чыя творчасць — салодкі самапіяр. Наадварот. Пры падтрымцы арганізацыі "Пазітыўны рух" яна ў снежні зладзіла аўтарскую выстаўку "Веды пра ВІЧ", месэдж якой — жаданне параіць у хворым на ВІЧ убачыць перш-наперш не заганнага і слабога, а нармальнага чалавека, які таксама гойсае з горак на ровары і можа адчуць шчасце сямейнага жыцця.**



Тарас ШЧЫРЫ,
фота Дар'і Буракінай

# Дэбют Дзіны

— Ведаеце, прага фатаграфаваць у мяне ад дзядулі, які быў фатографам, — пазіраючы на свае здымкі, пачынае ўласную гісторыю Дзіна Коцікава. — Я з замілаваннем разглядала яговыя фота ў хатніх альбомах, але не думала, што гэтае захапленне пяройдзе да мяне. Аднак прайшоў час — і я сама пачала здымаць. Шмат вандравала. Рабіла фотаздымкі ў Інданезіі, Арабскіх Эміратах. Фатаграфавалася па чарзе з сяброўкай. З гэтага і пачынала. А цяпер мяне найперш цікавяць партрэты, макраздымкі.

**— Выстаўка "Веды пра ВІЧ" для вас праект дэбютны.**

— Так, гэта першы праект, які я адважылася зрабіць. Сама дзіўлюся, што ён у мяне атрымаўся. Бо акрамя здымкаў разам з Татай Краўцовай я рабіла подпісы да іх, збірала гісторыі, якія распавядаюць пра лёс герояў праекта. Працы было шмат. І рабілася гэта не за некалькі месяцаў, а за два гады. Дзякуючы гэтай працы я здолела паверыць у свае магчымасці — зрабіла ўсё, на што была здольная.

**— У першым жа праекце вы ўздымаеце даволі важную праблему: існаванне хворых на ВІЧ людзей у нашым грамадстве. Не кожны фатограф, тым больш дэбютант, возьмецца за такую тэму. Адкуль жаданне?**

— Ужо чацвёрты год я супрацоўнічаю з арганізацыяй "Пазітыўны рух", якая аказвае псіхасацыяльную падтрымку людзям з ВІЧ і тым, хто трапіў у залежнасць ад наркотыкаў. У мяне з'явілася шмат знаёмых сярод хворых, і з часам я ўбачыла, як людзі жывуць з гэтым статусам, даведалася, што пра вірус думаюць іншыя. Цікава, але многія нават не бачаць розніцы паміж ВІЧ і СНІД. Яны проста атаясамліваюць гэтыя паняцці. Лічаць, што ў ВІЧ-пазітыўных ёсць пэўныя знешнія рысы, якія сведчаць, што гэта хворы. З такімі ўнутранымі ўстаноўкамі даводзіцца змагацца.

**— Фотапраект распавядае пра лёсы тых, хто жыве з ВІЧ. Раней шырокая аўдыторыя пра боль гэтых людзей не ведала, а цяпер на вашых здымках іх убачыла добрая колькасць наведвальнікаў. Ці паўставалі ў вашай працы этычныя пытанні?**

— Безумоўна. Былі і тыя, хто адмаўляўся, палохаўся, думаў, што грамадства не прыме іх. Але знайшліся тыя, хто згадзіўся, некаторыя нават прыйшлі на адкрыццё, распавялі пра сваю праблему. З большасцю герояў я пазнаёмілася на спецыялізаваных семінарах. Пасля прапанавала пафатаграфаваць іх. Спачатку згадзіліся жанчыны, якія пасля далучылі да праекта мужоў, а адна маці нават прывяла сваю дачку. Было нялёгка, але гэты досвед стаў для мяне вельмі карысным у жыцці.

**— На вашых фота — звычайнае жыццё і ніякіх згадак пра хваробу…**

— Я паспрабавала перадаць адчуванне супакою. Ёсць кадры, дзе героі глядзяць проста ў вочы гледачам, то бок узнікае своеасаблівы дыялог. Гэта рабілася наўмысна, каб не паказваць ВІЧ як радасць альбо перайтараць усё ў татальную горыч.

*Дзіна Коцікава — фатограф. Нарадзілася ў Мінску, мае педагагічную адукацыю. У 2010 годзе заняла ганаровае месца на Міжнародным фотаконкурсе Глабальнага фонду ЮНЭЙДС. Захапляецца кінематографам Крыстофера Нолана, спевамі Аліны Арловай і творамі французскага пісьменніка Бернара Вербера. З 2008-га працуе ў арганізацыі "Пазітыўны рух".*

**— Цікава, а ці былі тыя, хто ўбачыў у вашых здымках дэструктыўнае мастацтва?**

— У кнізе водгукаў даволі шмат ветлівых выказванняў. Мяне гэта вельмі ўсцешвае. Алё ёсць і такі водгук: "Гэта проста абуральна! Вы прапагандуеце бяспеку ВІЧ". Толькі я не бачу тут ніякай прапаганды, разбуральнага мастацтва. Мы проста кажам, што гэта хвароба небяспечная, ад яе трэба засцерагацца. А чалавек, які прымае тэрапію, не з'яўляецца небяспечным для грамадства. Ёсць людзі, якія да гэтага ставяцца лаяльна, а іншыя не жадаюць ведаць нічога.

**— У такім выпадку вам не здаецца, што праект — гэта донкіхотаўская барацьба з ветракамі?**

— Не пагаджуся. Бо ёсць тыя наведвальнікі, якія ўпусцілі гэтую праблему ў сэрца, душу, а гэта азначае, што мэта дасягнута. Яны будуць распавядаць сваім сябрам, знаёмым. У людзей будзе мяняцца светапогляд у дадзеным кірунку.

**— Тэма важная і можа мець працяг у творчасці. А ці не хацелася вам папрацаваць і ў іншых напрамках?**

— Цяпер мы збіраемся арганізаваць выставу ў Светлагорску, у іншых буйных гарадах Беларусі. Дарэчы, гэта ўжо не першы падобны праект "Пазітыўнага руху". Але раней у праектах было задзейнічана не так шмат герояў. Што да мяне, то я не збіраюся абмяжоўвацца гэтай праблематыкай. Я люблю сямейныя фотаздымкі (мне здаецца, што гэтай добрай традыцыі нам сёння не хапае: сямейных фота, якія можна было б пакінуць нашчадкам, у нас няшмат). Мне хочацца папрацаваць менавіта ў гэтым напрамку. Ну, а калі будзе добры вынік, то і выстаўку арганізаваць можна. Я буду не супраць.



**Маладыя выкладчыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў прадставілі свае работы пад ужо знаёмай рубрыкай "Тры ў адным". Новы праект, наладжаны ў мастацкай галерэі "Універсітэт культуры", склалі персанальныя выстаўкі Дзяніса Барсукова, Ксеніі Дзягілевай-Бляевай і творчага дуэта Людмілы Дамнянковай ды Наталлі Аджзер.**



# Мажорны смак жыцця

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота аўтара**

**Рэтраспектывай** жывапісу Дзяніса Барсукова, вядомага таксама сваімі работамі ў іншых відах выяўленчага мастацтва, сталася выстаўка "13". Не варта шукаць у самой назве сакральны сэнс: гэта проста лічба, якая фіксуе колькасць карцін, уключаных у экспазіцыю. А вось іх падбор скрупулёзна прадуманы: кожная работа звязаная з пэўным перыядам развіцця творчасці мастака за апошнія сем гадоў. Пры ўдумлівым разглядзе і параўнанні лаканічных і, здавалася б, знарочыста немудрагелістых, праслкнутых цеплынёй добрай усмешкі кампазіцый Д. Барсукова можна прасачыць градацыі яго жывапісных прыхільнасцей і захапленняў — ад постімпрэсіянізму да наіўнага мастацтва, ад глыбіннага ўплыву традыцый народнай дэкаратыўна-прыкладной творчасці да асэнсавання сучасных авангардных стыляў. Пазнавальнасць аўтарскага почырку — у імпульсіўнай манеры пазначаць контур і маляўнічыя акцэнты; у імкненні абстрагавацца ад неістотных дэталяў, супастаўляць, абыгрываць і гарманізаваць адкрытыя, часам "смачна" яркія колеры; арганізоўваць дэкаратыўны прадметны свет на палатне з адмысловай логікай дызайнерскага густу.

Праз нешматслоўнасць мастацкага выказвання дасягаецца сэнсавая афарыстычнасць выявы ("Дрэва шчасця", "Чалавек і мора", "Я п'ю з цукрам"). Праз імпрэсію колеру і наўмысную спрошчанасць малюнка нібы аднаўляюцца чысціня, свежасць і яскравасць дзіцячага ўспрымання звыклых рэчаў у штодзённасці, адчуваецца шчырае захапленне мастака самім жыццём ("Снеданне на лецішчы", "Восеньскі вецер", "Царква і аэраплан"). Нават у дысгарманічным сюжэце з рознакаляровымі, не па-дзіцячы агрэсіўнымі, выбуханоснымі папяровымі караблікамі ("Апакаліпсіс") адсутнічае безвыходная дэструктыўнасць, а ёсць неадступная трывога, сігнал перасцярогі, зварот да здаровага сэнсу ў прадчуванні вялікай небяспекі. Няма гнятлівай адзіноты ў паўночнай сцішанасці самотнага аранжавага коціка ("Пагладзь мяне"), бо гэты кранальны вобраз выпраменьвае такую абаяльнасць, пяшчоту і душэўную цеплыню!

**Пазітыўным** успрыманнем свету, радасцю жыцця ў яго будзённых праявах, удзячнасцю за кожны новы дзень як за вялікі падарунак уразіў жывапіс Ксеніі Дзягілевай-Бляевай, прадстаўлены пад назваю "Сустрэча". Партрэты, нацюрморты, пейзажы, тэматычныя палотны, узоры іканапісу — карціны розных гадоў зніталі лейтматыў: "Сустрэча з жыццём — цудоўны шанц". У ланцужку сустрэч — вобраз дарагога чалавека, таямніца знаёмага твару, спыненае імгненне фантазіі, хатнія рэчы, сямейная ідылія, цуд натхнення. Напэўна, і жывапіс для мастачкі — цудоўны шанц выказаць у творчым парыванні глыбокую, а таму някідкую любоў да самых-самых блізкіх: маці — вядомай актрысы і рэжысёра Галіны Дзягілевай ("Бенефіс"), шасцярых дзяцей ("Лявон" ды інш.), мужа — таленавітага гукарэжысёра Валерыя Бляева ("Партрэт").

**Смак да Жыцця**, вытанчаны густ, мудрасць творчай задумы плюс майстэрства — складнікі поспеху дуэта Людмілы Дамнянковай ды Наталлі Аджзер, мастакоў па тэкстылі. Назву сваёй выстаўкі "Дзень пры дні" яны падтрымалі эпіграфам з Эклезіяста: пра тое, што род праходзіць і род прыходзіць, а зямля існуе спрадвек; што і вецер вяртаецца на кругі свае; што мора ніколі не перапаўняецца, бо рэкі, якія цякуць у яго, вяртаюцца да сваіх вытокаў і зноў імкнуцца да мора; што ўсе рэчы ў працы і не спатоліцца вока зрокам і не напоўніцца вуха слуханнем... Абудзіўшы да крэатыўнага жыцця тэхніку старажытнага лямцавага рамяства, мастачкі пашырылі ўспрыманне першароднай традыцыі. Іх аб'екты, створаныя з цёплага натуральнага матэрыялу, "правакуюць" на тактыльны кантакт і філасофскае суіранне. У кампазіцыях Л. Дамнянковай ды Н. Аджзер выяўляюцца замкнёнасць і няспынная цыклічнасць быцця, чорна-белая рытміка яго законаў — праз першапачатковую загадкавасць нераскрытага бутона ды бясконцасць выпрастанага палатна жыцця.

***На здымках: Ксенія Дзягілева-Бляева "Партрэт"; Дзяніс Барсукоў "Пейзаж з жоўтым домам".***



***На здымку: Іван Салавей "Па пуцёўках камсамола" (палатно, алей).***

# Не шукаў лёсу сталічнага

**Галоўны скарб уздзенскай зямлі — працавітыя, творчыя і адораныя людзі. Дзякуючы ім пра наш край ведаюць і за мяжой. Адна з такіх адметных постацей у гісторыі Уздзеншчыны — мастак Іван Салавей (1918 — 1988).**

**Вера ЛУКАШЭВІЧ**

Нарадзіўся Іван Аляксандравіч у вёсцы Баравыя Лашанскага сельсавета. Рос у прыгожым асяроддзі родных краявідаў. Са школьных гадоў ён пастаянна нешта маляваў у сшытачку, які заўсёды насіў з сабой. Пасля школы паступіў у Віцебскае мастацкае вучылішча, дзе адным з настаўнікаў быў такі майстар, як Л. Лейтман.

Івана Аляксандравіча не абмінула вайна. Франтавыя гады пакінулі шмат драматычных падзей. Але гэта не перашкодзіла яго творчасці. Пасля вайны І. Салавей працаваў у розных жанрах жывапісу: пейзажы, нацюрморце, партрэце, сюжэтна-тэматычнай карціне. З 1947 года пачаў актыўна ўдзельнічаць у рэспубліканскіх выстаўках.

Асабліва кранаюць душу пейзажы Івана Салаўя, напісаныя шчыра, захапляльна, з вялікай любоўю да роднай старонкі. Гэта "Бярозавы гай", "Зімні вечар", "Кліч аленя", "На досвітку", "Зубры", "Краявіды Загоршчыны" і іншыя. Сярод сюжэтна-тэматычных палотнаў вылучаюцца "На вадапоі", "Папараць-кветка", "Закаханыя", "Кірмаш ва Уздзе"... Але больш за ўсё любіў мастак пісаць партрэты сваіх вяскоўых сяброў, якія дарыў ім на добрую памяць. Такія работы і сёння можна ўбачыць у хатах яго землякоў. У 1959 годзе І. Салавей стаў членам Саюза мастакоў БССР.

Мастак пакінуў багатую творчую спадчыну, і вельмі прыемна, што яго жывапісныя творы можна ўбачыць у мастацкай галерэі Лашанскай сельскай бібліятэкі.

У кнізе "Наднёманскімі пуцявінамі" краязнаўца Уладзімір Кісялёў так напісаў пра уздзенскага жывапісца: "Не шукаў мастак для сябе пераваг сталічнага жыцця, жыў увесь час у сваёй вёсцы. Быў блізкі да людзей. Цяпер ім служаць яго творы".

Мінулай восенню ў мастацкую галерэю Івана Салаўя завіталі сябры і калегі яго нявесткі Людмілы Салавей, якая дваццаць гадоў таму вырашыла зладзіць у Лашанскай сельскай бібліятэцы выстаўку карцін свёкра. Але на задуманым не спынілася. І сёння выставачная зала нагадвае не толькі карцінную галерэю, але і творчую майстэрню, у якой захавана памяць пра таленавітага ўраджэнца уздзенскай зямлі. Мастацкая галерэя — вынік шматгадовай карпатлівай работы Людмілы Васільеўны, якая творча і плённа працавала тут бібліятэкарам. Яна ўспамінае:

— У 1991 годзе была адкрыта гэтая выставачная зала. Мастакі Уздзеншчыны былі вельмі ўдзячныя нам, лашанцам, за тое, што мы размясцілі тут творы Івана Салаўя. За 20 гадоў галерэю наведалі сотні, тысячы людзей. Таленту нашага земляка ішлі пакланіцца ўсе: вучні Лашанскай школы і школ раёна, аднавяскоўцы, яго сябры, сыны, унукі. Наведвалі нас і такія зная людзі, як краязнаўца Уладзімір Кісялёў, паэт Рыгор Сакалоўскі, этнограф Янка Крук, англійскія госці. Усе падзякавалі нам за тое, што захоўваем памяць пра свайго земляка. Тут ладзіліся розныя семінары раённага і абласнога ўзроўняў, краязнаўчыя ўрокі, сустрэчы з ветэранамі, урокі мастацтва. Мне вельмі прыемна, што гэтыя традыцыі цяпер працягвае Ганна Сташэўская. Наш зямляк пакінуў цудоўную спадчыну, якую мы будзем захоўваць і перадаваць.

**Аляксандр ЮДЗІЦКІ, фота Віктара Кавалёва**

# Ёсць у Брэсце майстар

**Пачатак 2012 года расквітнеў для мяне фарбамі двайнога навагодняга падарунка ад дзівоснага, улюбёнага ў жыццё чалавека. Падарункам гэтым стаў, па-першае, каляровы альбом рэпрадукцый вядомага брэсцкага мастака "Пётр Данелія. Жывапіс. Графіка". Удзячны я аўтару работ і за цёплы надпіс на ім, адрасаваны асабіста мне.**

Убачыла свет гэтае выданне пад эгідай Брэсцкага абласнога выканаўчага камітэта пры канцы мінулага года.

Адкрываюць альбом некалькі сямейных фотаздымкаў: ад старога, на якім адлюстраваны бацькі з кучаравым сыночкам Пецем, да добра знаёмага брастаўчанам ужо многія дзесяцігоддзі вобраза мастака ў берэце — з пэндзлем, за работай.

З прыведзеных дат біяграфіі майстра вылучу такія: 1939 — 1945 — служба ў Чырвонай Арміі, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, узнагароджаны ордэнам Вялікай Айчыннай вайны II ступені, медалямі. 1946 — адзін з заснавальнікаў Брэсцкай абласной арганізацыі Саюза мастакоў БССР. 1971 — 1977, 1992 — 1994 — старшыня праўлення абласной арганізацыі Саюза мастакоў Беларусі. З 1946 — удзельнік мастацкіх выставак на радзіме і ў Англіі, Балгарыі, Галандыі, Германіі, Латвіі, Літве, Польшчы, Румыніі, Чэхаславакіі, іншых краінах. Ярка і захапляльна пра жыццёвы шлях выдатнага жывапісца, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі распавёў у прадмове мастацтвазнаўца, крытык, журналіст Барыс Крэпак.

Сімвалічна, на мой погляд, што адкрывае альбом "Партрэт маці" (1947). А некаторыя работы нават сваімі назвамі здатныя захапіць, завабіць гледача ў свет данеліеўскіх пейзажаў і тэматычных сюжэтаў жывапісных карцін і графічных аркушаў, якія "спыняюць" цудоўныя і трагічныя імгненні чалавечага быцця: "У Белавежскай пушчы" (1951), "Апаленая вайной" (1952), "Зімовая казка" (1956 — 1967), "Інтэр'ер царквы Брэсцкай крэпасці" (1958), "Сустрэча з памяццю" (1957), "Беларуская мелодыя" (1972), "Гімнастка" (1983), "Імгненні" (2007), "Ветэран Вялікай Айчыннай вайны" (2007), "На ўскрайку Брэста" (1957), "Брэсцкі порт" (1963), "Плывуць аблокі" (1957), "Вечар у сэрбры" (1977), "На Брэстчыне" (2001)...

Мне пашчасціла вось ужо дзесяць гадоў блізка ведаць Пятра Аляксеевіча, перыядычна сустракацца з ім, бываць у яго майстэрні, бачыць за работай. Заўсёды любуюся, радуюся, перажываю, разглядаючы яго карціны на выстаўках, услухоўваюся ў яго разважанні падчас творчых сустрэч. І дзіўлюся яго творчай нястомнасці.



***На здымку: Пётр Данелія "Навальнічная трывожнасць" (палатно, алей).***



# Свой сярод сваіх. Назаўжды...

**Першы дзень гэтага тыдня азмрочыла горкая навіна: памёр скульптар Уладзімір Жбанаў. Рэаніматолагі некалькі сутак змагаліся за яго жыццё, аднак...**

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

26 студзеня яму споўнілася б 58. Няшмат, але не так і мала. За свае гады У. Жбанаў, ураджэнец Мінска, набыў грунтоўную прафесійную адукацыю (Мінскае мастацкае вучылішча імя А. Глебава, Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут), удасканаліў яе ў творчых майстэрнях Акадэміі мастацтваў СССР, папрацаваў выкладчыкам у роднай "Глебаўцы". А яшчэ ён, сын вайскоўца, адслужыў у Афганістане...

Зрэшты, для мастака ўзрост — паняцце адноснае. Пакуль творца працуе, ён — малады. А працаваў У. Жбанаў (дарэчы, апантана захоплены лепкай змалку) з неверагоднай энергіяй, зайздроснай фантазіяй да самых апошніх сваіх дзён. У 1993-м ён уступіў у Беларускі саюз мастакоў і праз нейкі час напоўніцу прысвяціў сябе творчасці, вынікі якой, можна без перабольшвання сцвярджаць, ведае кожны. Невыпадкова ж Уладзіміра Жбанава называюць "самым народным" сярод беларускіх скульптараў.

Камусьці з яго калег пашанцавала "зрабіць сабе імя" дзякуючы ўдзелу ў манументальнай прапагандзе, выкананню прэстыжных афіцыйных заказаў. Жбанаў жа набыў папулярнасць як майстар такога нязвыклага для колішняга савецкага асяроддзя, але такога дэмакратычнага, даходлівага і прыцягальнага віду творчасці, як гарадская жанравая, паркавая скульптура.

Памятаеце, які шырокі розгалас выклікала з'яўленне на лаўцы ў сталічным прывакзальным Міхайлаўскім скверы загадкавай бронзавай "Незнаёмкі"? А пазней, тамсама, — рамантычнай "Дзяўчынкі з парасонам"? І шаржаванай постаці стылягі Лахоўскага?.. Пасля рэканструкцыі Камароўскага рынку ў полі зроку наведвальнікаў апынуліся дама з сабачкам і фатограф, таўстуха з семкамі, што расселася на прыступках ля ўвахода ў галоўны павільён, ды рахманы конь ля фантана — цяпер нязменны ўлюбёнец дзятвы. Праз нейкі час у цэнтры Мінска, ля ўзноўленай ратушы, з лёгкай рукі У. Жбанава з'явіўся старасвецкі экіпаж, які спакушае на ўяўнае вандраванне ў часе і прасторы нават ссівелых дзядкоў.

А хто ж не ведае рэтра-паштальёна, які прыпыніў свой ровар непадалёк ад сталічнага кінатэатра "Кастрычнік", ці мудрага дойліда ля плошчы Незалежнасці, або шчаслівую сям'ю побач з вітрынамі ЦУМа!.. У горад Ліду прыехаў "Камандзіраваны" — ды



атабарыўся са сваім чамаданам ля ўвахода ў гасцініцу; у Магілёве, спешчаным візітамі артзорак, прызямліўся містычны адмыслоўца па ўліку нябесных свяцілаў. Скульптуры У. Жбанава ёсць у Бабруйску, у гарадах Германіі, Расіі, Украіны...

Творчасць мастака, які заняў і паспяхова асвоіў доўгі час вакантную нішу ў культурным жыцці сённяшняга грамадства, часта суправаджалася спрэчкамі. Якія баталіі ўсчаліся мінулым летам вакол рамантычнай жбанаўскай кампазіцыі "Залаты трыліснік", створанай паводле беларускіх фальклорных, у прыватнасці, купальскіх, матываў для новага фантана ў цэнтры Маладзечна! На шчасце, ваяўнічаму ханжаству не дазволілі весці рэй кампетэнтнасць спецыялістаў, малады крэатыўны дух, перспектыўнае адчуванне часу і мудры здаровы сэнс. Фантан з новай работай папулярнага скульптара ўпрыгожыў атмасферу свята "Дажынкі-2011".

Між іншым, памыляецца той, хто называе "Залаты трылісні" апошняй рэалізаванай задумай незабыўнага творцы. Нядаўна давялося ўбачыць у маладзечанскай "Рэгіянальнай газеце" разгорнуты фотарэпартаж Святланы Цішко са старога квартала горада — пра тое, як усталёўвалі там адмысловы помнік. Так, напярэдадні сёлетняй зімы, 28 лістапада 2011 года, у Маладзечне з'явілася бронзавая скульптура "Вястун": у ёй У. Жбанаў увасобіў "інфарматара" з далёкага XIV стагоддзя, які звяртаецца да месцічаў з граматай. На бронзавым скрутку гэтага сімвалічнага дакумента — цытата з прысяжнага ліста князя Дзмітрыя Карыбута да вялікага князя Ягайлы, дзе ўпершыню ўзгадваецца Маладзечна: "... а дана грамота в Молодечно в середу декабря 16 день... в лето божье 1388"...

Набліжанасць да жыцця,назіральнасць, захапленне прыгожым, самабытны гумар — усё гэта ўласціва творчасці Уладзіміра Жбанава, які назаўжды застанецца сярод людзей. Бо створаныя ім візуальныя вобразы, чалавечыя тыпажы, што нібыта выйшлі са стракатай плыні часоў і арганічна ўпісаліся ў сённяшні шматаблічны людскі натоўп, зрабіліся часткай нашай рэальнасці.

*На здымках: Уладзімір Жбанаў і адна з апошніх яго работ "Вястун".*

*Фота з інтэрнэту*

**Вяртанне да сваіх каранёў, любоў да роднай зямлі, пачуццё меры і гармоніі адчуваліся ў работах удзельнікаў мастацкай выстаўкі "З песень жыцця", наладжанай у Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы. Экспанаваліся творы мастакоў, якія з'яўляюцца прадстаўнікамі трох пакаленняў.**



# Натхнёныя Купалам

**Раіса МАРЧУК, фота аўтара**

Валянціна Бартлава, Алена Обадава, Вераніка Багачова — майстры мастацкага тэкстылю. Яны творча, са своеасаблівым акцэнтам на форме і матэрыяле, з густам прачыталі паэтычныя радкі Янкі Купалы, стварыўшы арыгінальныя ўзоры ў тэхніках габелену, эксперыментальнага тэкстылю, падвойнага ткацтва, лямцу.

Валянціна Бартлава — загадчык кафедры касцюма і тэкстылю факультэта дызайну і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, вядомы майстар габелену і сцэнічнага касцюма, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі за распрацоўку габеленаў для Палаца Рэспублікі, член Беларускага саюза мастакоў. Менавіта яна, улюбёная ў творчасць Янкі Купалы, прапанавала свaім былым студэнтам, а цяпер супрацоўнікам кафедры касцюма і тэкстылю, арганізаваць выстаўку па яго матывах.

Вераніка Багачова скончыла сёлета БДАМ, цяпер з'яўляецца магістрантам акадэміі і выкладае на кафедры касцюма і тэкстылю. Ужо на працягу шасці гадоў яна ўдзельнічае ў рэспубліканскіх і міжнародных конкурсах і выстаўках, дзе прадстаўляе свае творы.

Алена Обадава мае за плячыма 14 гадоў самастойнай творчасці і ўдзелу ў выстаўках розных узроўняў. Лаўрэат прэміі прадстаўніцтва Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Рэспубліцы Беларусь, член Беларускага саюза мастакоў. Што натхняе мастачку?

— У кожнага чалавека ёсць свой унутраны свет, а мастак здатны паказаць часцінку гэтага свету праз свае работы, — распавяла Алена. — Паколькі я працую з тканінамі, то імкнуся праз тэкстыль размаўляць з гледачамі. Удзел у выстаўках — гэта для мяне магчымасць прадэманстраваць уласны погляд на рэчаіснасць, сусвет, і паспрабаваць наблізіць зацікаўленых да свайго бачання сэнсу ўсяго навакольнага, паказаць гэта, магчыма, з нечаканага боку. Кожнае наведванне выставак пакідае свой адбітак. Людзі выходзяць з залы трошку іншымі, іх іншасць залежыць ад таго, якія ўражанні яны атрымалі. Хацелася б праз свае работы зрабіць свет крыху лепшым, каб мы ўспрымалі рэчаіснасць больш пазітыўна, былі дабрэйшымі адно да аднаго, бачылі за тым, што адбываецца кожны дзень, нейкае развіццё.

У работах "Патокі" мы бачым рух у прасторы, бо нішто не стаіць на месцы, менавіта гэта і хацелася мне перадаць. Чаму атрымалася серыя? Я адчула, што творчы працэс не скончаны з выкананнем аднаго габелена, і можна развіваць гэтую тэму далей. Тое ж самае з серыяй "Стыхія ў лабірынце", якая складаецца пакуль з двух палотнаў. Але, магчыма, будуць і іншыя.

— Які ўплыў зрабіла на вас традыцыйная творчасць беларусаў? — пацікавілася ў мастачкі.

— Безумоўна, вялікі, — адказала Алена. — Прынамсі, шэраг маіх работ выкананы ў традыцыйных народных тэхніках: вытканы на кроснах, на якіх працавалі нашы бабулі. На гэтай выстаўцы ў якасці выразных сродкаў у работах "Лабірынты" я выкарыстоўвала падвойнае ткацтва. Маё крэда — праз традыцыю знайсці сучасныя хады і вырашэнні. Мы жывём сёння, але не адарваныя ад мінулага. Добра, калі мастак можа адлюстраваць рысы традыцыі, але разам з тым выйсці на новыя формы і сэнсавае напаўненне, адпаведныя часу. Такое спалучэнне дазваляе захаваць карані і застацца сучасным.

***На здымку: габелен Веранікі Багачовай "Нябесны горад".***



# Імя і спадчына

**Алег АНАНЬЕЎ**

Гомельская абласная ўніверсальная бібліятэка імя У. І. Леніна ажыццявіла адметны праект, які прадставіў творчасць дынастыі мастакоў Шклеравых. У лістападзе 2010 года знакамітаму Веткаўскаму музею народнай творчасці надалі імя яго заснавальніка Фёдара Шклярава. Намаганнямі гэтага чалавека 1 лістапада 1987-га быў адкрыты ўнікальны музей, які прадставіў наведвальнікам рукапісныя і стардрукаваныя кнігі XVI — XX стагоддзяў, стараверскія і праваслаўныя народныя абразы, творы старажытных рамёстваў. Гэтая скарбніца складалася з 400 рарытэтаў, якія сабраў Ф. Шкляраў (1925 — 1988). Ужо мала хто памятае, што Фёдар Рыгоравіч быў і выдатны мастак. Дык вось, унікальная выстаўка, арганізаваная ў абласной бібліятэцы, уключае каля 50 твораў: жывапіс, графіка, фатаграфія, плакат, і большасць з іх — пейзажы Фёдара Шклярава, якія раней нідзе не экспанаваліся. Самабытныя пейзажы Шклярава-старэйшага апяваюць прыроду Веткаўшчыны. Выкананыя ў рэалістычнай манеры, яны захапляюць сваім сакавітым каларытам.

Душэўнымі ўспамінамі пра Фёдара Шклярава падзялілася Галіна Нячаева — цяперашні дырэктар Веткаўскага музея народнай творчасці, натхнёная аматарка народных традыцый, якія яна, прафесійны мастацтвазнаўца-этнограф, даследуе разам з захопленым калектывам ужо амаль 30 гадоў. Шмат цёплых слоў пра гэтага дзівоснага чалавека было прамоўлена падчас вернісажу сваякамі, калегамі, сябрамі Фёдара Рыгоравіча. Вось што, у прыватнасці, казалі прадстаўнікі Беларускага саюза мастакоў.

Уладзімір Кароткі: "Працаваў ён у мясцовым клубе афарміцелем, потым на ткацкай фабрыцы ствараў узоры-арнаменты. Залатых рук майстар, збіральнік даўніны. І выдатны мастак. Яго жывапіс захапляе: такі шчыры, жывы..."

Святлана Наздрын-Платніцкая: "Ён апантана займаўся жывапісам. Кожны дзень Фёдара Шклярава пачынаўся з таго, што на досвітку, ва ўсялякі час года, нягледзячы на надвор'е, ён ішоў на эцюды, а потым ужо на працу".

Мікалай Шкляраў: "Мой бацька сэрцам адчуваў, якія глыбы духоўнасці тоіць у сабе народнае мастацтва... Сёння музей стаў гонарам Беларусі — сюды накіроўваюцца практычна ўсе замежныя дэлегацыі, якія бываюць на Гомельшчыне".

Сын Шклярава-старэйшага Мікалай прадстаўляе і Беларускі саюз мастакоў, і Саюз дызайнераў: стварае кампазіцыі, у якіх спалучае абодва гэтыя віды творчасці. Плакатам і фотаздымкам М. Шклярава, прадстаўленым на гэтай выстаўцы, уласцівае абстрактнае ўспрыманне падзей сучаснасці. Сын Мікалая, унук Фёдара Шклярава, Фёдар Шкляраў-малодшы асвойвае сакрэты сучаснага дызайну, камп'ютарнай графікі.

Творы мастакоў трох пакаленняў — бацькі, сына і ўнука — разгарнуліся ў панараму вобразнага асэнсавання гістарычных і сучасных падзей, чалавечых лёсаў, роднай беларускай прыроды. А вернісаж дынастыі Шклярaвых стаўся вечарынай светлых згадак пра Фёдара Рыгоравіча — мастака, калекцыянера, выдатнага чалавека.

***На здымку: Фёдар Шкляраў.***

# І майстра, і музыка

**Сярод рамёстваў ёсць пакуль малады, але цікавы від, які спалучае музычнае мастацтва і дэкаратыўна-прыкладное, — стварэнне музычных інструментаў. У гэтым можна было ўпэўніцца ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь на выстаўцы "…І заплакалі струны жывыя", якая ладзілася ўпершыню за час існавання Беларускага саюза майстроў народнай творчасці.**

**Раіса МАРЧУК,**
**фота аўтара**

У экспазіцыі былі прадстаўлены "жывыя" музычныя інструменты, створаныя васьмю майстрамі. Гэтыя вырабы памятаюць цеплыню іх рук, нясуць у сабе спрадвечныя традыцыі, захоўваюць непаўторны голас — голас беларускай зямлі. Нягледзячы на адметныя рысы, іх адно выкарыстанне традыцыйных для беларусаў матэрыялаў — гліны, дрэва, металу. А натхняла майстроў багатая спадчына народных рамёстваў. Напрыклад, майстар-керамiст Андрэй Мяцельскі ў сваёй творчасці арганічна спалучае набыткі народнага ганчарства і сучасныя дасягненні керамічнага мастацтва. Асаблівa любіць выраблять традыцыйныя акарыны, якія вызначаюцца адмысловымі формамі.

Сяргей Чубрык і Аляксандр Сурба адрадзілі выраб калісьці папулярных, пасля амаль забытых народных музычных інструментаў — дуды і ліры. Усе дэталі і кампаненты яны вырабляюць уласнаручна. Дзяніс Гром даўно і плённа займаецца вырабам самых розных музычных інструментаў, якія гучаць у шматлікіх фальклорных калектывах Беларусі. Асабліва цікавяць яго гліняныя акарыны і цацкі-свістулькі.

Старажытныя, даўно забытыя традыцыі вырабу драўляных гусляў адрадзілі Сяргей Смут і Аляксандр Чумакоў. Яны ж самі і выконваюць на гэтых інструментах розныя мелодыі — такія ж старажытныя, як і апетыя ў народнай паэзіі гуслі. Гліняныя акарыны Івана Савельева — не толькі музычныя інструменты, але і сапраўдныя творы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, узоры глінянай пластыкі. Такімі ж якасцямі вызначаюцца і вырабы Наталлі Русіян.

— Думаецца, у хуткім часе мы зможам стварыць секцыю, якая аб'яднае пакуль невялічкую групу майстроў-музыкаў, — распавёў старшыня Беларускага саюза майстроў народнай творчасці Яўген Сахута. — Гэтыя майстры вельмі ярка і цікава прадставілі найбагацейшы калісьці, а сёння адроджаны, раздзел народнай мастацкай творчасці — выраб музычных інструментаў, пачынаючы са звычайных цацак-свістулек, якія раней масава выраблялі не толькі ганчары, а нават хатнія гаспадыні і дзеці. Праўда, некаторыя майстры лічылі гэты занятак несур'ёзным, бо свістулькі ўспрымаліся часцей як дзіцячыя цацкі, забаўкі ці абярэгі. Сёння свістулькі ў якасці музычных інструментаў з поспехам выкарыстоўваюць некаторыя фальклорныя калектывы.





На выстаўцы можна было ўбачыць і больш складаныя музычныя рэчы — акарыны. Гэта тая ж свістулька, якая, аднак, мае своеасаблівы гук і нараджае надзвычай прыемную мелодыю.

— Так склалася наша гісторыя, што часам культурныя традыцыі іншых народаў мы ведаем лепш, чым свае, — крыху з горыччу заўважыў Яўген Сахута. — Прынамсі, многім знаёмая шатландская валынка, але мала хто ведае, што гэта наша традыцыйная, старажытная дуда, якую зноў жа адрадзілі маладыя майстры. А яшчэ "вярнулі" да жыцця рэдкі інструмент — ліру. Здаралася і так, што стваралі музычную рэч амаль з нічога. А іншы раз дапускалі і некаторыя вольнасці, бо хочацца майстрам прыўнесці штосьці сваё нават у традыцыйную рэч.

Тыя, хто змог завітаць на незвычайную выстаўку, упэўніліся: рукатворныя вырабы майстроў-музыкаў адзначаны чароўнай непаўторнасцю і самабытным харастом. А экспанаванне вынікаў работы народных майстроў у гэтай установе стала ўжо добрай традыцыяй. Дарэчы, тут маецца змястоўная калекцыя народных архаічных музычных інструментаў. Дырэктар Нацыянальнага гістарычнага музея Сяргей Вечар выказаў спадзеў, што музейныя фонды ў хуткім часе папоўняцца дзякуючы Беларускаму саюзу майстроў народнай творчасці.

***На здымках: музычны інструмент сакпіпа, ці шведская валынка; Андрэй Мяцельскі імправізуе на ўласна вырабленым барабане.***

## З глыбінкі

### Праз казку — да веры

На калядным тыдні Барысаўскае дабрачыннае падрыхтавала падарунак для дзяцей — сустрэчу з вядучым тэлепраграмы "Калыханка" Маляванычам. Вядомы артыст Аляксандр Ждановіч паказаў на сцэне малой залы Барысаўскага гарадскога Дома культуры тэатралізаванае прадстаўленне — казку "Айбаліт".

Юныя гледачы актыўна ўдзельнічалі ў развіцці сюжэта: дапамагалі доктару Айбаліту будаваць "карабель", паказвалі чаек і спявалі песні. У вясёлага медработніка нават з'явіліся памочнікі з глядзельнай залы — доктар Пілюлькін і медсястра Піпетачка. Акцёр, які вось ужо больш як два дзесяцігоддзі іграе на сцэне Рускага драматычнага тэатра імя М. Горкага, падарыў дзецям сапраўднае свята. Пасля заканчэння спектакля вырасла вялікая чарга з тых, хто жадаў сфатаграфавацца з любімым персанажам.

— Мерапрыемства носіць місіянерскі характар, — адзначыў настаяцель храма ў гонар святога Дзмітрыя Данскога айцец Сергій. — Аляксандр Ждановіч — глыбока веруючы чалавек. У сваім спектаклі ён не толькі заахвочвае дзяцей цікавымі гульнямі, але і вядзе размову пра Хрыста.

**Алеся ЧУМАКОВА,**
**г. Барысаў**

### «Ланч-канцэрты» для студэнтаў

Кожную сераду на вялікай перамене ў фае новага корпуса Полацкага дзяржуніверсітэта (у Наваполацку) гучыць музыка. Прычым, зусім не сучасная эстрада, а класічныя творы ў выкананні навучэнцаў і выкладчыкаў Наваполацкага музычнага каледжа. "Ланч-канцэрт", а менавіта так названы гэты сумесны праект, з кожным днём набывае ўсё большую папулярнасць.

Ідэю праекта рэктар Дзмітрый Лазоўскі "прывёз" са Швецыі. У музкаледжы прапанову ўспрынялі з цікавасцю. Гэтак з'явілася дамова на правядзенне ва ўніверсітэце паўгадзінных канцэртаў. Дзеля гэтага нават набылі зручныя крэслы з падлакотнікамі, на якія можна паставіць кубачак з кавай ці то гарбатай. А спецыялісты-кулінары распрацавалі новую рэцэптуру фірменных булачак з клубнічным джэмам. Усё — спецыяльна для "музычнага ланчу". Праект стартаваў 1 кастрычніка 2010 года, у Міжнародны дзень музыкі. Цяпер ужо стала традыцыяй распачынаць новы сезон у гэты дзень.

— Імкнёмся, каб музыка была яркая, жанры чаргаваліся, — кажа загадчыца аддзялення музыказнаўства Наваполацкага музкаледжа Алена Васільева. — Гэта і вакал, і сучасныя апрацоўкі, і акадэмічная музыка. Заўжды — у якасным выкананні. Перад студэнтамі і выкладчыкамі ўніверсітэта ўжо выступалі нашы салісты, струнныя, баянныя, акардэонныя ансамблі. Гучаў нават джаз.

У 2011 годзе менавіта праект "Ланч-канцэрт" быў прызнаны лепшым у намінацыі "Падзея года" і атрымаў адпаведны прыз Полацкага гарадскога ўпраўлення "Крыніца ведаў". Інтарэс да канцэртаў расце. Больш за тое, асабісты прыклад падае кіраўніцтва ўніверсітэта, наведваючы літаральна ўсе "музычныя ланчы".

**Любоў ТРАПЕЗНІКАВА,**
**г. Наваполацк**

## Конкурс

### Палажэнне аб літаратурным конкурсе і літаратурнай віктарыне, прысвечаных 70-годдзю часопіса «Вожык»

Літаратурныя конкурс і віктарына прысвячаюцца 70-годдзю адзінага дзяржаўнага выдання сатыры і гумару — часопіса "Вожык". У рамках літаратурнага конкурсу прадугледжваецца асобная намінацыя "Тэмы для малюнкаў".

Журы, у склад якога ўваходзяць вядомыя пісьменнікі, вызначыць 3 прызавыя месцы ў літаратурным конкурсе, 3 — у намінацыі "Тэмы для малюнкаў" і 3 — у літаратурнай віктарыне.

У мэтах прапаганды роднай мовы конкурсныя работы прымаюцца да разгляду на беларускай мове, на якой і выходзіць часопіс "Вожык".

Тэматыка і жанры твораў самыя розныя: гумарэска, байка, пародыя, эпіграма, фельетон, жарт, сатырычная мініяцюра і інш.

Пераможцамі літаратурнай віктарыны стануць тыя, хто найбольш поўна і цікава адкажа на пытанні.

Журы асабліва будзе вітаць і заахвочваць удзел у конкурсе творчай моладзі.

Падвядзенне вынікаў конкурсу і віктарыны адбудзецца на традыцыйным свяце гумару (пачатак красавіка 2012 года) з уручэннем узнагарод. Аўтарам лепшых твораў будзе прадстаўлена магчымасць выступіць з імі на свяце гумару.

Лепшыя творы плануецца таксама надрукаваць у часопісе "Вожык".

Пераможцы конкурсу і віктарыны будуць узнагароджаны дыпломамі Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, граматамі РВУ "Літаратура і Мастацтва", памятнымі сувенірамі, падпіскай на часопіс "Вожык".

Конкурс і віктарына праводзяцца да 20 сакавіка 2012 года.

Работы, набраныя на камп'ютары, дасылаюцца на адрас 220034, г. Мінск, вул. Фрунзе, д. 5, пакой 309, Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі альбо на адрас 220005, г. Мінск, пр-т Незалежнасці, д. 39, рэдакцыя часопіса "Вожык".

Канкурсанты ўказваюць прозвішча, імя, імя па бацьку, дату нараджэння, хатні адрас з паштовым індэксам, кантактныя тэлефоны.

***Тэлефоны для даведак: 284-84-52, 335-28-18, 335-28-20.***

### Пытанні для літаратурнай віктарыны

1. Дзе нарадзіўся "Вожык"?
2. Хто быў першым рэдактарам газеты-плаката "Раздавім фашысцкую гадзіну"?
3. Калі газета-плакат "Раздавім фашысцкую гадзіну" пераўтварылася ў часопіс "Вожык"?
4. Назавіце прозвішчы галоўных рэдактараў "Вожыка".
5. З якога года пачала выходзіць "Бібліятэка «Вожыка»", і хто ў ёй выдаваўся?
6. Назавіце двух выдатных байкапісцаў, якія ў свой час былі галоўнымі рэдактарамі "Вожыка".
7. Ці ёсць сярод галоўных рэдактараў "Вожыка" жанчына? Як яе прозвішча?
8. Назавіце прозвішчы найбольш вядомых беларускіх карыкатурыстаў-вожыкаўцаў.
9. Назавіце найбольш папулярныя жанры сатыры і гумару, якія выкарыстоўвае "Вожык".
10. Творы якога "сумнага" жанру друкуюцца ў "Вожыку"?

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п.4а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2300 рублёў
Наклад — 2861
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 19.01.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 284
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12